# ПЛЯТОН

# ВЫБРАНЫЯ ДЫЯЛЁГІ

ПАРМЭНІДЭС

МЭНОН

# PLATO

## PARMENIDES

## MENO

In Byelorussian

Translation from Greek text

Preface

and

Commentary

by

John Piatroŭski

1976

# ПЛЯТОН

Выбраныя дыялёгі

# ПАРМЭНІДЭС МЭНОН

З грэцкага тэксту на беларускую мову пераклаў,
папярэдзіў уводзінамі і агледзіў камэнтарамі

ЯН ПЯТРОЎСКІ

1976

Тытулы арыгіналаў

Παρμενίδης

Μένων

Шчырая падзяка Міхасю Кавылю
за ягоную гатовасьць супрацы
ў прадмеце вершаванага тэксту

Published by
John and Alice Piotrowski
Byelorussian Charitable Educational Fund

1716 N. E. 7th Terrace
Gainesville, Florida 32601
U. S. A.

Дыялектыка зьяўляецца працэсам
крытыцызму, у якім ляжыць шлях
да прынцыпаў кажнага досьледу.

Арыстотэлес

Тытулы арыгіналаў

Παρμενίδης

Μένων

Шчырая падзяка Міхасю Кавылю
за ягоную гатовасьць супрацы
ў прадмеце вершаванага тэксту

Published by
John and Alice Piotrowski
Byelorussian Charitable Educational Fund

1716 N. E. 7th Terrace
Gainesville, Florida 32601
U. S. A.

Дыялектыка зьяўляецца працэсам крытыцызму, у якім ляжыць шлях да прынцыпаў кажнага досьледу.

Арыстотэлес

## ЗЬМЕСТ



=

# НОРМА ДУХА

Працэс гістарычны, які агульна прынята называць цывілізацыяю або ступеньню разьвіцьця духовае і матэрыяльнае культуры, асягнутае дадзенаю духова-грамадзка-эканамічнаю хвармацыяю, пачатак свой выводзіць з геніяльнасьці антычных грэкаў.

Чацьвертая кніга дыялёгаў Плятона на беларускай мове, якая ў травені 1975 г. была выпушчана ў сьвет, 1/ сярод іншага матэрыялу, як уступ да перакладу, зьмяшчае ў сабе нарыс праф. Ґільбэрта Маррэйя п.т. "Вартасьць Грэцыі для будучыні сьвету". Нарыс гэты, са шматлікіх кутоў гледжаньня, зьяўляецца характэрным, гэтак з самога свайго ўжо тытулу, як і з прычыны ягонага зьместу. Гэта, між іншым, і сталася прычынаю, чаму перакладчык уважаў для сябе мэтазгодным прадставіць яго беларускаму чытачу.

У сваей аналізе поступу сярод людзкае расы, супроцьстаўляючы нашую сучаснасьць антычнай грэцкай рэчаіснасьці і, маючы на ўвазе прышласьць сьвету, др Маррэй ужо на першай бачыне рэасумуе зьмест свайго нарысу, калі ён кажа: У грэцкай рэчаіснасьці "ўсё вымерваецца нормаю духа, для якога дакананая рэч зьяўляецца малою, і вартасьцю розуму, які праявіў сябе ў ёй гэтак многа, і які ня шмат клапоціцца пра суму атрыманае веды, але барджэй праяўленьнем любові да веды, меней зьвяртае ўвагу на добрае палітычнае самакіраўніцтва, чымся на свабодны акт гераізму чалавека" /бач. 9/. У гэтым, паводля аўтара, ляжыць веліч Залатога Веку старажытнае Грэцыі. І ўсё, што ён гаворыць далей на 21-ой бачыне, зьяўляецца адным доўгім довадам гэтага сьцьверджаньня.

Мы ляпей зразумеем выражэньне, "усё вымерваецца нормаю духа", калі бліжэй прыгледзімся да яго. Калі мы згодзімся, што паняцьце духа ў нашым выражэньні - гэта нематэрыяльная інтэлігэнцыя, дзеючая незалежна ад якіх-небудзь фізычных чыньнікаў; або: чалавек з праяўленьнем пашаны да своеасаблівых і вышэйшых характэрных сваіх рысаў, накіраваных у напрамку лепшых праяваў жыцьця і прагрэсу свайго часу 2/, і, калі гэтакая дэфініцыя будзе для нас ад-

1/ Плятон, Выбраныя дыялёгі, Протаґорас, Гіп-

паведнаю, тады ня трудна будзе вылушчыць тое, што аўтар мае на ўвазе.

Паводля гэтае канцэпцыі, інтэлігэнтны чалавек разумее, што дакананая рэч мае аграмаднае значэньне /прынамся для яго/і, што аграмаднасьць гэтая знаходзіцца ў працэсе прыходу самое рэчы да быцьця. Аднак, з тою самаю хвілінаю, калі рэч завяршылася, яна "губіць" сваю велічнасьць і стаецца малою. Гэта можа для каго-небудзь гучэць дзіўна, але тут, якраз, ляжыць той прынцып, паводля якога адбываецца прагрэс на сьвеце, творацца цывілізацыі. Для прыкладу: У вельмі далёкім і аддаленым ад нас часе, чалавек для транспарту і зносінаў ужываў свае ногі і плечы. Пры помачы іх ён пераказваў зь месца на месца вестку і пастарчаў апал зь лесу для свае хаты... Пазьней, ён упаў на думку змайстраваць тое, што сягоньня мы называем калясом; чалавек палепшыў калясо і прымайстраваў да яго воз, які з часам ён гэтаксама палепшыў і ўпрыгожыў, упрагаючы да яго каня. Пазьней, замест каня, ён пачаў ужываць матор. Пасьля, пасьпяваючы ў гэтым самым напрамку, ён вынайшоў ракету і пры помачы яе асягнуў проста "неасягальнае": ён зь Зямлі заляцеў на Месяц, і зь Месяцу вярнуўся на Зямлю! Акт, дакананы на працягу адносна доўгага часу: ад ног да ракеты. Гэта ёсьць поступ. І далей: З тою самаю хвілінаю, калі чалавек адбыў падарожжа на Месяц, чын гэты стаецца для яго "малым". Цяперака ён плянуе падарожжа на Марс і г.д., і г,д.Прыклад разьвіцьця камунікацыі мы падаем тут толькі для ілюстрацыі імкненьняў чалавека. Характэрным зьявішчам ёсьць,што прагрэс гэты адбываецца ў кажнай дзялянцы людзкага жыцьця: У архітэктуры - зь пячоры чалавек выйшаў і пабудаваў аграмадныя палацы, сьвятыні і небаскробы зь нячуванымі дагэтуль выгадамі як і ня меншым мастацтвам; у мэдыцыне, пачынаючы ад забабону і знахарства, ён дайшоў да задзіўляючых вынікаў у службе здароўя для самога сябе і для ўсяго, што жыве на Зямлі; з каменнага веку ён выйшаў у кірунку тэхналёгіі, ствараючы мэханчныя мазґі, якія ён назваў кампутарам.І нятолькі ў сфэры рэчаў канкрэтных назіральным ёсьць поступ. Цьвіце ён гэтаксама ў галіне людзкага духа: канфэрэнцыі, нарады, саборы ў сфэры нашае рэлігійнае веры зьяўляюцца тымі вехамі на дарозе пашаны чалавека да чалавека, з адначаснаю натугаю вызлімінаваньня ўзаемнае неталяранцыі;

---

піяс вяліквы, у маім перакладзе, ЗША, 1975.

2/ Паводля Вэбстэра.

у філязофіі, ад няпамятных часоў, разгортваецца паступ людзкае думкі на шляху прыязнага допушчэньня дыялёгу ў васяродзьдзе чалавека з адважным падходам да кажнага пытаньня, якое можа быць сустрэтым у жыцьцёвым павязаньні.

Кажны праўдзівы мастак з запалам аддаецца свайму занятку, як доўга ён знаходзіцца ў працэсе тварэньня. Але, калі працэс тварэньня завяршаецца асягненьнем, запал астывае. Зацікаўленьне зноў будзіцца, калі выступае новае мастацкае ўяўленьне, калі хвармуецца новая ідэя. Калі-б мастак, пасьля дакананае рэчы, астаўся здаволеным, ён, праўдападобна, не патрабаваў-бы клапаціцца пра свой новы твор.Калі-б гэтакая рэч здарылася зь ім, тады-б мы сказалі, што мастак трапіў у стан рэгрэсу. Бо ўсё тут "вымерваецца нормаю духа, для якога дакананая рэч стаецца малою, і вартасьцю розуму, які праявіў сябе ў ёй гэтак многа".

Розум - або найвышэйшая здольнасьць людзкага думаньня. Чалавек, які ўключыўся ў прагрэс, можа быць найболей карысным, калі ён у сваей дзейнасьці кіруецца розумам. Гэта была яна тая вартасьць розуму, якая праявілася ў людзей рознага мастацтва і чыну, у людзей, якія з прычыны свайго розуму, сталіся клясычным наўзорам прышлым пакаленьням. Розум "ня шмат рупіцца пра суму атрыманае веды, але барджэй праяўленьнем любові да веды". Атрыманая веда і любоў да веды - гэта дзьве розныя рэчы. Атрыманая веда - гэта вымераная колькасьць веды, якая часта маладых людзей прыводзіць да памылкі ў ацэне свае ўласнае адукацыі. Тут, магчыма, крыецца ведамае зьявішча, каторае мы называем "супачынкам на ляўрах", якое часта ў гісторыі для многіх людзей і народаў вязалася з паняцьцем трагэдыі. Але наяўнасьць "любові да веды" - гэта фактар, які трымае чалавека стала абуджаным да веды, да новых канцэпцыяў, да поступу... І зьявішча гэтае сярод людзей пэрманэнтнае, як любоў юнака да дзяўчыны. Гэта яна, любоў да веды, якая вядзе да трапнае ацэны і пастановы, да праўдзівага чыну, да мудрасьці.

І гэтая самая мудрасьць "меней зьвяртае ўвагу на добрае палітычнае самакіраўніцтва", але барджэй "на свабодны акт гераізму чалавека". Тут уваходзім у адумысную сфэру дзейнасьці. Дзейнасьці гэтай, з прычыны яе важнасьці, Сакратас з Плятонам удзяляюць асаблівую ўвагу. Мудрасьць можа зьвярнуць сваеасаблівую ўвагу на добрае палітычнае самакіраўніцтва, пад умовай, што яно не прэтэндаваціме на дас-

каналасьць і гэтым самым на сталасьць для ўсіх вякоў. Мудрасьць, біручы пад увагу натуру чалавека, мае на ўвазе поступ палітычнае думкі. З гэтае прычыны яна дамагаецца права для кажнага чалавека свабоды самавыражэньня ў слове перш, пасьля ў чыне.

З другое стараны, кажнае самакіраўніцтва, на дадзеным этапе свайго разьвіцьця, можа быць добрым, пад умоваю, што на чале яго стаяць людзі, аддадзеныя справе служэньня сваей супольнасьці, са зразуменьнем кажнага праяву грамадзкага жыцьця і патрэбаў жывога чалавека. Пры адсутнасьці палітычнае мудрасьці найболей сьвятое перакананьне можа быць зьведзеным да вывышэньня невялікае групы, у сэнсе духовым, маленькіх людзей са смакам задаволеньня найменшым чынам і дробнымі рэчамі.

Паняцьці, праґрэсыўны і рэґрэсыўны, паступовы і адсталы, індустрыяльны і аґрарны, жыцьцяздольны і заняпалы, у пераважнай ступені сягоньня адносяцца да народаў. Натуральна, пазытыўны аспэкт, як і нэґатыўны, які тут можа выступаць, выступае, дзякуючы нейкай прычыне. Праф. Маррэй сьцьвярджае, што "для большае часткі ўсіх расаў і народаў на працягу ўсенькага іхнага жыцьця яны ня чыняць ніякага праґрэсу, адно толькі валочаць мізэрнае існаваньне, часамі толькі ўдаецца ім утрымацца на ўзроўні сваіх звычаяў, а часамі нават зьніжаюцца па пахілай назад. Тут ляжыць прычына чаму гісторыя маўчыць пра іх. Гісторыя сьвету, - кажа далей аўтар, - складаецца пераважна ў памяці тых вякоў, - нешматлікіх колькасна, - у якіх пэўная частка сьвету ўздымаецца вышэй за самую сябе і разгортваецца ў пышную кветку".

Мы ня ведаем ніякага рэнэсансу сярод народаў, якія-б ня быў папярэджаны ўводзінамі спадчыны старажытных грэкаў.

Старажытны сьвет быў маладым сьветам, "у кажным выпадку Заходні сьвет, сьвет праґрэсу і пашаны чалавека да чалавека. Бо пачаткі бадай-што ўсіх вялікіх рэчаў, якія праґрэсыўны розум цяперака далей працягвае, калісьці былі заложанымі ў Грэцыі".

***ЯН ПЯТРОЎСКІ***

## ДА ДЫЯЛЁГУ "ПАРМЭНІДЭС"

З усіх ведамых нам ужо Плятонавых дыялёгаў Пармэнідэс зьяўляецца, у поўным значэньні гэтага слова, сваеасаблівым. Прачытаць дыялёг - гэта яшчэ ня ўсё, а зразумець зьмест яго - праблема.

Каб пранікнуць думку, якою Плятон хоча падзяліцца з чытачом, трэба мець на ўвазе ня толькі зьмест іншых ягоных дыялёгаў, але мець гэтаксама на ўвеце пагляды тых філёзафаў, якія сталіся папярэднікамі Сакратаса; трэба займець угляд у г. зв. перадсакратычную філязофію, і адсьвежыць прысутнасьць Іёнскае школы на ўсходзе і другое школы на заходнім узьбярэжжы грэцкіх уплываў у месьце Элея ў Італіі.

=

Гэтак званная перадсакратычная філязофія адносіцца прыблізна да часу паміж 600 і 400 гг. п.н.э. і абыймае сабою некаторых ужо ведамых нам філёзафаў, што ўваходзяць у Іёнскую школу.[а/] У гэтым пэрыядзе часу што раз болей і болей пачынае крысталізавацца пагляд на сьвет, ягоную натуру як і на мэтанакіраванасьць. Узьнікала пытаньне: Скуль? Як усё, што бачым і ня бачым, прыйшло да быцьця? І, перад усім: Натура крыніцы быцьця? Згэтуль мала памалу, як будзем бачыць, у сьведамасьці чалавека выступае канцэпцыя таго, што ў розных мовах сьвету розна называецца, а ў беларускай - Бог.

Гэта быў Гэраклітос, студэнт Іёнскае школы, каторы займаўся пытаньнем Сьведамасьці ў сьвеце. У сваей спэкуляцыі ён прыходзіў да выснаву, што сьветам кіруе Розум, Думка, Слова, Лёгос... "Ён утрымліваў, што спасьцярожны сьвет зьяўляецца жывым і адухоўленым і, што тое, што яго трымае ў жыцьцёвай раўнавазе, ёсьць агонь або Лёгос. Усё на сьвеце знаходзіцца ў сталым руху, усё жыве, дзякуючы дзейнасьці ў ім Лёгосу. Лёгос ёсьць сілаю на сьвеце і сілаю сам у сабе".[б/]

=

а/ Плятон, Выбраныя дыялёгі, у маім перакладзе, 1967, бб. 17-19.

б/ Беларуская Думка, №14, 1971-1972, б.9.

На заходнім узьбярэжжы грэцкага сьвету хвармуецца школа філязафічнае думкі, якая ўвайшла ў гісторыю філязофіі як Элейская школа. Расьцьвет яе прыпадае на шостае і пятае стагодзьдзе п.н.э.Назоў свой школа выводзіць ад места Элея /'Ἐλέα, Velia/, паложанага на заходнім узьбярэжжы ў акрузе Люканія ў паўдзённай Італіі. Зь ёю вяжуцца гэтакія гістарычныя імёны, як Ксэнофанэс з Колёфону на ўзьбярэжжы Малое Азыі, Пармэнідэс з Элеі, Пітаґорас з Самосу, Зэнон з Элеі і ін. Адны з дасьледчыкаў утрымліваюць, што школу запачаткаваў Ксэнофанэс, а іншыя, што – Пармэнідэс.

Што да дзьвюх успомнутых школаў, пайменна, Іёнскае і Элейскае, трэба мець на ўвазе, што пераважная розьніца між імі – гэта розьніца ґэоґрафічная. На працягу свайго існаваньня яны толькі дапаўняліся, выпрацоўваючы філязафічныя пагляды, якія актывізавалі іхны час, ператрывалі тысячалецьці і дайшлі ў сваей жыцьцёвасьці да нашых дзён.

Элейская школа, або як яе некаторыя з дасьледчыкаў /Вэрнэр Еґэр, для прыкладу/ называюць другою школаю, – маючы на ўвазе, як першую, Іёнскую, – паўстала барждзэй з прычынаў чыста палітычных і ў вапрычонасьці інвазыі Мэдаў на абшары разьмяшчэньня Іёнскае школы. Ксэнофанэс з Колёфону і Пітаґорас з Самосу прыбылі ў Элею як эміґранты з усходу, тады як Пармэнідэс быў уроджаным у гэтым месьце, вельмі магчыма, з бацькоў, гэтаксама вызміґраваных раней з узьбярэжжаў Малое Азыі. Да іх далучыліся іншыя думаньнікі. Так ці інакш, філязафічныя традыцыі пераносіліся з усходніх ускраінаў Грэцыі на захад на італьянскія землі.

Іёнска-элейскія традыцыі цесна вязаліся з пытаньнем сьветапагляду, з пытаньнем натуры гэтага сьвету, з пытаньнем самога быцьця. У пошуках працягласьці назіраньняў, паглядаў, ідэяў гэтае групы філёзафаў, найболей відавочным стаецца, што пераймальнікамі філязафічнае спадчыны зьяўляюцца Сакратас і Плятон, каторыя нясуць паходню сьвятла на працягу ўсіх гадоў расьцьвету іхнае дзейнасьці,пераказваючы пазьней яе сваім спадкаемнікам – Арыстотэлесу і ягонай школе.

Гэтая працягласьць філязафічнае думкі ў сваей філязафічнай пэрфэкцыі нагэтулькі ўдырваючаю зьяўляецца, што яна прыводзіць чалавека да надзвычайных спасьцярогаў у тым сэнсе, што:

Калі-б Ісус з Назарэту радзіўся ў часе Плятона, а Плятон – у часе Ісуса, пакідаючы нам свае дыялё-

гі, мелі-б мы шмат дадзеных цьвердзіць, што Плятон тварыў свае дыялёгі пад сільным уплывам навукі Хрыста.

На парозе нашае эры назіраем зьявішча, калі чалавек, узгадованы ў юдаізьме, нагэтулькі захопленым быў прыгожасьцю і чалавечнасьцю грэцкае філязофічнае думкі і ў вапрычонасьці плятонізмам, што ён чыніць паважныя спробы філязафічныя элемэнты двух сьветаў, стоячых супроць сябе, злучыць у вадну сьветапаглядную цэласьць. Маем тут на ўвазе Філёна Александрыйскага - жыдоўскага вучонага і філёзафа, які жыў прыблізна ў гадох паміж 20 п.н.э.і 50 н.э. Будучы пацягнутым прыгожасьцю і разумнасьцю грэцкае філязофіі, ён утрымліваў пагляд сузгоднасьці паміж грэцкаю і жыдоўскаю думкаю, і грэцкі Лёґос у яго выступае як злучво паміж дзьвюма сыстэмамі, а Плятонавыя ідэі ён хоча бачыць як Майсеевыя анялы.

Карль Яспэрс сьцьвярджае: Аўґустын зьяўляецца нэоплятонікам. Ён заменьвае Плятонавага Дэміурґа, каторы з матэрыі ў прасторы паклікаў сьвет да быцьця, на біблійнага Стварыцеля сусьвету, каторы стварыў яго зь нічога, - Плятонавы сьвет ідэяў перайначыў у думкі Бога, зь якіх выступіла паняцьце Лёґосу, - і замест самаасвабаджэньня дарогаю звароту, увёў выбаўленьне са спадчыны грэху праз Ласку.[в/]

Гаворачы пра ідэю Аднаго Бога для сусьвету,Вэрнэр Еґэр /**The Theology of The Early Greek Philosophers, 1964,б.48/** кажа: У Заходнім сьвеце, унівэрсалізм не пачынаецца хрысьціянамі ані ізраэльскімі прарокамі, ён пачынаецца грэцкімі філёзафамі. Калі Сьв. Аўґустын у сваім творы **De civitate Dei** гаворыць пра грэцкую філязофію, як пра прадвесьніцу хрысьціянскае рэлігіі, у сувязі з гэтым, ён дае старанна акуратную справаздачу адносна гістарычных суадносінаў паміж гэтымі дзьвюма. [г/]

Дактрыны прадстаўнікоў Элейскае школы першапачатак свой бяруць ад Ксэнофанэса, тады, як Пармэнідэс і Зэнон распрацоўваюць іх у сыстэму мэтафізыкі.[г/] Знаменным тут выступае факт, што элейская

---

в/ **Karl Jaspers, Die Grossen Philosophen, München, 1957, erster Band, S. 316.**

г/ **Civ. Dei, VIII**, асабліва **C. II.**

г/ Слова мэтафізыка выводзіцца з двух грэцкіх словаў: μετά, па, за, па-за, і τά φυσικά, рэчы якія адносяцца да натуры; м. займаецца першапрычынамі быцьця і ягонае натуры і часта ўтоесамліваецца з онтолёгіяю.

думка сьведама і рашуча выступае супроць матэрыялістычнае філязофіі, /усяроўна, як тады пытаньне гэтае разуметым было/, Іёнскае школы як і супроць Гэраклітосавае тэорыі адносна сусьветнага сталага руху і зьменнасьці /πάντα ῥει/. Элейская школа падтрымлівала пагляд, што сьвет ёсьць бязьзьменным і астаецца бязьмежным гэтак у часе як і прасторы, і знаходзіцца па-за межамі агарненьня яго людзкімі змысламі. Яго пазнаць можна толькі пры помачы філязафічных рэфлексыяў, гэтак як і Ультыматыўную праўду пазнаць можна вылучна пры помачы філязавічнага глыбейшага разважаньня і аналізы. Бо змысловая назіральнасьць зманьваючаю астаецца, яна абмежаванаю ёсьць і выяўляе зьінaчаны спазор рэчаіснасьці. д/

Знаменным і першараднага значэньня астаецца факт, што ўжо ў тым сівым часе Элейская школа вызнавала пагляд прысутнасьці Аднаго Бога ў сусьвеце.

Выходзячы з гэтага разважаньня, прадстаўнікі яе чыняць папрок Гомэру і Гэзіёдосу. Ксэнофанэс, для прыкладу, папракае Гомэра і Гэзіёдоса за прыпісваньне багам усіх тых чынаў, якіх, кажны паважаючы сябе чалавек, саромяцца будзе. Ён гэтаксама выступае супроць ґлёрыфікацыі атлетаў, не паменшваючы гіґіены для чалавека ў аднясеньні да спартовых практыкаваньняў і гульняў.

Ксэнофанэс быў вандроўным паэтам і апавяшчальнікам сваіх філязафічных перажываньняў. Але ён ня быў, як Ґомпэрц думае, копіяю рапсода Іёна, прадстаўленага нам Плятонам /дыялёг "Іён"/, вандруючага зь места ў места і зьбіраючага апляўз сваіх слухачоў і выхваляючага гомэраўскія нябываліцы пра багоў. Гэты адважны і самаўпэўнены змагар, грубы і скрайна бесцэрэмонны, быў самым сабою і рэпрэзэнтаваў толькі самога сябе. Ягонае шчырае захопленьне сваім паклінаньнем вылівалася ў змаганьне за праўду, якую ён бачыў, як выступаючую ў новым сьветле дня з руінаў папярэдніх сьветапаглядаў; і гэты ягоны запал быў шчырым і натуральным. Адзінаю толькі нятрапна зразуметаю думкаю адносна яго ёсьць тое ў мадэрнай інтэрпрэтацыі, што быў ён быццам прафэсыянальным рапсодам у аднясеньні да Гомэра. Бо га-

д/ Крыху пазьней, рэха гэтага пагляду знойдзецца ў Плятона, каторы будзе пытаць: Ці ня выдаецца вам адна і тая самая вялічыня большаю з блізка і меншаю з адлегласьці? І гукі аднолькавага насіленьня з блізка выдаюцца сільнейшымі, а з пэўнае адлегласьці - слабейшымі? /"Протаґорас", 356/.

лоўнаю задачаю рапсода было падтрымліваць Гомэравую афіцыяльную клясычную павагу, і гэта было якраз тое, супроць чаго Ксэнофанэс выступаў найболей рашуча. I ў гэтым дачыненьні Ксэнофанэс быў інтэлектуальным рэвалюцыянерам. /В. Еґэр/.

Гэта быў гістарычна-рэвалюцыйны мамэнт ў хворме ўтоенага антаґанізму паміж новым філязафічным думаньнем і старым мітам, агортваючым сабою ранейшыя асягненьні грэцкага духа, які цяперака выбухнуў у яўны канфлікт. Судыраньне было няўхільным. У часе, калі першыя думаньнікі новае філязофіі ўсё яшчэ ня выступалі са сваімі выкрыцьцямі ў дыскусіях, Ксэнофанэс чыніць сьвет міту галоўным пунктам свае апазыцыі. I гэта ня было безразважнасьцю, што ён, паэта, павінен спрычыніцца да сытуацыі, якая вытварыць няшчасьце для ўсяе папярэдняе паэзыі. Для яго было гэта само сабою зразумелым, што паэта зьяўляецца адзіным запраўдным вучыцелем людзей, і праца ягоная - адзіным адказным аўтарытэтам у галіне <u>пайдэйі</u>. Так, сталася гэта, дзякуючы Ксэнофанэсу, што дзееньне, - сьведама прышчэпленых ідэяў у інтелектуальную цыркуляцыю крыві Грэцыі, - пачалося. /В. Еґэр/.

Выступае гэта характэрным мамэнтам для ўзьдзееньня раньняе грэцкае філязофіі на найболей асьвечаныя тагачасныя розумы, што праблема Бога стаецца цэнтральным пунктам Ксэнофанэса. Гэта зьяўляецца найлепшым довадам да якое ступені новыя дактрыны адносна першапачаткавасьці сьвету ўрываюцца ў васяродзьдзе рэлігіі. /В. Еґэр/.

I гэта быў Ксэнофанэс, каторы першы аб'яўляе вайну старым багам гэтакімі поўнымі ўражаньня словамі:

Адзін Бог найвышэйшым ёсьць між людзьмі і багамі;
Ані ў думцы і хворме непадобны ён да сьмяротных.

З поўным пераканаsuccessьнем ён тасуе свой філязафічны ўгляд у сьвет антропоморфічных багоў Гомэра і Гэзіёдоса - сьвет, які дагэтуль уважаным быў за чыста гістарычны факт, цяперака распадаўся.

Ксэнофанэс казаў, што, калі-б рагатае быдла і коні мелі рукі і ўмелі-б маляваць, яны-б гэтаксама выяўлялі сабе багоў у хворме быкоў, кароваў і коней. Ён пісаў:

...Але, калі-б рагатае быдла і коні былі
здольнымі
Маляваць сваімі рукамі, і маляваць на ўзор, як
людзі ўмеюць,

Тады-б коні малявалі багоў у хворме коней,
І каровы - паводля рагатое скаціны, надаючы ім хворму,
якую яны знаходзяць у сабе.

І далей:

...Багі этыёпаў зьяўляюцца чорныя з выгнутымі насамі,
Тады як трацыянскія - выступаюць бляндынамі з блакітнымі вачыма і чырвонымі валасамі.

З гэтага, кажная раса апотэозуе свой уласны тып багоў. Багі грэкаў, можна быць пэўным, найпрыгажэйшыя; але гэта не дае ім ніякага лепшага права ўважацца за вылучна праўдзівых багоў. Яны адлюстроўваюць толькі адну апрычоную людзкую расу, што пацьвярджаюць словы паэты:

**Dass jeglicher das Beste, was er kennt,**
**Er Gott, ja seinen Gott benennt.** e/

Але Ксэнофанэс на гэтым не затрымліваецца. Што найменей адна рэч для яго ёсьць пэўнаю: людзкі розум ёсьць недастатковаю хвормаю, якою можна агарнуць гэтае бязьмежнае ўсё-кіруючае Адно, якое філёзафы ўзналі як Прынцып усіх рэчаў. Ксэнофанэс піша, што Бог "бачыць як цэлае, думае як цэлае, чуе як цэлае". І гэтым Божае сумленьне незалежным астаецца ад змысловых орґанаў або ад чаго-небудзь падобнага. З другое стараны, Ксэнофанэсавы Бог бясспрэчна рэпрэзэнтуе сабою, як сумленьне, асабістае існаваньне - факт, які адрозьнівае яго ад таго, што Анаксімандэр называе Боскасьцю. І ў гэтым дачыненьні, ніхто не павінен сумлявацца, што Ксэнофанэс фактычна моліцца да свайго Бога. /В. Еґэр/.

=

У гэтым пэрыядзе часу выступае, паводля Арыстотэлеса, вучань Ксэнофанэса, філёзаф Пармэнідэс з Элеі ў Маґна Ґрэцыі ў Ніжняй Італіі, - найболей арыгінальны і важны думаньнік перад Сакратасам, каторы радзіўся каля 515 г.п.н.э. Гэта быў ён, каторы займеў рашаючы ўплыў у напрамку зьмены грэцкага пагляду на сьвет як і ўплыў на навуказнаўства і мэтафізыку. Ён быў адным зь першых грэцкіх думаньнікаў, каторы ўносіць свой выняткавы ўклад у сфэру глыбокага і прадуманага выяўленьня першапачаткавых

e/ Goethe, Gott, Gemüt und Welt, vv. 23-4, (Sämtliche Werke, Jubiläumsausgabe, Bd.IV, S. 4).

зарысаваньняў быцьця, што, і да гэтага ўжо /Гэзіёдос/, пачало прыймаць хворму пытаньня тэолёгічнага характару. Пармэнідэс быў першым, каторы засяродзіў увагу грэцкага сьветапагляду на цэнтральнае пытаньне грэцкае мэтафізыкі, ставячы цэлы рад пытаньняў, як: Што крые ў сабе або, якую натуру мае фактычнае быцьцё, ствараючы гэтым асновы да далейшае дыскусыі.

Пармэнідэс, каторы, магчыма, быў на 25 гадоў маладзейшым за Гэраклітоса, адным зь першых уводзіць у дыскусыю г.зв. дэдукцыйнае разважаньне, сутнасьць якога заключаецца на выводжваньні падрабязных высноваў з залажэньняў /цьверджаньняў/ або тэзаў болей агульных. Дэдукцыйнае разважаньне ён дабравольна ставіць перад довадамі змыслаў. Ягонае мотто было: Суд ня можа апірацца на воку або вуху ці языку, але на лягічнай думцы.

Пармэнідэс, як гэта пераважна прынята было ў тым часе, пісаў у хворме вершаванай, і ягоная праца ці працы не дайшлі да нас у цэласьці. Зьмест таго, што ён пісаў, ня зусім ведамым астаецца да сягоньняшняга дня. У некаторых пісьменьнікаў філёзафаў, /для прыкладу, Сэкстус Эмпірыкус – з трэйцяга ст./, тут і там знаходзім цытаты, якія прыпісваюцца Пармэнідэсу. Усё, разам зложанае, дае гэтакі вобраз: Пармэнідэс, магчыма, напісаў твор у вершаванай хворме п.т. "Пра Натуру" /Περί φύσεως/.ж/ Паводля дайшоўшых да нас фраґмэнтаў гэтага твору, на ўступе, як гэта пераважна бывае ў рэлігіях сьвету, Пармэнідэс адбывае падарожжа недзе, праўдападобна не на зямлі, але дзесь на вышынях нябёсаў, мае сустрэчу зь нейкімі іншымі стварэньнямі, якія выяўляюць яму праўду. Тут нічога новага. Новае, аднак, у Пармэнідэса тады выступае, калі ён, як чалавек, пачынае, падобным сабе, гаварыць пра выснаў, да якога ён прыйшоў у працэсе доўгага разважаньня. Ён чыніць выснаў, што, калі наагул сьвет рэальны існуе /у дыялёгу частае εἰ... ἔστιν – калі ... ёсьць/, тады мусіць быць... І тут выступаюць тры элейскія гіпатэзы:

Першая гіпатэза: Існуе толькі Адно; бо, калі болей, чымся адно, тады адзінасьць будзе распадзеленая "нечым іншым, што ня ёсьць".

Другая гіпатэза: Гэтае Адно зьяўляецца вечным і нязьменным. Бо гаварыць пра зьменнасьць або зьнішчэньне ў сьвеце – гэта роўназначна таму, што казаць,

---

ж/ Тэма, якая часта выступае ў філёзафаў раньняе пары.

што рэчаіснасьць у пэўным часе "ня ёсьць" тым, чым была; зноў-жа, казаць, што "тое, што ёсьць", "ня ёсьць" - зьяўляецца супярэчнасьцю і немагчымасьцю.

Трэйцця гіпатэза: Адно знаходзіцца ў стане супачынку. Гэта выяўляецца зь ягонага сьцьверджаньня, што "ўсё ёсьць напоўнена тым, чым яно ёсьць". Калі яму немагчыма прызнаць супыненьня або недахопу аднароднасьці і, калі "тое, што ня ёсьць, ня ёсьць", тады немагчыма давесьці неабходнасьці руху ў прасторы.

Вось, гэтакім спосабам Пармэнідэс, на падставе выходнага разважаньня ягоных папярэднікаў, што рэчаіснасьць - гэта адно, думае, што ён давёў, што разнароднасьць рэчаіснасьці ніколе не здараецца.

Затым, астаецца Адно - па-за часам, бязьзьменнае, якое знаходзіцца ў стане супачынку, аднародная маса, якую ён параўноўвае да сфэраў. Наяўнасьць многасьці, якая зьменьвае сьвет у зьявы, ёсьць ні чым іншым, як зманам, выкліканым нашымі змысламі. У выніку толькі выражэньня спагады людзкім слабасьцям, і з прычыны ўзнаньня нашых практычных патрэбаў нахіліцца да пагляду натуральнага сьвету /для прыкладу: прыйманьне ежы, рух, лічэньне таго, што прынята называць часам.../, схіляецца ён да агульна прынятага пагляду на сьвет у межах двух прынцыпаў: цяпло-сьвятло, холад-цемра. 3/ У сьвятле гэтакага разважаньня космоґонія, - як міталягічнае ўяўленьне на тэмат узьніканьня сьвету з аднаго першабыту, - ня была болей магчымаю. З другое стараны, ён перасьцерагае сваіх слухачоў, што рэчаіснасьць у запраўднасьці зьяўляецца адзінасьцю і, што космос для сьмяротных выяўляецца як зманьваючая зьява.

Элейская школа зь яе прадстаўнікамі, і перад усім, Пармэнідэсавы распрацаваны філязафічны пагляд на Быцьцё, сярод іншых фактараў, стаюцца прадвесьнікамі ў разьвіцьці ідэальнае філязофіі Плятона з канцэпцыяю Ідэяў-хвормаў, з паняцьцем Бога на ўзьверсе.

Плятон, прадаўжальнік запачаткаванага ўспомнутымі дзьвюма школамі філязафічнага пагляду на Прынцып усіх рэчаў, быў монотэістым. Монотэізм спасьцярожным стаецца ўва ўсей ягонай творчасьці. Але ў сваім дыялёгу "Політэйя", у якім ён займаецца ўсімі аспэктамі ідэальнага гаспадарства, асаблівая ўвага аддаецца справе ўзгадаваньня /παιδεία/ грамадзян. Справа ўзгадаваньня разглядаецца з розных кутоў гледжаньня і паддаецца стараннай аналізе, і ўсё гэ-

3/ Падобную думку знаходзім у Плятонавым дыялёгу "Софісты", 242.

та ў ваднясеньні да Аднаго Бога. У пасусе, узятым з другое кнігі <u>Політэйі</u> /376е - 383с/ які тут падаецца ў беларускім перакладзе поўнасьцю, Сакратас, дыскутуючы праблему пайдэйі для гаспадарства, ставіць Адэімантосу гэтакае пытаньне:

=

- І якое-ж мае быць узгадаваньне? Ці можам мы знайсьці лепшае, чымся тое, што́ было знойдзена на працягу даўжэйшага часу? Для цела - ґімнастыка, і для душы - му́зыка?

- Гэтак яно, запраўды.

- Ці маем мы распачаць узгадаваньне му́зыкаю, а пазьней перайсьці да ґімнастычнага?

- І чаму-б не?

- Калі гаворыш ты пра му́зыку, маеш ты на ўвазе літаратуру, ці не?

- Я - так.

- Але літаратура можа быць дзьвюх якасьцяў: запраўдная і хвальшывая.

- Але́.

- Тады, моладзь павінна ўзгадоўвацца ў абедзь- 377
вюх якасьцях, і перш у хвальшывай?

- Я зусім не разумею, - сказаў ён, - пра што гэта ты гаворыш.

- Ты не разумееш, - сказаў я, - што мы пачынаем расказваць дзецям апавяданьні, якія, калі і ня зусім не адпавядаюць праўдзе, усё-ж знаходзяцца ў сфэры казак. І, маючы дачыненьне зь дзяцьмі, мы апавядаем ім казкі, калі яны не дайшлі яшчэ да веку ґімнастычных практыкаваньняў.

- Так, гэта праўда.

- Вось гэта і меў я на ўвазе, калі казаў, што мы мусім перш вучыць му́зыку, а пасьля ўжо ґімнастыку.

- Зусім трапна, - сказаў ён.

- Гэтаксама і тое ты ведаеш, што пачатак зьяўляецца найболей важнаю часткаю кажнае працы, і асабліва ў выпадку маладога і далікатнага дзіцячага існаваньня. Бо гэта якраз адбываецца ў часе, у якім пачынаецца хвармавацца характар і пажаданыя ўражаньні найболей успрыймаюцца.

- Зусім правільна.

- Ці-ж павінны мы гэтак безадказна дазваляць дзецям слухаць міты, якія толькі натрапяцца, выдуманыя прыпадкавымі людзьмі і ўспрыймаць думкі, якія ў бальшыні выпадкаў узаемна супярэчнымі сабе бываюць і тымі, якія, як мы ведаем, павінны быць у іх, калі яны падрастуць?

– Ніколі не павінны мы дазваляць гэтага.
– Перад усім, мы павінны, найболей праўдападоб-
на, мець нагляд над стваральнікамі мітаў: тое, што
зь іхных твораў добрым ёсьць, мы павінны дапусь-
ціць, а тое, што не – адкінуць. А ўзгадавальніц і
матак мы перакнаем, каб яны апавядалі дзецям тое
толькі, што дапушчаецца, каб пры дапамозе іх хвар-
маваць барджджэй душы дзяцей, чымся целы – пры по-
мачы рук. Але большасьць мітаў, якія цяперака апа-
вядаюцца дзецям – павінны быць адкінуты.
– Якія гэта? – запытаў ён.
– На падставе вялікіх казак, – сказаў я, – мы
можам урабіць сабе паняцьце адносна малых. Бо і вя-
лікія, і малыя павінны мець тыя самыя характэрныя
рысы і аднолькавую сілу ўзьдзееньня. Ці ня думаеш і
ты гэтак?
– Так, вельмі магчыма, – сказаў ён, – але я не
разумею, пра якія вялікія казкі ты гаворыш.
– Пра тыя, – сказаў я, – пра якія апавядалі Го-
мэр і Гэзіёдос дый іншыя паэты. Уклаўшы для людзей
хлусьлівыя апавяшчэньні, яны пачалі расказваць іх
ім, і да гэтае пары ўсё яшчэ расказваюць.
– Але якія маеш ты на ўвазе, – сказаў ён, – і за
што папракаеш ты іх?
– За тое, за што перад усім і з прычыны таго га-
лоўна трэба дакараць іх, і ў вапрычонасьці за хлусь-
ню, якая найболей брыдка ім выйшла.
– Як гэта?
– Калі хто-небудзь у сваей мове няправільна вы-
ражаецца пра багоў і герояў, дык гэта падобна да
таго, калі-б артысты-маляр намаляваў зусім непадоб-
нымі да сябе тых, чые падабенствы ён хацеў намаля-
ваць.
– Гэтакі дакор мае пад сабою грунт. Але як гэ-
та трэба разумець, і пра што ты гаворыш?
– Перад усім, – сказаў я, – найбольшую хлусьню
і пра найболей важную рэч нязграбна выдумаў той,
378 хто сказаў пра тое, што зьдзеяў Уранос, аб чым ус-
памінае Гэзіёдос і, што быццам Кронос адпомсьціў
яму. Пра справы-ж Кроноса і пра ягоныя мучэньні,
якія, са свае стараны, спрычыніў яму ягоны сын,
нават калі-б гэта і праўдзівасьцю было, дык я не
ўважаў-бы за неабходнасьць з гэтакаю безадказнась-
цю расказваць тым, хто яшчэ маладым і недасьведча-
ным астаецца; шмат ляпей было-б, калі-б гэтакія рэ-
чы былі пахованымі ў маўчаньні. Але, калі ўжо ўзь-
нікае неабходнасьць успамінаць пра гэта, дык няхай
вельмі нешматлікія стануцца сьведкамі гэтага, пры-

носячы, як ахвяру, не парсюка, але даканаць нейкае вялікае і маладаступнае ахвяраваньне; і гэтым лік тых, што чулі, запраўды, будзе вельмі малы.

– Запраўды, гутаркі падобныя выклікаюць супраціў.

– Так, – сказаў я, – ды іх, Адэімантос, ня варта распаўсюджваць у нашым гаспадарсьцьве. Ня трэба расказваць юнаку, што, даконваючы найгоршае праступства, ён ня прыймае ўдзелу ў нічым асабліва дрэнным, нават тады, калі ён у які-небудзь спосаб карае свайго бацьку, калі апошні ўчыніць што-небудзь дрэннае, і, што ён будзе існці толькі за прыкладам першага і найбольшага спасярод багоў.

–Я зусім згаджаюся з табою, – сказаў ён, – і мне самому выдаецца, што падобнага роду апавяданьні нягодньмі зьяўляюцца, каб іх перапаўтараць.

– Дый наагул, – сказаў я, – гутарка пра тое, як багі ваююць з багамі, вядуць інтрыгі і вайну між сабою – гэта само ў сабе няпраўдаю ёсьць; бо-ж тыя з нашых прышлых старожжаў, што стаяцімуць на стражы гаспадарства, павінны ўважаць сабе за найбольшы сорам, што гэтак лёгка можа ўзьнікаць узаемная варажнеча. Не, мы ніколі не павінны ўспамінаць і размалёўваць бітвы паміж асілкамі; і маўчаньнем павінны мы асланяць бязьлікія іншыя спрэчкі паміж багамі і героямі зь іхнымі сябрамі і сваякамі. – Наадварот, калі нашым замерам ёсьць узгадоўваць у перакананьні, што ніколі і ніхто з грамадзян ня меў пачуцьця варожасьці адзін да другога і, што падобнае пачуцьцё – гэта нягоднасьць, дык вось пра гэта якраз і павінны безадкладна і як найболей расказваць дзецям і старэйшыя апавядальнікі і старэйшыя жанчыны, і пазьней, калі дзеці падрастуць; гэтаксама і паэтам трэба сказаць, каб і яны тварылі ў гэтым-жа духу. А пра тое, што на Гэру наклаў путы яе сын, Гэфаістос, каторы быў скінутым з Олімпу ягоным бацькам за тое, што хацеў заступіцца за пабітую маці, або пра ўсе бітвы багоў, выдуманыя Гомэрам, гэтакія апавяданьні ня могуць быць дапушчаны ў нашым гаспадарсьцьве, і гэта ўсяроўна, маюць гэтакія творы пераносны сэнс ці не. Бо падрастаючае дзіця не зьяўляецца ў стане вымеркаваць, калі гаворыцца ў пераносным сэнсе, а калі – даслоўна; кажная рэч, якую яно ўспрыймае ў свой розум у гэтым веку, звычайна астаецца зь ім назаўсёды і бяз зьінчаньняў. З гэтае прычыны, і гэта бадай-што найважнейшым ёсьць, што тое, што яно ў пяршыню чуе, павінна быць старанна выпрацавана ў духу мужнасьці і дабрадзейнасьці.

– Гэта мае сваё абаснаваньне, – сказаў ён.– Але, калі хто-небудзь далей нас пра гэта запытае, што гэтым мае быць, і якія апавяданьні маеш ты на мэце – што маем мы адказаць?

– На гэта адказаў я: Ты, Адэімантос і я, у дадзеным часе не зьяўляемся паэтамі, але асновапалож-
379 нікамі гаспадарства. Цяпер-жа, да закладчыкаў гаспадарства не належыць задача тварыць міты, але яны павінны ведаць агульныя асновы, паводле якіх паэты апавядаць мусяць і не адступацца, і межы, якіх яны трымацца маюць.

– Правільна, – сказаў ён; – але гэта асновы адносна тэолёгіі, і займаюцца пытаньнем, якімі яны павінны быць?

– Нешта вось гэтакае, – адказаў я: – Бог заўсёды павінен быць выяўлены гэтакім, якім ён у запраўднасьці ёсьць, будзе гэта ў эпічнай паэзыі, у песьнях ці ў трагэдыі.

– Запраўды, гэтак павінна быць.

– І вось, у сваей існасьці Бог ёсьць добры? І ці-ж ня гэта трэба пра яго гаварыць?

– Напэўна.

– Але-ж ніякае дабро ня прыносіць шкоды; ці ня так гэта?

– Не, запраўды.

– А тое, што ня ёсьць шкодным, ня шкодзіць?

– Напэўна, не.

– А тое, што ня прыносіць шкоды, ці-ж можа тварыць якое-небудзь зло?

– Гэтаксама, не.

– А тое, што ня творыць ніякага зла, ня можа быць і прычынаю якога-небудзь зла?

– Дый як-бы гэта магло быць?

– Дык што? Дабро ёсьць карысным?

– Але.

– І гэтым стаецца прычынаю дабрадзеяньня?

– Так.

– З гэтага выснаў, што дабро не зьяўляецца прычынаю ўсіх дзеяньняў, але толькі дзеяньняў добрых. І са злом яно ня мае нічога супольнага?

– Добрых, запраўды, – сказаў ён.

– Тады, Бог, калі ён ёсьць добрым, не зьяўляецца прычынаю ўсяго, наўсуперак агульна прынятае людзьмі думкі, але толькі адно ў нешматлікіх, а не ў многіх рэчах, якія маюць дачыненьні зь людзьмі. Бо ў людзкім жыцьці меней добрага, чымся дрэннага; і прычыны дабра ня трэба шукаць ні ў кога іншага; але для зла трэба шукаць нейкія іншыя прычыны, а ня

ў Богу.

– Тое, што́ ты гаворыш, – сказаў ён, – выдаецца мне як найболей правільным.

– Затым, не павінны мы слухаць Гомэра або якоганебудзь іншага паэты, калі ён гэтак нямудра памыляецца адносна багоў, кажучы, што

Доляў зьмяшчальнікі два на парозе у Зэўса:
Доля спагаднасьці ў першым, ў другім – неспагады,

і каго Зэус абдорвае сумесьсю з двох зьмяшчальнікаў,

Той у чарговасьці шчасьце знаходзіць ў жыцьці як і гора,

але той, каму ён падасьць чару нязьмешанае злыбяды,

Лютая прогаладзь гоніць яго па сьвянцонай зямлі дакучліва.

I зноў-жа, не адказвае праўдзе, быццам Зэус

Дорыць дабром нас і злом гэтаксама.

I, калі хто-небудзь казаціме, што нарушэньне зарокаў і згодаў было даканана Пандаросам пад уплывам Атэны і Зэуса або, што бітвы багоў і іхныя сваркі былі выкліканыя Тэмі́саю і Зэусам, той ніколі не павінен атрымаць нашага ўзнаньня. Гэтаксама як і ня 380
можна дазволіць, каб нашыя юнакі чулі тое, што Айсхілёс кажа:

Прычыну Бог заўсёды знойдзе,
Калі ён хоча зьнішчыць хату да зямлі.

Калі паэта піша пра цярпеньні Ніобы, – аб чым успамінаецца ў творах трагічнага характару ў ямбічнай хворме, – або дом Пэлёпідаў, або пра здарэньні Троянскае вайны, або пра што-небудзь на падобную тэму, тады мы, або не павінны дазволіць гаварыць яму, што ўсё гэта божыя чы́ны, або, калі яны зьяўляюцца божымі, ён мусіць увыпу́кліць той зьмест, які мы цяперака шукаем, і выразіць пагляд, што Бог творыць толькі тое, што справядлівым ёсьць і добрым, а ка́ра, якую дазнаю́ць людзі – ім на карысьць. Але ня можна дазволіць паэту падтрымліваць думку, быццам тыя, што нясуць пакараньне, нешчасьлівымі зьяўляюцца і, што прычына іхнага няшчасьця – Бог. Аднак-жа, калі ён хоча сказаць, што заганныя зьяўляюцца няшчаснымі, бо яны знаходзяцца ў стане вымаганага пакараньня, і гэтым атрымліваюць для сябе

выгаду ад Бога - гэта можна дазволіць. Але, калі
кажуць, што Бог, будучы добрым, зьяўляецца для ка-
го-небудзь прычынаю зла, дык гэта павінна быць ра-
шуча запярэчаным. І ніхто, ані юнак, ані дарослы,
калі ён знаходзіцца ў супольнасьці на праве абас-
нованай, не павінен гаварыць пра гэта, ані пяяць у
гымнах або слухаць падобнае ў вершаванай хворме ці
ў прозе. Бо гэтакае выхлушанае цьверджаньне сьмер-
цяносным ёсьць, зьнішчальным, бязбожным.

- Я згаджаюся з табою, - сказаў ён, - і даю зго-
ду сваю на гэткае права, бо яно падабаецца мне.

- Няхай, тады, - сказаў я, - гэта будзе адным з
нашых правоў і прынцыпаў адносна багоў, у сузгод-
насьці з чым нашыя паэты і тыя, што дэклямуюць аб-
надзеена будуць падтрымліваць думку, - што Бог не
зьяўляецца прычынаю ўсяго, але толькі дабра.

- Гэта будзе добра, - сказаў ён.

- І што ты думаеш адносна другога прынцыпу? Ду-
маеш ты, што Бог чараўніком зьяўляецца, і карыста-
ецца свомасьцю быццам знарок зьяўляцца раз у вад-
ным відзе, а іншым разам - у іншым? - часамі сам
зьінчваецца, пераходзячы ў іншыя хвормы, часамі
зманьвае нас, змушаючы нас думаць пра сябе адзін
раз гэтак, а іншы раз - інакш? А мо' думаеш ты, што
Бог ёсьць адзін і той самы і бязьзьменны і ніколі
ня выходзіць са свае постаці?

- Нічога я не магу цяперака адказаць на гэта, -
сказаў ён.

- А на гэта: - сказаў я, - калі што-небудзь вы-
ходзіць за межы свае хвормы, ёсьць гэта неабход-
насьцю, каб яно зьінчвалася само сабою, ці пад узь-
дзееньнем чаго-небудзь іншага?

- Найболей праўдападобна.

- І рэч, якая знаходзіцца ў найлепшым стане, ме-
ней за ўсё зьінчваецца пад узьдзееньнем чаго-не-
будзь іншага? Напрыклад, калі найболей здаровае і
найболей сільнае, цела людзкае найменей паддаецца
зьінчаньням пад узьдзееньнем ежы, піцьця і нату-
гаў? Гэтаксама і расьліны, калі ўпоўным расьцьвеце,
381 найменей церпяць з прычыны вятроў або сонечнае сьпя-
коты ці падобных узьдзееньняў?

- Ведама.

- І ці-ж не павінна найболей мужная і мудрая ду-
ша быць найменей зьведзенаю і растроенаю якімі-
небудзь вонкавымі ўзьдзееньнямі?

- Так.

- І гэты самы прынцып, як мне выдаецца, можа
быць затасаваны адносна ўсіх рэчаў - мэблі, дамы,

вопратка: калі добра і дакладна выкананыя, яны найменей паддаюцца ўзьдзеяньню часу і іншым абставінам.

– Гэтак яно і ёсьць.

– Затым, кажная рэч, якая добраю зьўляецца, і ўсяроўна, дзякуючы натуры ці мастацтву, або той і другому разам, найменей паддадзена зьначаньню пры чынам звонку.

– Выглядае гэтак.

– Але-ж Бог і ўсё тое, што Божае, у кажным выпадку зьяўляюцца дасканалым?

– Напэўна.

– Тады, насілу ці можа быць ён змушаным пад уплывам вонкавых прычынаў прыймаць розныя хвормы?

– Напэўна не, – адказа ён.

– Але магчыма ён сам сябе зьначвае і ператворвае?

– Вельмі магчыма, – адказаў запытаны, – калі наагул ён прыймае інакшы від.

– А мо́ зьначвае ён сябе ў нешта лепшае і прыгажэйшае або ў нешта дрэннае і брыдкае?

– Калі ён зьначваецца наагул, – сказаў ён, – дык у дрэннае. Бо-ж мы ня можам сказаць, каб Бог адчуваў недахоп у прыгожасьці і мужнасьці.

– Вельмі трапна выказаўся ты, Адэімантос! – сказаў я. – Але ці захоча хто-небудзь, хай сабе Бог ці чалавек, учыні́ць сябе горшым у якой-небудзь ступені?

– Гэта немагчыма, – адказаў ён.

– Тады, зьяўляецца немаґчымасьцю, каб Бог праявіў жаданьне зьначыць самога сябе; але кажны зь іх, будучы гэтакім, якім ён ёсьць, гэта значыць, да найвышэйшае ступені прыгожым і добрым, як выглядае, астаецца абсалютна і назаўсёды ў сваей уласнай постаці.

– Паводля мае думкі, гэта выступае як небходнасьць, – сказаў ён.

– Тады, няхай ніхто з паэтаў, дружа мой, – сказаў я, – не расказвае нам, –

Быццам з краінаў далёкіх багі, замяніўшы адзеньне,
Ходзяць па вуліцах места і ў хаты людзей заглядаюць.

І няхай ніхто не абгаварвае Протэуса і Тэці́су, і ў трагэдыях ды іншых творах няхай ня выяўляюць Гэру, як яна, у сьвятарку перайначылася і

Для жыцьцядайных дачок арґейскай ракі́ Інахоса

пада́чкі зьбірала, і няхай наагул ня выдумляюць падобнае хлусьні. Гэта і да мяцярок адносіцца, яны не

павінны, паверыўшы ім, палохаць дзяцей апавяданьнямі, быццам нейкія багі блукаюць ноччу ў выглядзе розных чужынцаў; няхай яны праявяць асьцярожнасьць, каб дзеці не пачалі зьнеслаўляць багоў ды ня сталіся дзяцьмі пужлівага сэрца.

– Запраўды, не, – сказаў ён.

– А мо', хоць багі і не зьіначваюцца самыя, усё-ж пры помачы чараў і зману выклікваюць у нас уражаньне, што яны, як зьявы, выступаюць у розных хвормах?

– Магчыма, – адказаў ён.

382 – Дык што? Можаш ты сабе ўявіць, што Бог можа быць схільным хлусіць – хай сабе ў слове ці ў чыне – або праяўляць сябе ў відзе зьявы?

– Я ня ведаю, – адказаў ён.

– Ня ведаеш ты, – сказаў я, што праўдзівую хлусьню, – калі гэтак можна сказаць, – ненавідзяць усе багі і людзі?

– Як ты разумееш гэта? – запытаў ён.

– Я разумею гэтак, што ніхто не зьяўляецца ахвочым увесьці каго-небудзь у зман або самому ашуквацца ў са́мых важных рэчах для яго; бо тутака, перад усім, ён найболей баіцца, каб хлусьня не агарнула яго.

– Я ўсё яшчэ, – сказаў ён, – не магу зразумець цябе.

– Бо ты думаеш, – сказаў я, – што я гавару пра нешта своеасаблівае. Я гавару толькі, што ўводзіць душу сваю ў зман адносна таго, што ёсьць, гэта значыць – рэчаіснасьці, трымаць яе ў памылцы і самому аставацца невукам і прасякнутым хлусьнёю – гэта ёсьць тое, што людзкасьць найменей любіць: для ўсіх, махлярства – абрыдласьць.

– І вялікая нават, – сказаў ён.

– І як я вось толькі што адцеміў, гэтая някультурнасьць у душы таго, хто ёсьць ашуканы, можа быць названа праўдзівай хлусьнёю; бо хлусьня ў словах зьяўляецца толькі пэўным родам насьледаўніцтва і заімглёнаю постацьцю ранейшага ўхвармаваньня душы, і гэта ўжо ня будзе беспрыдамешанаю ілжывасьцю. Мо' ня гэтак рэч маецца?

– Якраз гэтак.

– І праўдзівая хлусьня астаецца зьненавіджанаю ня толькі багамі, але гэтаксама і людзьмі.

– І мне гэтак здаецца.

– Зноў-жа, хлусьня ў слове ў пэўных выпадках бывае карыснаю і з гэтае прычыны ня трэба яе ненавідзець; часамі ў дачыненьнях з ворагамі, для прыкладу, або з тымі, каго мы называем сябрамі? Калі

яны ў злосьці або ў безразважнасьці знаходзчцца на дарозе да ўчыненьня чаго-небудзь дрэннага, ці-ж ня будзе тады хлусьня карысным сродкам, каб супакоіць іх? Дый у тых старавечных пераказах, пра каторыя мы толькі што гаварылі, ці-ж ня чынім мы зман карысным, упадабняючы яго як найболей да праўды, а да таго яшчэ мы і ня ведаем, як усё гэта адбывалася ў старажытнасьці?

– Так, гэта вельмі магчыма, – сказаў ён.

– Але ў якіх-жа з усіх гэтых суадносінаў магла-б быць хлусьня карыснаю Богу? Ці можам мы дапусьціць думку, што ён нагэтулькі нясьведадым быў адносна старажытных часоў, што хапіўся за нешта падобнае?

– Было-б гэта сьмехатворным, – сказаў ён.

– Тады, хлусьлівы паэта не знаходзіць месца ў нашай ідэі Бога?

– І мне выдаецца, што не.

– А ці пачаў-бы Бог уводзіць у зман з прычыны страху перад ворагамі?

– Гэтага ніяк ня можна дапусьціць у думцы.

– А мо́ з прычыны бязмыснасьці ці ашалеласьці сваіх блізкіх?

– Ніякі бязмысны ці ашалелы, – сказаў ён, – ня можа быць блізкім Богу.

– Тады, няма ніякае прычыны, дзеля якое Бог мог-бы ўводзіць у зман.

– Не, няма.

– Тады, для кажнага звышчалавека як і боскасьці хлусьня няведамаю астаецца.

– Напэўна няведамаю, – сказаў ён.

– З гэтага, Бог – бясспрэчна, зьяўляецца простым і праўдзівым гэтак у слове як і ў чыне; ён не зьіначваецца, ён нікога ня ўводзіць у зман ані словам, ані пасыланьнем знаменьняў – ані на я́ве, ані ўсьне.

– Пад уплывам тваіх словаў, – сказаў ён, – мне і 383
самому становіцца ўсё ясным.

– Тады, ты згаджаешся са мною, – сказаў я,– што абавязкавым ёсьць другі наўзор, паводля якога будзе гаварыцца і пісацца ўсё тое, што адносіцца да багоў: багі не зьяўляюцца чарадзеямі, якія зьіначваюць самых сябе, каб зманьваць людзкасьць гэтак словам як і чынам?

– Згаджаюся.

– Тады, калі мы нават шматлікае падзіўляем у Гомэра, мы аднак ня можам згадзіцца з тым, калі Зэус пасылае Аґамэмнону махлярскі сон; не пахвалім мы і таго месца ў Айсхілёса, дзе Тэціса кажа, што Апольлён на яе вясельлі выражаў радасныя п а ж а -

д а н ь н і   ш ч а с ь ц я   ў   д з е ц я х , кажучы:

Сыноў тваіх хваробы не даткнуць навек;
Сказаўшы гэта, ён акрыліў сэрца мне –
І тым: мой лёс займеў прыхільнасьць між багоў.
Я думала, што для багоў чужым ёсьць зман,
Што Фойбос боскі шчасьця й долі наш прарок,
Ён сам пяяў, той самы, што да нас казаў;
Цяпер-жа, ён, – калісьці на вясельлі госьць, –
Забойцам майго сына ёсьць.

Калі хто-небудзь падобнае пачне гаварыць пра багоў, ён выклікае сярод нас гнеў; і гэтакаму не павінны мы даваць хору; і не дазваляць вучыцелям карыстацца творамі гэтакага характару дзеля навучаньня моладзі, бо нашыя старожжы, – як далёка людзям магчымым ёсьць, – павінны быць праўдзіва багабойнымі і богападобнымі.

– Я зусім згаджаюся з гэтымі прынцыпамі, – сказаў ён, – і прыракаю ўчыніць іх маім правам.

=

Паміж намі, каторыя чытаем дыялёг, і напісаньнем яго Плятонам, ляжыць адносна доўгі час. Мастацтва друкарскае, як мы яго разумеем сягоньня, у старажытнасьці ня было ведамым. Рабіліся перапіскі і копіі з арыгіналу. З гэтых перапісваньняў на іншых мясцох рабіліся наступныя і наступныя, уносячы часта перапішчыкамі нясьведама памылкі або "папраўкі" да тэксту. У міжчасе чыніліся пераклады, і наступныя пераклады з перакладаў ужо дакананых. Усё гэта разам узятае, трэба думаць, на працягу тысячалецьцяў, прывяло да сэлекцыі таго лепшага і найлепшага, што ў нашым перакладзе прадстаўляецца дабразычлівай увазе беларускага чытача.

=

К Л Ю Ч :

ἀλλά, τά, іншыя рэчы /на сьвеце/ або ўсё іншае ў быцьці; усе рэчы, якія чалавек здольны распазнаць у сваім навакольлі пры помачы змыслаў, як супроцьстаўленьне канцэпцыі ідэі, якую ў "Пармэнідэсе" Плятон разьвівае да паняцьця Аднаго.

ἄλλος, І. іншы, 2. адменны, З. другі: адносіцца да кажнае іншае рэчы ў быцьці.

ἀνόμοιον - непадобнасьць /рэчы да ідэі/, I32d.

ἀνόμοιος, ον, і α, ον, непадобны.

ἀπειρία, бязьмежнасьць.

ἄπειρον, бязьмежнае.

εἰ ... ἔστιν, калі ... ёсьць.

εἶναι, I. Быцьцё; 2. Існаваньне; 3. Шматлікае, Многае; Бог.

ἕν, ніякі род ад εἷς, μία - адно; Адно.

| | адзін | адна | адно |
|---|---|---|---|
| NOM. | εἷς | μία | ἕν |
| GEN. | ἑνός | μιᾶς | ἑνός |
| DAT. | ἑνί | μιᾷ | ἑνί |
| ACC. | ἕνα | μίαν | ἕν |

ἑνός, адно; Адно.

ἐξαίφνης, момант, хвіліна.

ἕτερον, τό, іншае; нешта іншае: адносіцца да кажнае іншае рэчы на сьвеце або ў быцьці.

μεταλαμβάνω, I. мець удзел; прыймаць удзел; 2. быць ва ўзаемадачыненьні; 3. суспольніцца, ссупольніцца, прысупольніцца; 4. зьначыць, зьначыцца.

ὅλον, τό, /нешта/ цэлае, суцэльнае.

ὅλος, η, ον, цэлы, суцэльны; камплетны; агульны.

ὅμοιος, падобны, адыстар, аднолькавы, гэтакі самы.

ὁμοιότης, падобнасьць, аднолькавасьць, адыстарнасьць.

ὄν, ὄντος, τό, I. тое, што ёсьць: быцьцё, жыцьцё, існасьць, твор; 2. Он, Онтос, Адно, Адзін, Бог; /онтолёгія/.

ὄντα, τά, I. рэчы; 2. спасьцярожны сьвет; 3. маемасьць, дабро, нярухомасьць; 4. сучаснасьць; 5. рэчаіснасьць; 6 праўда; 7. Быцьцё; 8. Існаваньне; 9. Многае; I0. Бог.

πάντα, τά, усе рэчы на сьвеце.

τἆλλα /красіс τά ἄλλα/, мн. л., ніякі род ад ἄλλος, іншыя рэчы на сьвеце або ўсё іншае ў быцьці; усе рэчы, якія чалавек здольны распазнаць навакол сябе пры помачы сваіх змыслаў.

ταὐτόν, τό, тоеснасьць; οὐ ταὐτόν, ня тоеснае.

ὑπόθεσις, ἡ, дапушчэньне, меркаваньне, здагад; навуковае дапушчэньне, прадложанае для выясьненьня нейкага зьявішча або пэўнага ліку зьявішчаў; гіпотэза вымагае спраўджаньня і пацьверджаньня, каб магла стацца бяссумніўным правам навукі.

Аснова дыялёгу - гэтак, як Плятон разумеў яе - зьяўляецца натуральным і жывым спосабам прадстаўленьня зацікаўленьняў людзей гэтаксама і вышэйшымі справамі - быту і чалавека.

Ілюстрацыя гэтага жыва выступае ўжо на пачатку дыялёгу "Пармэнідэс". Пэрсанажы тут жывуць сваім уласным штодзенным жыцьцём, аддаюцца большым і меншым справам, але яны гэтаксама праяўляюць зацікаўленьне ў напрамку вялікшых і найвялікшых справаў; з гэтаю мэтаю яны і прыбываюць у Атэны, каб на месцы спаткаць таго чалавека, каторы чуў калісьці ад нейкага Пітодороса апавяданьне асаблівага значэньня. Апавяданьне, якое яны маюць на ўвазе, гэта ня так сабе простае апавяданьне, але гэтакае вялічыні, якое яшчэ доўга пасьля іхнага часу будзе займаць розумы людзей. І вялічыня гэтая, у дадзеным выпадку, выводзіцца ў простай лініі з разважаньняў лепшых сыноў антычных грэкаў.

На пачатку дыялёгу даведваемся, што нехта зь імем Кефалёс прыбывае са свайго дому ў Клязомэнах у Атэны, і на аґора спатыкаецца з Адэімантосам і Ґляўконам - роднымі братамі Плятона. Зь бегу гутаркі паміж імі даведваемся, што Кефалёс разам з суродзічамі, якія праяўляюць зацікаўленьне філязофіяю, хоча пабачыцца зь іхным аднакроўным братам /братам ад другога бацькі/; імя аднакроўнага брата - Антыфон.[а/] Антыфон жыве ў Мэліце недалёка ад Атэнаў, - затым усе яны скіраваліся ў Мэліту.

Тут Антыфон расказаў прыбылым вось што: "... паводля словаў Пітодороса, аднойчы прыбылі на Вялікія Панатэнаі Зэнон і Пармэнідэс. Пармэнідэс быў ужо ў пажылым веку, асыпаны бялізною, але прыгожы і добра рэпрэзэнтуючы сябе, гадоў яму магло быць прыблізна шэсьцьдзесят пяць. Зэнону тады было блізка сорак гадоў; ён быў высокага росту і прыемнага выгляду; чуткі хадзілі, што ён цешыўся асаблівай пашанаю ў Пармэнідэса. Ён сказаў, што яны затрымаліся ў Пітодороса, за месцаю сьцяною, у Керамікос. Сюды, вось, і прыйшоў Сакратас, і многія іншыя, жадаючыя пабачыцца зь імі і паслухаць творы Зэнона, якія, з прычыны адведзінаў Атэнаў, тады першы раз былі прывезеныя ім і Пармэнідэсам. Сакратас у тым часе быў вельмі маладым. Чытаў ім сам Зэнон у няпрысутнасьці Пармэнідэса, і аставалася яшчэ ня шмат дачытаць да канца, як у міжчасе ўвайшоў Пітодорос, а зь ім Пармэнідэс і Арыстотэлес, каторы пазьней

---

а/ Гл. Ґэнэаляґічную табліцу Плятона; першая кн. дыял. Плятона ў маім перакл.,Сыракюз,Н.Ё.1967,б.29.

стаўся адным з Трыццаці, і, увайшоўшыя пасьпелі яшчэ крыху пачуць з чытанага, але вельмі мала. Сам-жа Пітодорос раней слухаў Зэнона.

Калі чытаньне дабегла да канца, Сакратас папрасіў, каб першая гіпатэза першага арґумэнту была яшчэ раз прачытана, і, калі гэта было ўчынена, ён сказаў: ..." - І згэтуль пачынаецца фактычны зьмест дыялёгу.

Тут варта і трэба адцеміць адну характэрную рысу ў Плятона. Нідзе ў сваіх дыялёгах Плятон не замацоўвае сваіх паглядаў у духу абсалютных праўдаў. Ён заўсёды стаіць з адчыненымі вачыма і рад слухаць кажнага нават тады, калі супроцьлежныя выказваньні будуць дыямэтральна рознымі ад ягоных, аднак-жа пры захаваньні аднае прадумовы: Зьвяртаючыся да зацікаўленае асобы, Плятон кажа /"Протаґорас", 509/ І пакуль ты ці хто-небудзь іншы ня зьбіў маіх выказваньняў, няма ніякае магчымасьці запярэчаньня таго, што я кажу.Бо мой пагляд заўсёды быў, што я сам ня ведаю, як гэтыя рэчы ўсуадношваюцца, але, як да гэтае пары, я не спаткаў нікога, хто мог-бы сказаць нешта іншае, не асьмешыўшы самога сябе. У гэтам самым духу некаторыя ягоныя дыялёгі канчаюцца, на першы пагляд, дзіўным эпілёґам, які быццам пярэчыць самому зьместу дыялёгу. Для прыкладу: Протаґорас, у аднаіменным дыялёгу, утрымлівае,што цноты можна навучыцца, а Сакратас - што яе ня можна навучыцца. Калі-б нашае разважаньне мела людзкі голас, - кажа Сакратас, - дык голас гэты стаўся-б чутным і высьмейваючым нас, кажучы: /361/ "Дзіўныя вы людзі, Сакратас і Протаґорас! Гэта-ж ты, Сакратас утрымліваў яшчэ нядаўна, што цноты ня можна навучыць, а цяперака сам сабе пярэчыш, даводзячы, што ўсё зьмяшчаецца ў ведзе,... што выразна паказвае на тое, што цноты можна навучыць... З другое стараны, Протаґорас, каторы пачаў зь цьверджаньня, што яна можа быць навучанаю, цяперака зацята даказвае, што яна можа быць чым хочаце, толькі ня ведаю; і, калі гэта ёсьць правільным, тады яна не зьяўляецца аб'ектам навучаньня". -

Падобны эпілёґ знаходзім у "Пармэнідэсе":

ПАРМЭНІДЭС: Няхай, тады, гэтак многа будзе сказана, дый да гэтага яшчэ і тое, што выдаецца як рэчаіснасьць, што, існуе адно ці ня існуе, адно і іншае адносна самых сябе як і адно да другога, усе яны, у кажным дачыненьні, ёсьць і ня ёсьць, выдаюцца і не выдаюцца.

АРЫСТОТЭЛЕС: Шчырая праўда.

29 крас. 1976 г. Ян Пятроўскі

# П А Р М Э Н І Д Э С

## Асобы дыялёгу

Кефалёс; Адэімантос; Ґляўкон; Антыфон; Пітодорос; Сакратас; Зэнон; Пармэнідэс; Арыстотэлес.

=

Кефалёс пераказвае нейкім грамадзянам з Клязомэнаў дыялёг, пераняты ім ад Антыфона, аднакроўнага брата Адэімантоса і Ґляўкона

=

КЕФАЛЁС: Калі мы прыбылі з нашага дому ў Клязомэнах у Атэны, на пляцу мы спаткаліся з Адэімантосам і Ґляўконам.

- Вітаем цябе, Кефалёс! - сказаў Адэімантос, узяўшы мяне за руку; - калі ты хочаш што-небудзь з таго, што́ мы можам зрабіць для цябе, тады скажы.

- Так, - сказаў я, - гэта і ёсьць прычынаю майго прыбыцьця сюды. Я хацеў-бы зьвярнуцца да вас з просьбаю.

- Скажы нам, што́ ёю можа быць, - сказаў ён.

Тады я запытаў:

- Я хацеў-бы, каб вы мне сказалі, як называўся ваш аднакроўны брат, бо я, нешта, ня памятаю; ён быў яшчэ дзіцем, калі я прыяжджаў сюды з Клязомэнаў; і з тае пары́ мінула шмат часу. Імя ягонага бацькі, калі я не памыляюся, было Пірылямпэс?

- Так, - сказаў ён.

- А яго самога?

- Антыфон. Але чаму ты пытаеш?

- Вось гэтыя мае суродзічы, - сказаў я, - зьяўляюцца вялікімі прыхільнікамі філязофіі, і яны чулі, што Антыфон меў блізкія суадносіны з прыяцелем Зэнона, з пэўным Пітодоросам, і ведае на памяць тую размову, якую мелі аднойчы між сабою Сакратас, Зэнон і Пармэнідэс, бо Пітодорос часта пераказваў яму яе.

- Ты зусім трапна кажаш, - сказаў Адэімантос.

– Дык, вось, яе, – сказаў я, – хацелі-б мы паслухаць.

– Нічога няма труднага ў гэтым, – адказаў ён, – затым, што Антыфон у сваей маладосьці ўчыніў добры ўгляд у тую размову, хоць цяперака думка ягоная бяжыць у іншым напрамку, бо, падобна, як ягоны дзед, Антыфон, ён займаецца коньмі. Але, калі гэта тое, што вы хочаце, тады пойдзем да яго; ён жыве ў Мэліце, якая зусім блізка адгэтуль, ён толькі што пайшоў адсюль дамоў.

I27 Пасьля гэтае гутаркі мы пайшлі да Антыфона і засталі яго дома, якраз у тым часе, калі ён аддаваў кавалю перарабіць аброць. Калі ён скончыў з кавалём, браты сказалі яму аб прычыных нашых адведзінаў; і ён прывітаў мяне, пазнаючы мяне яшчэ з часу маіх ранейшых адведзінаў, і мы прасілі яго пераказаць нам тую гутарку. Спачатку ён ня быў вельмі заахвочаным, кажучы, што справа гэта ня лёгкая, але пасьля згадзіўся і пачаў расказваць.

Ён расказаў нам, што паводля словаў Пітодороса, аднойчы прыбылі на Вялікія Па́натэна́і Зэнон і Пармэнідэс. Пармэнідэс быў ужо ў пажылым веку, асыпаны бялізною, але прыгожы і добра рэпрэзэнтуючы сябе, гадоў яму магло быць прыблізна шэсьцьдзесят пяць. Зэнону тады было блізка сорак гадоў; ён быў высокага росту і прыемнага выгляду; чуткі хадзілі, што ён цешыўся асаблівою пашанаю ў Пармэнідэса. Ён сказаў, што яны затрымаліся ў Пітодороса, за месцаю сьцяною, у Керамікос. Сюды, вось, і прыйшоў Сакратас і многія іншыя, жадаючыя пабачыцца зь імі і паслухаць творы Зэнона, якія, з прычыны адведзінаў Атэнаў, тады першы раз былі прывезеныя ім і Пармэнідэсам. Сакратас у тым часе быў вельмі маладым. Чытаў ім сам Зэнон у няпрысутнасьці Пармэнідэса, і аставалася яшчэ ня шмат дачытаць да канца, як у міжчасе ўвайшоў Пітодорос, а зь ім Пармэнідэс і Арыстотэлес, каторы пазьней стаўся адным з Трыццаці, і ўвайшоўшыя пасьпелі яшчэ крыху пачуць з чытанага, але вельмі мала. Сам-жа Пітодорос раней слухаў Зэнона.

Калі чытаньне дабегла да канца, Сакратас папрасіў, каб першая гіпатэза першага арґумэнту была яшчэ раз прачытана, і, калі гэта было ўчынена, ён сказаў:

– Як ты разумееш гэта, Зэнон? Калі быцьцё ёсьць многае, дык яно павінна быць падобным і непадобным, і гэта ёсьць немагчымым, бо падобнае ня можа быць непадобным, і непадобнае – падобным; гэта ты ўтрым-

ліваеш?

– Якраз гэта, – сказаў Зэнон.

– Калі непадобнае ня можа быць падобным і падобнае – непадобным, тады, паводля таго, што́ ты кажаш, быцьцё ня можа быць многае; бо, калі-б многае існавала, дык сустрэла-б немагчымасьць. Хочаш ты, наўсуперак агульнаму перакананьню, цьвердзіць, што многае ня існуе? Кажны пункт развażаньняў у тваей працы ты ўважаеш як довад таго, што, ко́лькі-б ты ні напісаў развażаньняў, гэтулькі, па-твойму, пастарчаеш і довадаў таго, што многае ня існуе? Так гэта ты кажаш, ці мо' я нятрапна разумею цябе? 128

– Не, – сказаў Зэнон, – ты трапна агарнуў сутнасьць майго твору.

– Я бачу, Пармэнідэс, – сказаў Сакратас, – што Зэнон хоча быць у адзінасьці з табою ня толькі ў сяброўстве, але нават другім табою ў сваей творчасьці; тое, што́ ты кажаш, ён выражае ў свомы для сябе спосаб, змушаючы нас верыць, што тое, што́ ён выкладае нам, ёсьць нешта новае. Бо ты ў сваей паэме ўтрымліваеш, што Усё ёсьць Адно і падтрымліваеш гэта прыгожымі довадамі; а ён утрымлівае, што няма многага і гэтаксама апраўдвае шматлікімі і важнымі довадамі. Ты сьцьвярджаеш наяўнасьць аднаго, а ён запярэчвае прысутнасьць многага. І гэтым ствараеце на сьвеце ўражаньне, быццам вы гаворыце пра розныя рэчы, тады, калі ў запраўднасьці, абодва вы гаворыце бадай-што пра тое самае. Наагул-жа, тое, што́ вы гаворыце, знаходзіцца па-за межамі зразуменьня большасьці з нас.

– Так, Сакратас, – сказаў Зэнон. – Але, ня гледзячы на тое, што ты, як тое спартансвае шчанё, што вынюхвае сьлед, з дасканаласьцю вышукваеш і высьледжваеш зьмест у прачытаным, усё-ж, вы́сьлізнулася табе ў ім тое, што мой твор ня мае прэтэнсыі да таго, пра што ты кажаш, як і зусім ня мае на мэце асланіць перад сьветам гэтую вялікую задуму. Твая ўвага засяроджваецца на рэчах другарадных. Праўда, аднак, астаецца, што твор гэты падтрымлівае развażаньне Пармэнідэса супроць тых, што маняцца пасьмяяцца над ім, цьвердзячы, што, калі існуе Адно, дык з гэтага цьверджаньня выступае цэлы рад сьмешных і супярэчных сабе высноваў. Мой адказ скіраваны супроць тых, каторыя дапускаюць думку, што існуе многае; іхныя напады я вяртаю ім назад з прыкладкаю, і імкнуся паказаць ім, што, разглядаючы дакладна, іхная гіпотэза аб існаваньні многага крые ў сабе яшчэ болей сьмехатворныя наступ-

ствы, чымся цьверджаньне, што існуе адно. Захоп-
леньне ў змаганьні за становішча ў часе майго ю-
нацтва прывяло мяне да напісаньня гэтага твору, але
аднойчы нехта ўкраў у мяне напі́санае і гэтым адпа-
ла пытаньне выпуску яго ў сьвет ці не. Замер,ад-
нак-жа, напісаньня гэтага твору ня быў гордасьцю
старога чалавека, але барждзэй юнацкаю задзірыс-
тасьцю. І гэтага, як мне здаецца, Сакратас, ты не
заўважыў, хоць, у іншым дачыненьні, як я сказаў ужо,
замер твой быў вельмі апраўданы.
- Я разумею, - сказаў Сакратас, - і зусім прый-
маю пад увагу твой пункт гледжаньня. Аднак, скажы
мне, Зэнон, ці ў далейшым разважаньні ня прыходзіш
I29 ты да выснаву, што існуе сама ў сабе нейкая ідэя
падобнасьці, а іншая супроцьлежная ёй - ідэя непа-
добнасьці? І што да гэтых дзьвюх ідэяў прысупоьль-
ніваемся і ты, і я, і ўсе іншыя рэчы, да якіх мы
тасуем слова многае, супольнае - рэчы, якія прысу-
польніваюцца з прычыны падобнасьці, стаюцца ў той
самай ступені і меры падобнымі; і як далёка яны
ўдзельнічаюць у непадобнасьці, стаюцца ў той самай
ступені непадобнымі, або тое, што́ прысупольніваец-
ца да таго ці гэтага, стаецца тым і другім разам?
І, калі ўсе рэчы прысупольніваюцца да абедзьвюх су-
процьлежных сабе ідэяў, і праз супольнасьць зь імі
стаюцца падобнымі і непадобнымі, дык што-ж у гэтым
ёсьць дзіўнага? І далей, калі-б хто-небудзь зь лю-
дзей давёў, што падобнае як гэткае стаецца непадаб-
ным, або непадобнае як гэткае стаецца падобным,та-
ды гэта, як мне здаецца, запраўды было-б дзіўным;
але нічога няма сваеасаблівага, Зэнон, калі зьвяр-
таецца ўвага, што рэчы, якія толькі прыймаюць у-
дзел у падобнасьці і непадобнасьці, зьмяшчаюць у
сабе прыкметы абедзьвюх. Гэтаксама, калі-б хто-не-
будзь выявіў, што ўсё ёсьць адно дарогаю прыйма-
ньня ўдзелу ў адным і ў тым самым часе многім праз
удзельнічаньне ў многім, ня было-б вельмі дзіўным.
Але, калі-б ён выявіў мне, што адно як гэткае ёсьць
многае, і, што многае як гэткае - адно, тады, за-
праўды, я быў-бы зьдзіўленым. І гэтак з усім ін-
шым: я быў-бы зьдзіўленым, чуючы, што ідэі як гэт-
кія крыюць у сабе супроцьлежныя свомасьці; але ня
трэба было-б дзівіцца, калі-б хто-небудзь даводзіў,
што ўва мне зьмяшчаецца многасьць і адзінасьць ад-
начасна. Калі-б ён, хочучы давесьці многасьць ува
мне, пачаў гаварыць, што я ма́ю пра́вы і левы бок, пе-
рад і зад, верхнюю палавіну цела і дольную, бо-ж я
ня мог-бы запярэчыць, што я ня прыймаю гэткім спо-

сабам удзелу ў многасьці; калі, зноў, з другое старany, ён хоча давесьці, што я ёсьць адно, тады ён
скажа, што мы, каторыя тутака знаходзімся, творым
сабою сем, і што я зьяўляюся адным зь сямі, біручы
ўдзел гэтым самым у адзінасьці. У двох прыкладах
тут ён паказвае свой спосаб разважаньня. Зноў-жа,
калі чалавек зьвяртае ўвагу, што рэчы, як бярвеньні, камяні і падобнае, будучы многім, гэтаксама
зьяўляюцца адным, дык мы прызнацімем яму, што ён
падае прыклад ссупольненьня адзінасьці і многасьці,
але ён ня выяўляе нам, што многасьць зьяўляецца адным або адно - многасьцю; ён выражае словамі не парадокс, але агульна прынятую праўду. Калі-ж хтонебудзь, як я ўжо толькі што гаварыў, перш сьцьвердзіць апрычонасьць і адасобленасьць ідэяў як гэткіх, гэтакіх, як падобнасьць і непадобнасьць, многасьць і адзінасьць, супачынак і рух і падобныя ідэі, а пасьля давядзе, што яны могуць зьмешвацца
між сабою і разыходзіцца, вось тады, Зэнон, вельмі
шмат буду я зьдзіўленым. Твае разважаньні я знаходжу мужна распрацаванымі, аднак-жа, як я ўжо казаў,
я мог-бы быць болей зьдзіўленым, калі-б хто-небудзь
мог знайсьці ў самых ідэях, агорнутых розумам, гэтакую-ж самую заблытанасьць і труднасьць, на што 130
ты зьвярнуў увагу як існуючыя ў спасьцярожным сьвеце.

У часе слуханьня гэтых выказваньняў, Пітодорос
думаў, што Пармэнідэс і Зэнон будуць крыўдаваць з
прычыны крытычных заўвагаў Сакратаса, але яны ўважна
слухалі яго і часта з ухмылкаю пераглядваліся, быццам захопліваючыся чутым. Калі-ж Сакратас кончыў,
Пармэнідэс выказаў свае пачуцьці ў наступных словах:

- Сакратас, - сказаў ён, - я падзіўляю тваё захопленьне ў напрамку вядзеньня разважаньняў філязафічнага характару. Аднак скажы мне, ці гэта тваё
ўласнае разрозьненьне ідэяў як гэткіх, з аднае стараны, і тое, што свома для іх - з другое? ці думаеш
ты, што існуе ідэя падобнасьці як гэткае, не залежна ад падобнасьці, свомае для нас, і ці адносіцца
гэта зноў-жа да аднаго, многага і ўсяго іншага, аб
чым чуў ты толькі што ад Зэнона?

- Так, - адказаў Сакратас.

- І гэтакіх ідэяў, - казаў далей Пармэнідэс, -
як, напрыклад, ідэя справядлівага як гэткага, прыгожага, добрага і ўсяго іншага ў гэтым сэнсе?

- Так, - адказаў той.

- І што, існуе ідэя чалавека асобна ад нас і ад

усіх іншых людзкіх існаваньняў, гэтаксама ідэя агню, вады?

– Адносна гэтых рэчаў, Пармэнідэс, я часта бываю ў няпэўнасьці, ці павінен я далучыць іх сюды, ці не.

– Зноў-жа, адносна гэтакіх рэчаў, успаміны пра якія могуць выклікаць у нас сьмех, як напрыклад волас, граць, сьмецьце і кажная іншая агіднасьць, ты гэтаксама астаешся ў няпэўнасьці, што да таго, ці трэба для кажнага зь іх прызнаць асобна існуючую ідэю, якая адрозьніваецца ад усяго таго, да чаго датыкаюцца нашыя рукі?

– Напэўна не, – адказаў Сакратас; – спасьцярожныя рэчы, як успомнутыя, зьяўляюцца гэтакімі, якімі пераказвае нам наш узрок, і я баюся, што сама думка аб існаваньні ідэі для падобных рэчаў прывядзе да недарэчнасьці, хоць з другое стараны, часамі я чуюся зьбянтэжаным, і пачынаю думаць, што нічога ня існуе бяз ідэі; але тады зноў, калі я пачынаю думаць аб падобным усуадношаньні рэчаў, я бягма ўцякаю, бо я баюся патануць у бяздоньні пустаслоўя. І вось, дайшоўшы да гэтага месца, я зноў вяртаюся да ідэяў, пра якія мы цяперака гаворым і ім прысьвячаю сваю ўвагу.

– Так, Сакратас, – сказаў Пармэнідэс; – гэтак здараецца з табою, бо ты яшчэ малады; надыйдзе час, магчыма я не памыляюся, калі філязофія мацней агорне цябе, тады ніякая з гэтых рэчаў ня выдасца табе малазначнаю; цяперака, дзякуючы твайму юнацкаму веку, ты яшчэ за шмат азіраешся на людзкую апінію. Аднак, я хацеў-бы даведацца ад цябе, ці думаеш ты, што існуюць пэўныя ідэі, зь якімі іншыя рэчы су-
131 спольніваюцца, і скуль яны атрымліваюць свае назовы; напрыклад, падобныя стаюцца падобнымі, бо яны суспольніваюцца з падобнасьцю; і вялікія рэчы стаюцца вялікімі, бо яны ўдзельнічаюць у вялікасьці; і што справядлівае і прыгожае – бо яны ў супольнасьці са справядлівасьцю і прыгожасьцю?

– Так, напэўна, – адказаў Сакратас.

– Але кажная рэч, якая ўсуспольніваецца з ідэяю, усуспольніваецца з цэлаю ідэяю ці мо' з часткаю яе? А мо' існуе іншая хворма ўссупольненьня?

– Як гэта? – сказаў ён.

– Думаеш ты, што цэлая ідэя – гэта адно, і ўсё-ж, будучы адным, знаходзіцца ў кажным адным з многіх рэчаў?

– І чаму-ж бы ёй ня быць там, Пармэнідэс? – сказаў Сакратас.

– Бо адна і тая самая рэч, як апрычонасьць, будзе зьмяшчацца ў многасьці асобных рэчаў, і гэтым самым будзе ў стане вылучэньня з самое сябе.

– Не, – адказаў Сакратас, – бо, напрыклад, ідэя можа быць як адзін дзень, які астаецца адным і тым самым у некалькі мясцох адначасна; гэткім спосабам кажная ідэя можа быць адною і тою самаю і ў тым самым часе ўва ўсім.

– Мне падабаецца, Сакратас, – сказаў Пармэнідэс, – спосаб, у які ты разьмяшчаеш адно на розныя месцы ў тым самым часе. Гэта падобна да таго, быццам ты хочаш сказаць, што, калі-б я распасьцёр вятружнае палотнішча і накрыў ім пэўны лік людзей, ды пачаў цьвердзіць, што гэта адно цэлае ўключна з многім – ці ня гэтак трэба цябе разумець?

– Магчыма, гэтак, – адказаў Сакратас.

– Хочаш ты сказаць, што цэлае палотнішча пакрывае аднаго чалавека, ці мо' толькі частка палотнішча, і затым – іншая частка пакрывае іншага чалавека?

– Частка.

– З гэтага, Сакратас, сама ідэя распадзеленая, – сказаў Пармэнідэс, – і рэч, якая прысупольніваецца да яе, будзе мець толькі частку зь яе, а ня цэлую ідэю.

– Так выглядае.

– Дык што, хочаш ты сказаць, Сакратас, што адна ідэя запраўды дзеліцца на часткі і адначасна астаецца адною?

– Напэўна, не, – сказаў Сакратас.

– Прымем, – сказаў Пармэнідэс, – што ты распадзяліў на часткі вялікасьць як гэткую і, што з усіх вялікіх рэчаў, кажная адна зьяўляецца вялікаю, дзякуючы частцы вялікасьці меншай, чымся сама вялікасьць?

– Не, – адказаў Сакратас.

– Або, будзе кажная роўная рэч, калі займее пэўную малую частку роўнасьці меншай, чымся роўнасьць як гэткая, будзе роўнаю іншай рэчы, дзякуючы гэтай частцы толькі?

– Немагчыма.

– Прымем, што хто-небудзь з нас будзе мець частку маласьці; і гэта будзе толькі частка малога; згэтуль: маласьць як гэткая ёсьць большаю; калі маласьць як гэткая будзе большаю, дык тое, да чаго частка малога дададзена, будзе меншаю, а ня большаю як перад гэтым.

– Гэта вядзе да немагчымага, – адказаў Сакратас.

– Тады, якім спосабам, Сакратас, – сказаў Пармэнідэс, – будуць рэчы прысупольнівацца да ідэяў, калі яны не зьяўляюцца ў стане прысупольніцца да іх ані сваею часткаю, ані цэласьцю?

– Запраўды, – сказаў Сакратас, – ты паставіў пытаньне, на якое ня так лёгка знайсьці адказ.

– Ну добра, а што ты думаеш адносна таго, што́ я зараз скажу?

– Адносна чаго?

132 – Я бачу той шлях, які прывёў цябе да ўяўленьня кажнае ідэі як гэткае: ты ўяўляеш сабе пэўны лік вялікіх аб'ектаў, і калі ты глядзіш на іх, выдаецца табе ўсё гэта як адна і тая самая ідэя; згэтуль перад табою ўзьнікае ве́лічнасьць Аднаго.

– Вельмі добра ты бачыш, – сказаў Сакратас.

– І калі ты пойдзеш далей у гэтым напрамку і гэтакім спосабам агорнеш узрокам душы твае спазор ідэі вялікасьці і іншыя вялікія рэчы, і параўнаеш іх, ці-ж ня ўздымецца перад табою іншая Велічнасьць, якая выявіцца як крыніцца ўсіх вялікіх рэчаў?

– Гэтак выглядае.

– Тады выявіцца іншая ідэя вялікасьці на ўзьверсе абсалютнае вялікасьці і над тымі, што ўсупольніваюцца зь ёю; і тады яшчэ адна на ўзверсе і над усім гэтым, дзякуючы якой усе яны будуць вялікімі; і гэткім спосабам, кажная ідэя, замест таго, каб быць адно – будзе бязьмежнаю вялічэзнасьцю.

– Але, Пармэнідэс, – запытаў Сакратас, – ці ня можа быць так, што кажная з гэтых ідэяў зьяўляецца толькі думкаю і ня мае нідзе іншага месца быцьця як толькі ў разуменьні? Унімаючы гэтак рэч, кажная ідэя можа быць адно, і не падпарадкваецца гэтай бязьмежнай вялічэзнасьці.

– Дык што, – запытаў Пармэнідэс, – кажная думка ёсьць апрычонаю і не зьяўляецца думкаю пра нешта?

– Гэта немагчыма, – сказаў Сакратас.

– Значыцца, думка ёсьць думкаю пра нешта?

– Але́.

– Пра нешта, што́ існуе ці ня існуе?

– Што́ існуе.

– Ці ня мусіць гэта быць нешта апрычонае, думка чаго агортвае ўсе рэчы, што прысупольніваюцца да яе, астаючыся адзінаю іх хвормаю або ідэяю?

– Так.

– Дык ці ня будзе гэтае нешта, што разумеецца як існуючае адно і тое самае ўва ўсім – ідэя?

– Гэта выдаецца няўхільным.

– Тады, – сказаў Пармэнідэс, – калі ўсе іншыя

рэчы, як ты ўтрымліваеш, зьяўляюцца прыналежнымі да
ідэяў, дык ці не павінен ты сказаць, што, або каж-
ная рэч складаецца з думак і думае ўсё, або, хоць і
зьяўляецца думкаю, але ня думае?
   – Але гэта, – сказаў ён, – ня мае ніякага сэнсу.
Як я разумею, Пармэнідэс, ідэі існуюць у натуры як
хвормы, а іншыя рэчы падобныя да іх і зьяўляюцца
іхнымі наўзорамі – а думка адносна прыналежнасьці
іншых рэчаў да ідэяў, фактычна нічога іншага, як па-
добнасьць да іх.
   – Але, – сказаў Пармэнідэс, – калі нешта ёсьць
падобным да ідэі, ці-ж не павінна ідэя гэтаксама
быць падобнаю да гэтага нешта, прынамся гэтак далё-
ка, як нешта ўпадабняецца да ідэі? А мо' існуе ней-
кая іншая магчымасьць, пры якой падобнае ня будзе
падобным да падобнага?
   – Не, гэта немагчыма.
   – І, калі дзьве рэчы зьяўляюцца падобнымі, ці-ж
ня мусяць яны прысупольнівацца да аднае і тае самае
ідэі?
   – Мусяць.
   – І ці-ж ня будзе тое, да чаго прысупольніваюц-
ца гэтыя дзьве рэчы, і што́ чыніць іх падобнымі,
ці-ж ня будзе гэта сама ідэя?
   – Бяз сумліву.
   – Згэтуль, нічога ня можа быць падобным да ідэі
і ідэя ня можа быць падобнаю да нічога іншага; бо,
калі яны зьяўляюцца падобнымі адна да другое, тады
заўсёды ўзьнікне далейшая ідэя падобнасьці; і калі 133
гэтая апошняя ёсьць падобнаю да чаго-небудзь, дык
зноў – іншая; і будуць узьнікаць заўсёды новыя ідэі,
калі ідэя будзе ўпадабняцца да таго, што́ прысуполь-
ніваецца да яе.
   – Ты трапна гаворыш.
   – Тады пагляд, што іншыя рэчы прысупольніваюцца
да ідэяў, дзякуючы падобнасьці, мае быць адхіленым,
і трэба шукаць нейкага новага спосабу прысуполь-
ваньня іх?
   – І мне гэтак здаецца.
   – Ты бачыш, затым, Сакратас, – сказаў Пармэні-
дэс, – якія вялікія труднасьці ўзьнікаюць пры ўтрым-
ліваньні існаваньня ідэяў як гэткіх?
   – Так, запраўды.
   – Будзь пэўны, – гаварыў далей Пармэнідэс, – што
ты, як да гэтае пары́, спасьцерагаеш толькі малую
частку труднасьці, якая выступае, калі ты дапушча-
еш наяўнасьць адасобленае ідэі для кажнае рэчы.
   – Якая труднасьць? – запытаў Сакратас.

– Існуе шмат труднасьцяў, і найважнейшая зь іх
вось якая: – Калі-б хто-небудзь пярэчыў, што ідэі,
будучы гэткімі, якімі мы іх хочам бачыць, павінны
аставацца няведамымі, ніхто ня мог-бы давесьці яму,
што ён памыляецца, хіба-што той, хто хацеў-бы за-
пярэчыць яму, выявіўся-б чалавекам вялікае здоль-
насьці і веды, і быў-бы ахвочым зглыбіць доўгія і
скамплікаваныя довады; у іншым выпадку пераканаць
таго, хто настырліва цьвердзіць, што ідэі астаюцца
няведамымі, ня было-б магчымым.
– Што ты, Пармэнідэс, маеш на ўвазе? – запытаў
Сакратас.
– А тое, Сакратас, што ты, як я думаю, і кажны
іншы, хто падтрымлівае думку аб існаваньні абсалют-
нае існасьці кажнае рэчы, мусіць згадзіцца, што ні-
якае гэткае існасьці ў нас няма.
– Не, – заўважыў Сакратас; – бо тады яны ня бы-
лі-б абсалютнымі.
– Ты правільна кажаш, – сказаў Пармэнідэс; – бо
калі ідэі ёсьць тым, чым яны зьяўляюцца ў аднясень-
ні адна да другое, іхная існасьць пастанаўляецца
дарогаю суадносінаў між імі, і зьявішча гэтае ня мае
нічога супольнага з падабенствамі, /ці якколечы гэ-
та можа быць названа/, якія знаходзяцца ў нашай сфэ-
ры, і ад каторых мы атрымліваем той ці іншы назоў,
дзякуючы нашаму прысупольненьню да іх. І рэчы, якія
знаходзяцца ў межах нашае сфэры і астаюцца адна-
іменнымі зь імі, астаюцца гэтаксама толькі ва ўза-
емных суадносінах, але не да ідэяў, якія маюць гэ-
тыя самыя назовы зь імі, і астаюцца прыналежнымі
да самых сябе, а не да іх.
– Як гэта ты гаворыш? – запытаў Сакратас.
– Я магу зьілюстраваць маю думку наступна, –ска-
заў Пармэнідэс –: Валадар мае нявольніка; у зья-
вішчы гэтым няма нічога абсалютнага што да суадно-
сінаў паміж імі, якія зьяўляюцца проста суадносі-
намі аднаго чалавека да другога. Але з гэтым вяжац-
ца паняцьце ідэі ўладараньня ў абстрактным разу-
меньні, якое ўсуадношваецца да ідэі нявольніцтва
134 гэтаксама ў абстрактным разуменьні. Характар гэтага
зьявішча ня мае нічога супольнага з намі, ані мы зь
ім. Дзьве стораны займаюцца самымі сабою, і мы –
намі самымі. Ці зразумелым табе тое, што я гавару?
– Так, – сказаў Сакратас, – я разумею тваю думку.
– Згэтуль, – гаварыў далей Пармэнідэс, – ці-ж
абсалютная веда як гэткая, не павінна быць ведаю
праўды абсалютнае як гэткае?
– Ведама.

– І далей, кажная веда як гэткая павінна быць ведаю існаваньня як гэткага, ці ня так гэта?

– Так.

– Але веда, якую мы маем, будзе адказваць праўдзе, якую мы маем? І далей, кажны род веды, якую мы маем, будзе ведаю кажнага роду існаваньня, якое мы маем?

– Пэўна.

– Але ідэяў як гэткіх, як ты і згадзіўся, мы ня маем, і ня можам мець?

– Не, ня можам.

– І кажны род як гэткі пазнаецца, трэба здагадвацца, самою ідэяю веды?

– Так.

– Якой мы не займелі?

– Не.

– Пасьлядоўна, ніякая з ідэяў не пазнаецца намі, бо ня маем мы ўдзелу ў абсалютнай ведзе?

– Я думаю, што не.

– Тады і натура прыгожасьці, і дабрыня як гэткая, і ўсе іншыя ідэі, што да якіх мы здагадваемся, што існуюць, зьяўляюцца няведамымі для нас?

– Здаецца, так.

– Зьвярні ўвагу на яшчэ большую пасьлядоўнасьць.

– Якую?

– Прызнацімеш ты ці ня прызнацімеш, што абсалютная веда, калі гэтакая існуе, мусіць быць далёка болей дакладнаю ведаю, чымся нашая веда? І падобна рэч маецца з прыгожасьцю і ўсім іншым?

– Так.

– Затым, калі бывае гэтакая рэч, як прыналежнасьць да абсалютнае веды, дык ніхто болей, чымся Бог ня мае гэтае дакладнае веды?

– Напэўна.

– Зноў-жа, ці Бог, маючы абсалютную веду, будзе мець веду адносна людзкіх рэчаў?

– Чаму-ж не?

– Затым, Сакратас, – сказаў Пармэнідэс, – што, як і прыйшлі мы да сузгоднасьці думкі, ідэі не распасьціраюцца на рэчы, свомыя для людзей; гэтаксама як і людзкія рэчы не распасьціраюцца на іх; суадносіны дзьвюх старон абмяжоўваюцца да сваіх уласных сфэраў.

– Так, што да гэтага, мы згадзіліся.

– Тады, калі Бог мае гэтае дасканалае ўладарань- 135
не і дасканалую веду, дык ягонае ўладараньне ня можа кіраваць намі, ані ягоная веда ведае нас; гэтаксама як нашае ўладараньне ня можа распасьцірацца на

багоў, ані нашая веда ведае што-небудзь пра боскія рэчы; ужываючы тут аналёгію, трэба сказаць, што яны, будучы багамі, не зьяўляюцца нашымі ўладарамі, ані ведаюць яны рэчаў, што адносяцца да людзей.

– Калі пазбавіць Бога веды, – сказаў Сакратас, – ці ня выдасца гэта нечым жудасным?

– Узьнікае, Сакратас, – сказаў Пармэнідэс, – некалькі і толькі некалькі з труднасьцяў, якія мы закранаем, калі ідэі запраўды існуюць і мы прыйшлі да высnaву, што кажная зь іх зьяўляецца апрычонасьцю сама ў сабе. Той, хто чуе, што можа быць сказаным супроць іх, будзе дзівіцца і даводзіць неіснаваньне гэтых ідэяў, або, калі ўжо яны існуюць, ён скажа, тады, у сілу неабходнасьці, зьяўляюцца няведамымі чалавеку. Гэтакія запярэчаньні могуць выдавацца абаснованымі, а таго, хто выказваў-бы іх, пераканаць у іншым было-б вельмі трудна. Чалавек павінен быць абдораны асаблівымі здольнасьцямі,каб зразумець, што існуе нейкі род кажнае рэчы і існасьць як гэткая, і, апрача гэтага, яшчэ болей задзіўляючы дар здольнасьцяў патрэбны, каб дашукацца ўсяго гэтага, грунтоўна разабрацца ўва ўсім адшуканым і быць здольным навучыць іншых.

– Я згаджаюся з табою, Пармэнідэс, – сказаў Сакратас, – тое, што ты кажаш, вельмі ў сузгоднасьці з маею думкаю.

– І ўсё-ж, Сакратас, – сказаў Пармэнідэс, – калі чалавек засяродзіць сваю ўвагу на гэтых і падобных труднасьцях і адгорне набок ідэі рэчаў, і не дапусьціць магчымасьці, што кажная апрычоная рэч мае яе ўласную акрэсьленую ідэю, акая зьяўляецца заўсёды адною і тою самаю, яму нічога не астанецца з таго, на чым мог-бы ён абаперці сваю думку, і гэтым самым зьнішчыць кажную магчымасьць разважаньня; дый, як мне здаецца, ты выразна адчуў гэта.

– Праўдзіва ты кажаш, – адказаў Сакратас.

– Калі так, дык што станецца з філязофіяю? Куды мы зьвернемся, калі ідэі астаюцца няведамымі?

– У дадзены мамэнт я ня маю ніякага ўяўленьня.

– Так, – адказаў Пармэнідэс, – і я думаю, што гэта выступае ў цябе, Сакратас, з твае спробы знайсьці дэфініцыю прыгожага, справядлівага, добрага, і ідэяў наагул, ня маючы дастатковае перад гэтым падрыхтовы. Я заўважыў гэты недахоп, слухаючы цябе гаворачага тут з тваім прыяцелем, Арыстотэлесам. Твой запал, які кіруе цябе ў напрамку філязофіі, напэўна ёсьць шляхэтны і боскі; але існуе штука, якую называюць таўталёґіяю, і якая часта ўважаецца за беска-

рысную; цяперака, калі ты яшчэ малады, мусіш зьвярнуць увагу на гэта і здабыць здольнасьць дарогаю большага практыкаваньня; бо інакш, праўда будзе высьлізгвацца з тваіх рук.

– І якога характару маюць быць гэтыя практыкаваньні, Парменідэс, якія-б ты запрапанаваў, – запытаў Сакратас.

– Тое, што ты чуў ад Зэнона, – адказаў Пармэнідэс. – Адначасна, – і мне гэта падабаецца, – ты знайшоўся на ўзроўні, каб сказаць яму, што ты нічога ня маеш адносна выэкзамінаваньня пытаньня ўпрадмеце рэчаў спасьцярожных, і разгледзець справу гэткім спосабам, але толькі ў аднясеньні да аб'ектаў, падпадаючых пад катэгорыю людзкае думкі, з прызнаньнем іх за ідэі.

– Запраўды, – сказаў Сакратас, – мне здаецца, што можна ўхіліцца ад труднасьці, паказваючы, што гэткім спосабам, спасьцярожныя рэчы зьяўляюцца і падобнымі, і непадобнымі, – гэтак можна дасьледзіць кажную рэч.

– Зусім трапна, – сказаў Пармэнідэс; – але я думаю, што ты павінен ісьці далей наперад, і ўзяць пад увагу ня толькі наступствы, якія выплываюць з 136
дапушчэньня, але гэтаксама наступствы, якія выплываюць з супроцьлежнага дапушчэньня; і гэта будзе якраз найлепшаю практыкаю для цябе.

– Што ты мае на ўвазе? – запытаў Сакратас.

– Я маю на ўвазе, – сказаў Пармэнідэс, – што ў дадзеным выпадку, у выпадку гэтага Зэнонавага дапушчэньня адносна існаваньня многага, ты мусіш зрабіць угляд ня толькі ў тое, якія будуць вынікі для многага ў аднясеньні да самога сябе як і да аднаго, і аднаго ў аднясеньні да самога сябе як і да многага, – але гэтаксама якія будуць вынікі аднаго да многага ў іхным дачыненьні да іх самых і да кажнага зь іх паасобку на аснове супроцьлежнага дапушчэньня. І далей, калі выйсьці з дапушчэньня, што падобнае існуе або, што яно ня існуе, дык зноў, якія будуць высновы ў кажным з гэтых двух дапушчэньняў, гэтак ў ваднасінах да самых сябе як і ў ваднасінах адзін да другога, як і для самых дапушчэньняў, якія ляглі ў васнову. Гэты самы спосаб разважаньня можа быць тасаваны да руху і супачынку, узьнікаьня як і да занікаьня, і нават да быцьця і нябыцьця. Коратка кажучы, да кажнае рэчы, якую толькі можаш уявіць сабе, да існуючае і няіснуючае, ці якая знаходзіцца ў якім-небудзь стане, ты павінен бачыць вынікі ў ваднясеньні да дадзенае рэчы, як і да ўсіх

іншых рэчаў, якія ты маеш на ўвазе, кажную зь іх асобна як і большы іх лік, узяты разам. І гэтаксама рэч маецца зь іншымі рэчамі, ты мусіш узірацца на іх з пункту гледжаньня суадносінаў іх да іх самых, як і на кажную іншую рэч, якую ты ўважаеш за існуючую як і за неіснуючую, калі ты хочаш, прайшоўшы грунтоўна дазнаньне ў гэтых рэчах, бачыць праўду ў яе паўніні.

- Утомны, Пармэнідэс, шлях ты вырысаваў, і я ня зусім разумею яго. Ці не захацеў-бы ты паясьніць яго на якім-небудзь прыкладзе, каб мне дакладней агарнуць яго?

- Цяжкое заданьне, Сакратас, ускладваеш ты на чалавека ў маім веку, - адказаў Пармэнідэс.

- У такім выпадку, - сказаў Сакратас, - чаму-б табе, Зэнон, не прарабіць яго для нас?

На гэта Зэнон засьмяяўся і адказаў:

- Ляпей скіруем нашую просьбу да Пармэнідэса, бо-ж тое, пра што ён гаворыць, не зьяўляецца рэчаю простаю, затым ён і апраўданы, калі казаў, што ты ледзьве толькі ўяўляеш сабе памер заданьня, ускладванага на яго. Калі-б нас было тут болей, дык я і не прасіў-бы яго, бо ўсё гэта не зьяўляецца прадметам, які кажны чалавек, і асабліва ў ягоным веку, можа гаварыць у прысутнасьці большага зграмаджэньня: бо-ж большасьць людзей нават не здагадваецца, што ўсебаковае і грунтоўнае разважаньне ў закранутых рэчах, зьяўляецца адзіным шляхам, на якім розум можа зглыбіць праўду і мудрасьць. Дзеля гэтага, Пармэнідэс, я далучаюся да просьбы Сакратаса, у тым меркаваньні, што і мне давядзецца пачуць яшчэ раз той працэс, якога я ня чуў ужо даўжэйшы час.

Калі Зэнон кончыў гаварыць, тады, паводля словаў Антыфона, Пітодорос сказаў, што сам ён як і Арыстотэлес і ўсе прысутныя пачалі прасіць Пармэнідэса, каб ён зьілюстраваў сваю думку прыкладам.

І Пармэнідэс сказаў:

- Цяжка мне супроцьставіцца вам, хоць я і чуюся баржджэй як Ібікос, каторы, будучы ў пажылым веку,
137 супроць свае волі, змушаны быў выступіць на арэну каханьня, параўноўваючы пры гэтым самога сябе да старога каня, які перад выступам у спаборніцтве калёсьніцаў, ведаючы што яго чакае, дрыжэў - і гэта былі дрыжыкі ягонага сьмеху з самога сябе. Гэтаксама і я дазнаю дрыжэньне, калі ўсьведамляю сабе, праз які шырачэзны акіян разважаньняў маю я прабівацца на схілку майго жыцьця. Але я папробую задаволіць вас, гэтак, як і сказаў Зэнон, што я мушу, а

вы ўсе свае. Скуль я маю пачаць? І якою мае быць наша першая гіпатэза, калі я ўжо маю пачаць гэтую далёкасяжную гульню? І пачну я з самога сябе, і з майго дапушчэньня адносна аднаго, і разгледжу наступствы, якія могуць выявіцца з дапушчэньня, што адно існуе, а пасьля – што ня існуе?

– Напэўна, – сказаў Зэнон.

– І хто будзе адказваць мне? – запытаў Пармэнідэс. – Мо' наймаладзейшы? Ён і труднасьцяў ня будзе тварыць для мяне, дый сам, найболей праўдападобна, будзе гаварыць тое, што думае; і адначасна ягоныя адказы створаць для мяне магчымасьць перапынку.

– Я зьяўляюся адзіным, каго ты маеш на ўвазе, Пармэнідэс, – сказаў Арыстотэлес,– бо я і наймаладзейшы і гатоў паслужыць табе. Калі ласка, пытай, я буду адказваць.

І Пармэнідэс пачаў:

– К а л і а д н о ё с ь ц ь , – сказаў ён, – дык адно ня можа быць многім.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта магчыма?

ПАРМЭНІДЭС: Тады адно ня можа мець частак, і ня можа быць цэлым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Чаму гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Бо частка ёсьць частка цэлага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Што ёсьць цэлае? Ці ня будзе тое цэлым, у чым няма ані аднае нехапаючае часткі?

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, у двох выпадках, адно складалася-б з частак; адначасна – як цэлае, і як маючае часткі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Абавязкава.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, у кажным выпадку, адно было-б многім, і не адным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: Аднак-жа, напэўна, павінна быць ня многае, але адно.

АРЫСТОТЭЛЕС: Павінна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, калі адно мае астацца адным, дык яно ня будзе цэлым, і ня будзе мець частак.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна, не.

ПАРМЭНІДЭС: Але, калі яно ня мае частак, дык яно ня можа мець ані пачатку, ані канца, ані сярэдзіны, бо ўсё гэта было-б ягонымі часткамі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: І зноў-жа, пачатак і канец зьяўляюцца межамі кажнае рэчы.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно ня мае ані пачатку, ані канца, зьяўляецца бязьмежным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Бязьмежным.

ПАРМЭНІДЭС: І затым, бясхвормным; бо яно ня можа браць удзелу ані ў круглым, ані ў простым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Чаму?

ПАРМЭНІДЭС: Затым, што круглае - гэта тое, чаго ўсе найдалей паложаныя пункты знаходзяцца на аднолькавай адлегласьці ад цэнтру.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: А простае - гэта тое, з цэнтру чаго немагчыма бачыць дзьвюх скрайнасьцяў.

АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, адно мела-б часткі і было-б многім, калі-б яно ўзяло ўдзел у прасталінійнай або круглай хвіґуры.

АРЫСТОТЭЛЕС: Бяз сумніву.

ПАРМЭНІДЭС: І, ня маючы ўдзелу, яно ня будзе ані
138 простым, ані круглым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: І, будучы гэтакім, яно ня можа быць нідзе, бо яно ня можа быць ані ў іншым, ані ў самым сабе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Бо, калі-б яно было ў іншым, дык яно было-б ахопленым тым, у чым яно знаходзілася-б, і ў шматлікіх мясцох датыкалася-б сваімі чысьленымі часткамі; але тое, што́ зьяўляецца адным і непадзельным і ня прыймае ўдзелу ў свомасьцях круглага, дык і немагчымым ёсьць, каб яно датыкалася ў многіх мясцох на абрысаваньні кругу́.

АРЫСТОТЭЛЕС: Немагчыма.

ПАРМЭНІДЭС: З другое стараны, калі-б яно знаходзілася ў самым сабе, дык яно было-б зьмешчаным ні чым іншым, як толькі самым сабою, калі яно толькі запраўды будзе знаходзіцца ў самым сабе: бо нічога ня можа быць у чым-небудзь, што́ не зьмяшчае яго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ня можа быць.

ПАРМЭНІДЭС: Але тады, тое, што́ зьмяшчае, мусіць быць нечым іншым, чымся тое, што́ ёсьць зьмешчаным,- бо адно і тое самае, як цэлае, ня можа адначасна знаходзіцца ў двох розных станах; бо, калі-б так, дык адно не магло-б быць болей адно, але два.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно ня можа быць нідзе, ані ў самым сабе, ані ў іншым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Не.

ПАРМЭНІДЭС: Падумай далей, ці можа яно, будучы гэтакім, быць у стане супачынку ці руху.
АРЫСТОТЭЛЕС: І чаму-ж не?
ПАРМЭНІДЭС: Чаму? бо, калі-б яно было ў руху, тады-б яно пераходзіла зь месца на месца або зьменьвала-б сваю свомасьць; бо гэта адзіныя трываньні руху.
АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.
ПАРМЭНІДЭС: І адно, калі яно зьіначавецца і перастае быць сабою, ня можа быць болей адным.
АРЫСТОТЭЛЕС: Ня можа.
ПАРМЭНІДЭС: Затым, яно ня можа дазнаваць гэтакага руху, які мае натуру зьменнасьці.
АРЫСТОТЭЛЕС: Як выглядае, не.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, ці ня можа рух аднаго быць рухам на месцы?
АРЫСТОТЭЛЕС: Магчыма.
ПАРМЭНІДЭС: Але, калі адно парушаецца на месцы, дык яно або парушаецца навакол і навакол на тым самым месцы, або з аднаго месца на іншае.
АРЫСТОТЭЛЕС: Абавязкава.
ПАРМЭНІДЭС: І тое, што́ рухаецца навакол, мусіць супачываць на цэнтры; а тое, што́ кратаецца навакол цэнтру, мусіць мець часткі, якія розьняцца ад гэтага цэнтру. Але, ці магчыма, каб краталася навакол цэнтру тое, што́ ня мае ўдзелу ані ў цэнтры, ані ў частцы?
АРЫСТОТЭЛЕС: Зусім немагчыма.
ПАРМЭНІДЭС: Але, магчыма, рух аднаго складаецца зь пераходаў з месца на месца?
АРЫСТОТЭЛЕС: Магчыма, калі яно наагул рухаецца.
ПАРМЭНІДЭС: Але, ці ня высьнілі мы ўжо, што яно ня можа знаходзіцца на ніякім месцы?
АРЫСТОТЭЛЕС: Так.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, ягоны прыход у быцьцё ў чым-небудзь зьяўляецца ўсё яшчэ немагчымым; ці-ж ня гэтак?
АРЫСТОТЭЛЕС: Не разумею, чаму.
ПАРМЭНІДЭС: А таму, што калі што-небудзь прыходзіць да быцьця ў чым-небудзь іншым, дык яно ня можа быць ані, як да гэтае пары, у гэтым іншым, калі ўсё яшчэ прыходзіць да быцьця, ані быць навонкі, калі яно прыходзіць да быцьця ў ім.
АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна, не.
ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі што-небудзь прыходзіць да быцьця ў нечым іншым, мусіць мець часткі; тады адна частка можа знаходзіцца ў сярэдзіне нечага, а іншая - навонкі гэтага нечага; але тое, што́ ня мае

частак, ані якім спосабам ня можа ў вадным і тым самым часе быць сваею цэласьцю ў сярэдзіне чаго-небудзь або навонкі яго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: І ці-ж няма яшчэ большае немагчымасьці ў тым, што тое, што анігдзе ня прыходзіць да быцьця, ня мае частак, і ня творыць сабою цэлага, калі яно ня можа прыйсьці да быцьця ані як частка, ані як цэлае?

АРЫСТОТЭЛЕС: Здаецца гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно ня зьменьвае месца, ідучы
139 чы ў якім-небудзь напрамку або прыходзячы да быцьця ў чым-небудзь; яно не абяртаецца на тым самым месцы; гэтаксама як і ня зьінача ваецца ў самым сабе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Вельмі праўдападобна.

ПАРМЭНІДЭС: Значыцца, з увагі на кажны від руху, адно зьяўляецца нярухомым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Нярухомым.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтак, як і згадзіліся мы, адно не знаходзіцца ў чым-небудзь.

АРЫСТОТЭЛЕС: Згадзіліся.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, яно не знаходзіцца ў тым самым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Чаму не?

ПАРМЭНІДЭС: Затым, што, калі-б яно было ў тым самым, дык яно было-б у нечым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Зусім правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Але, як сказалі мы, для аднаго немагчыма знаходзіцца ў самым сабе, і ў іншым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Немагчыма.

ПАРМЭНІДЭС: Пасьлядоўна, адно ніколі ня бывае ў вадным і тым самым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Але тое, што ніколі ня бывае ў тым самым, ніколі не супачывае або стаіць на месцы.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ніколі.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, як выдаецца, адно не знаходзіцца ані ў супачынку, ані ў руху.

АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае гэта вельмі праўдападобна.

ПАРМЭНІДЭС: Ані будзе яно тоесным з самым сабою, ані зь іншым, а здругое стараны, адменным ад самога сябе і ад іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Будучы адменным ад самога сябе, яно, ведама, было-б адменным ад аднаго і ня было-б адным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: А будучы ўтоесамленым зь іншым, яно было-б гэтым іншым і ня было-б самым сабою; затым гэтаксама і на аснове гэтае прадумовы, яно ня ме-

ла-б свомасьці аднаго, а было-б нечым іншым, чымся адно.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што было-б.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, яно ня будзе ўтоесамленым зь іншым або адменным ад самога сябе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ня будзе.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама яно ня будзе іншым ад іншага, як доўга яно астаецца аднам; бо не адно, але іншае можа быць іншым ад іншага, і нічога іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Гэткім чынам, адно, дзякуючы таму, што яно ёсьць адным, ня можа быць іншым. А мо' ты думаеш інакш?

АРЫСТОТЭЛЕС: Не, якраз гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: Але, калі яно ня можа быць іншым, дзякуючы сваей адзінасьці, дык яно ня будзе іншым і з прычыны самога сябе, а калі яно ня можа быць іншым з прычыны самога сябе, дык само яно, ня будучы іншым, ня будзе апрычоным у аднясеньні да чаго-небудзь іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама ня будзе яно тоесным з самым сабою.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта, не?

ПАРМЭНІДЭС: Напэўна, натура аднаго не зьяўляецца натураю тоеснага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Чаму не?

ПАРМЭНІДЭС: Бо гэтак ня ёсьць, каб нешта, стаючыся тоесным з чым-небудзь, ставалася адным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Чым-жа, тады, яно стаецца?

ПАРМЭНІДЭС: Стаючыся тоесным з многім, яно няўхільна стаецца многім, а на адным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: Калі-б ня было розьніцы паміж адным і тоесным, дык кажны раз, калі што-небудзь ставалася-б тоесным, дык яно ставалася-б адным, а стаючыся адным, ставалася-б тоесным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: І дзелягэтага, калі адно ёсьць тоесным з самым сабою, дык яно ня будзе адным з самым сабою, і затым яно будзе адным і ня будзе адным. Але гэта немагчымым ёсьць, затым адно ня можа быць адменным ад іншага, ані тоесным з самым сабою.

АРЫСТОТЭЛЕС: Пэўна, што гэта немагчыма.

ПАРМЭНІДЭС: Дык вось, адно ня можа быць іншым, чымся іншае, ані таксама самым сабою.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, ня можа быць.

ПАРМЭНІДЭС: І іншае, яно ня будзе ані падобным,

ані непадобным да ніякае рэчы - ані да сябе самога, ані да чаго-небудзь іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Чаму не?

ПАРМЭНІДЭС: А затым, што падобнае - гэта быццам тоеснасьць схільнасьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: І выявілася, што тоеснасьць у сваей натуры вырозьніваецца ад аднаго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, выявілася.

I40 ПАРМЭНІДЭС: Але, калі-б адно мела якую-небудзь іншую схільнасьць, чымся быць адным, тады-б яно аставалася пад уплывам схільнасьці быць болей, чымся адно; і гэта ёсьць немагчымым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, адно ня можа быць схільным, каб стацца тоеснасьцю іншага, ані самога сябе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ясна, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, яно ня можа быць падобным да нічога іншага, ані да самога сябе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Не.

ПАРМЭНІДЭС: І ня можа быць яно схільным, каб быць іншым, бо ў падобным выпадку яно займела-б схільнасьць быць болей, чымся адно.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, займела-б.

ПАРМЭНІДЭС: Тое, што займела-б схільнасьць быць адменным ад самога сябе або ад іншага, будзе непадобным гэтак да сямога сябе як і да іншага, бо тоеснасьць схільнасьці - гэта падобнасьць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Але адно, як высьнілася, ня будучы ніколі паддадзеным свомасьці быць адменным, ніколі ня ёсьць непадобным да самога сябе ані да іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ніколі.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, адно ніколі ня будзе падобным ані непадобным да самога сябе або да іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ясна, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Зноў-жа, маючы гэтакую свомасьць, яно ня можа быць роўным ані няроўным самому сабе або іншаму.

АРЫСТОТЭЛЕС: Чаму?

ПАРМЭНІДЭС: Чаму? - таму, што яно, будучы роўным, мусіць мець гэтулькі сама мераў, калькі мае тое, чаму яно роўным ёсьць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: І калі большым або меншым, чымся рэчы, зь якімі яно сувымерным ёсьць, тады адно будзе большым у параўнаньні зь меншым, і меншым - у параўнаньні з большым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.
ПАРМЭНІДЭС: А ў аднясеньні да вялічы́няў, зь які-мі яно ня сувымерным астаецца, яно ня будзе мець ані меншых, ані большых мер.
АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.
ПАРМЭНІДЭС: Але як можа быць, каб тое, што́ не бярэ ўдзелу ў тоеснасьці, мела адны і тыя самыя меры або мела што-небудзь тоеснае зь іншым?
АРЫСТОТЭЛЕС: Немагчыма.
ПАРМЭНІДЭС: А тое, што́ не аднае і тае самае меры, ня можа быць роўным ані самому сабе, ані чаму-небудзь іншаму.
АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае, што так.
ПАРМЭНІДЭС: Але зноў-жа, зьмяшчае яно ў сабе меней ці болей мераў, яно будзе мець гэтак многа частак, колькі зьмяшчае ў сабе мераў; і гэтым, зноў, адно ня будзе болей адным, але будзе ўжо мець гэтак многа частак, колькі зьмяшчае мераў.
АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.
ПАРМЭНІДЭС: Калі-б яно зьмяшчала адну меру, яно было-б роўным гэтай меры; але выясьнілася, што яму немагчыма быць роўным чаму-небудзь.
АРЫСТОТЭЛЕС: Выясьнілася.
ПАРМЭНІДЭС: Затым, яно ня возьме ўдзелу ані ў вадной меры, ані ў шматлікасьці іх, ані ў некалькіх зь іх, і зусім ня возьме ўдзелу ў тоеснасьці, і ніколі ня будзе роўным сабе самому, ані іншаму; гэтаксама ня будзе большым або меншым за самога сябе або за нешта іншае.
АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: А цяперака яшчэ нешта. Ці ўяўляем мы сабе, што адно можа быць старэйшым або маладзейшым за што-небудзь, або аднолькавага веку зь нечым?
АРЫСТОТЭЛЕС: І чаму-ж бы не?
ПАРМЭНІДЭС: А затым, што тое, што́ зьяўляецца аднолькавага веку з самым сабою або зь нечым іншым, мусіць браць удзел у роўнасьці часу і падобнасьці; а мы ўжо гаварылі, што адно ня прыйме ўдзелу ані ў роўнасьці, ані ў падобнасьці.
АРЫСТОТЭЛЕС: Так, мы гаварылі.
ПАРМЭНІДЭС: І мы гэтаксама гаварылі, што яно ня прыйме ўдзелу ў падобнасьці як і непадобнасьці.
АРЫСТОТЭЛЕС: Вельмі трапна сказана.
ПАРМЭНІДЭС: Як-жаж, тады, адно, маючы гэтакую на-туру, можа быць старэйшым або маладзейшым за што-небудзь, або быць у аднолькавым веку? I4I
АРЫСТОТЭЛЕС: У ніякім выпадку.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно ня можа быць старэйшым або маладзейшым, ці ў тым самым веку ані з самым сабою, ані з чым-небудзь іншым.
АРЫСТОТЭЛЕС: Ясна, што не.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, маючы гэтакую натуру, зусім ня можа быць у часе; ці-ж ня ёсьць гэта няўхільным, што тое, што знаходзіцца ў часе, мусіць ставацца старэйшым за самое сябе?
АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.
ПАРМЭНІДЭС: А тое, што ёсьць старэйшым, заўсёды мусіць быць старэйшым за тое нешта, што ёсьць мамаладзейшым?
АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?
ПАРМЭНІДЭС: Тады, тое, што стаецца старэйшым за самое сябе, стаецца адначасна маладзейшым за самога сябе, як толькі будзе ў ім тое, старэйшым за што стаецца яно.
АРЫСТОТЭЛЕС: Што ты маеш на ўвазе?
ПАРМЭНІДЭС: Вось што я маю на ўвазе: - ніякая рэч не патрабуе ставацца адменнаю ад іншае рэчы,якая ўжо ёсьць адменнаю, і, калі яна адменнаю сталася, дык яна сталася адменнаю; і далей, калі яна адменнаю будзе, дык яна будзе адменнаю; але для таго, што ўжо сталася адменным, няма"ўжо сталася"адменным або "зараз будзе" адменным, ці "яшчэ будзе" адменным: бо адно існуе для адменнага - гэта тое, калі яно стаецца адменным, і нічога іншага.
АРЫСТОТЭЛЕС: Гэта няўхільнасьцю ёсьць.
ПАРМЭНІДЭС: І зноў-жа, старэйшае зьяўляецца розьніцаю ў аднясеньні да маладейшага, і да нічога іншага.
АРЫСТОТЭЛЕС: Так.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, тое, што стаецца старэйшым за самое сябе, мусіць гэтаксама, у тым самым часе, ставацца маладзейшым за самое сябе.
АРЫСТОТЭЛЕС: Выходзіць, што так.
ПАРМЭНІДЭС: Але зноў-жа, за трапнае можна уважаць, што, у вабліччу часу, яно ня трывае даўжэй ці карацей ад самога сябе, але мусіць прайсьці працэс: ставацца, і быць, і было, і будзе, у межах роўнага сабе часу.
АРЫСТОТЭЛЕС: Зноў-жа, і гэта неабходным ёсьць.
ПАРМЭНІДЭС: Дык і гэта неабходным ёсьць, што ўсё, што існуе ў часе, і прыймае ўдзел у ім, у кажным выпадку мусіць быць, як мне здаецца, у аднолькавым веку з самым сабою; і мусіць, у тым самым часе, ставацца і старэйшым, і маладзейшым за самое сябе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Але адно ня прыймае ўдзелу ў гэтых схільнасьцях.

АРЫСТОТЭЛЕС: Зусім, не.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, яно ня прыйме ўдзелу ў часе, і не знаходзіцца ні ў якім часе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, гэта выцякае з нашага разважаньня.

ПАРМЭНІДЭС: І што далей? Ці-ж гэтакія выражэньні, як "было" і "сталася" або "было сталася" не гавораць, што маецца тут дачыненьне зь мінулым часам?

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: А ці-ж словы "будзе", "станецца" або "будзе ставацца", "мецімe" не гавораць, што маецца тут дачыненьне з часам будучым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: А словы "ёсьць", "стаецца" ці-ж не паказваюць, што маецца тут дачыненьне зь цяперашнім часам?

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Цяперака, калі адно зьяўляецца абсалютным і бяз удзелу ў часе, дык яно ніколі ня сталася або было сталася, ня ўдзельнічала ў ніякім часе, або цяперака стаецца, або ёсьць,або ставацімецца, або будзе ставацца, або станецца і ня будзе пасьля.

АРЫСТОТЭЛЕС: Вельмі праўдзіва.

ПАРМЭНІДЭС: Але ці існуе яшчэ якое-небудзь іншае выражэньне ўдзелу ў быцьці апрача ўспомнутых?

АРЫСТОТЭЛЕС: Нямашака.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно ня мае магчымасьці браць удзелу ў быцьці?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, гэткім ёсьць выснаў.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно зусім ня існуе?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ясна, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно ня існуе гэтак, каб быць адным; бо, калі-б яно было і брала ўдзел у быцьці, тады-б яно было; затым, калі нашае разважаньне мае пад сабою нейкі грунт, тады адно ані ня існуе, ані існуе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выглядае. I42

ПАРМЭНІДЭС: Але тое, што ня існуе, ня мае ніякіх характэрных для сябе рысак або якіх-небудзь суадносінаў?

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Бо ня існуе для яго ані імя, ані слова, ані веда пра яго, ані пачуцьцёвае ўспрыймо

яго, як і думка адносна яго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ясна, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, немагчыма назваць яго, ані ўхвармаваць думкі пра яго, ані пазнаць яго, і нічога з таго, што існуе, ня можна пачуцьцямі ўспрыняць яго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, гэтакі ёсьць высnаў.

ПАРМЭНІДЭС: Але ці ўсё гэта мае быць запраўднасьцю адносна яго?

АРЫСТОТЭЛЕС: Я думаю, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Давай, тады, вернемся яшчэ раз да першапачаткавае гіпатэзы і паглядзімо, ці ў далейшым разважаньні, ня выявіцца новы аспэкт у закранутым пытаньні.

АРЫСТОТЭЛЕС: Я буду вельмі рады.

ПАРМЭНІДЭС: К а л і  а д н о  ё с ь ц ь , як цьвердзілі мы, тады трэба прыняць усе наступствы,- усяроўна якімі яны могуць быць, - што выцякаюць з гэтага дапушчэньня.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, вазьмем з пачатку: - Калі а д н о  ё с ь ц ь , ці можа адно быць і ня прыймаць удзелу ў быцьці?

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэткае - ня можа.

ПАРМЭНІДЭС: Тады павінна існаваць быцьцё аднаго, але ня тоеснае з адным, бо калі-б было тоесным, ня было-б быцьцём аднаго; і адно ня мела-б удзелу ў быцьці; бо цьверджаньне, што адно ёсьць адно, было-б роўназначна цьверджаньню, што адно ёсьць адно; але нашаю гіпатэзаю не зьяўляецца а д н о  ё с ь ц ь  а д н о , - што яшчэ наступіць, - але к а л і  а д н о  ё с ь ц ь. Ці ня так гэта?

АРЫСТОТЭЛЕС: Зусім так.

ПАРМЭНІДЭС: Мы хочам сказаць, што слова ё с ь ц ь ня значыць тое самае, што а д н о .

АРЫСТОТЭЛЕС. Абавязкава.

ПАРМЭНІДЭС: Бо, калі мы агорнем усё разам коратка, і скажам "Адно ёсьць", дык ці ня будзе гэта роўназначнасьцю таму, што "ўдзельнічае ў быцьці"?

АРЫСТОТЭЛЕС: Будзе.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, запытайма яшчэ раз: калі а д н о  ё с ь ц ь, якія наступствы сьледуюць з гэтага? Ці-ж ня лучыць у сабе гэтая гіпатэза неабходнасьці, што адно зьяўляецца гэтакае натуры, што мае часткі?

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: А вось як: – Калі быцьцё гаворыць пра існаваньне аднаго, а адно пра адно, што існуе, і калі, з другое стараны, быцьцё і адно ня тоесныя, а толькі адносяцца да аднаго і да таго аднаго, што існуе і якое мы ўзялі пад увагу, дык стаецца неабходнасьцю, каб само быцьцё, што існуе, было цэлым, а ягоныя часткі – адно і быцьцё?

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Ці маем кажную з гэтых частак – адно і быцьцё – проста называць часткаю, ці мо' слова "частка" мусіць адносіцца да "цэлага"?

АРЫСТОТЭЛЕС: Да цэлага.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, тое, што́ ёсьць адным, зьяўляецца абодвума: і цэлым, і часткаю?

АРЫСТОТЭЛЕС: Якраз гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: І зноў-жа, пра часткі аднаго, калі яно ёсьць – я маю на ўвазе быцьцё і адно – ці можа кажная зь іх трываць асобна – адно бяз быцьця, як свае часткі, і быцьцё без аднаго, як свае часткі?

АРЫСТОТЭЛЕС: Не, ня можа.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, кажная з гэтых дзьвюх частак, у сваю чаргу, мае ў сабе і адно і быцьцё, і кажная частка, зноў-жа, творыцца што найменей зь дзьвюх частак; і паводля гэтага-ж прынцыпу ўсё тое, што́ мае стацца часткаю, заўсёды будзе мець гэтыя дзьве часткі; бо адно заўсёды зьмяшчае ў сабе быцьцё, а быцьцё – адно; так, што адно заўсёды шчазае і стаецца двума.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна гэтак ёсьць. I43

ПАРМЭНІДЭС: Гэтак і з адным, калі яно ёсьць, мусіць быць бязьмежнаю шматлікасьцю?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: Але падыйдзем да пытаньня зь іншага боку.

АРЫСТОТЭЛЕС: Зь якога боку?

ПАРМЭНІДЭС: Ці ня цьвердзім мы, што адно бярэ ўдзел у быцьці і затым ёсьць?

АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.

ПАРМЭНІДЭС: І гэткім спосабам, адно, калі мае быцьцё, абартаецца ў многае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: А цяперака, агарне́м думкаю самое адно, якое, як мы цьвердзім, бярэ ўдзел у быцьці, і пастараймася ўявіць сабе яго як гэткае, але без таго, у чым яно бярэ ўдзел – ці выдасца тады адно адным, ці мо' будзе многім?

АРЫСТОТЭЛЕС: Я думаю, адным.
ПАРМЭНІДЭС: Паглядзімо: - Ці не павінна быцьцё аднаго быць іншым, чымся адно? Бо-ж адно не зьяў-ляецца быцьцём, але разглядаецца як адно, якое прыймае ўдзел у быцьці?
АРЫСТОТЭЛЕС: Павінна.
ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі быцьцё і адно зьяўляюцца двума і рознымі рэчамі, дык стаецца гэта не затым, што адно ёсьць адно і, што яно іншае чымся быцьцё; і не затым, што быцьцё ёсьць быцьцё і, што яно іншае, чымся адно; але што яны розьняцца адзін ад другога з прычыны іншасьці і рознасьці.
АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, іншае не зьяўляецца тоесным ані аднаму, ані быцьцю.
АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна, не.
ПАРМЭНІДЭС: І дзеля гэтага, ці выбярэм мы быцьцё і іншае, або быцьцё і адно, або адно і іншае, у кажным выпадку мы выбярэм дзьве рэчы, якія апраўдана могуць быць названы "абедзьве".
АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?
ПАРМЭНІДЭС: А вось як: - Ці можна гаварыць пра быцьцё?
АРЫСТОТЭЛЕС: Можна.
ПАРМЭНІДЭС: І гэтаксама пра адно?
АРЫСТОТЭЛЕС: І гэта можна.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, гаварылі мы пра кажнае зь іх?
АРЫСТОТЭЛЕС: Так.
ПАРМЭНІДЭС: Калі я гавару пра быцьцё і пра адно, ці не гавару я пра "абодва" зь іх?
АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна, пра абодва.
ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі я гавару пра быцьцё і пра адно, або пра адно і пра іншае, ці-ж, у кажным з пададзеных прыкладаў, не гавару я пра абодва?
АРЫСТОТЭЛЕС: Так.
ПАРМЭНІДЭС: А ці магчыма, каб тое, што правільна названа абодва, гэтакім было, а два - не?
АРЫСТОТЭЛЕС: Немагчыма.
ПАРМЭНІДЭС: А зь дзьвюх рэчаў, ці існуе якая-небудзь магчымасьць, каб кажная зь іх ня была адною?
АРЫСТОТЭЛЕС: Ня існуе.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, калі адзінкі з пары разам твораць сабою два, дык, пасьлядоўна, кажная зь іх будзе адною?
АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.
ПАРМЭНІДЭС: І, калі кажнае з пары ёсьць адно, тады, дарогаю даданьня да пары аднаго, - цэласьць

стаецца тры?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Але тры няцотнае, а два - цотнае?

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?

ПАРМЭНІДЭС: І, калі існуе два, мусіць існаваць двойчы, і калі ёсьць тры, мусіць быць тройчы; гэта значыць, калі двойчы творыць два, тады тройчы - тры?

АРЫСТОТЭЛЕС: Пэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Існуе два, і двойчы, дзелягэтага, мусіць быць двойчы два; існуе гэтаксама тры, і тройчы, дык мусіць быць і тройчы тры?

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш можа быць?

ПАРМЭНІДЭС: Калі існуе тры і двойчы, тады ёсьць двойчы тры; і зноў-жа, калі існуе два і тройчы, тады ёсьць тройчы два?

АРЫСТОТЭЛЕС: Бяссумліву.

ПАРМЭНІДЭС: Тут зноў, цотнае ўзята цотнае разоў,
і няцотнае - няцотнае разоў; і цотнае ўзята няцот- I44
нае разоў, і няцотнае - цотнае разоў.

АРЫСТОТЭЛЕС: Пэўна.

ПАРМЭНІДЭС: І, калі гэтак рэч маецца, ці астаецца яшчэ які-небудзь лік, які ня мае неабходнасьці існаваць?

АРЫСТОТЭЛЕС: Не.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі існуе адзін, дык неабходным ёсьць, каб існаваў і лік.

АРЫСТОТЭЛЕС: Неабходным.

ПАРМЭНІДЭС: Але, калі існуе лік, дык мусіць гэтаксама існаваць многае і бязьмежная множнасьць таго, што існуе; бо лік зьяўляецца бязьмежным у множнасьці, і прыймае ўдзел у быцьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: І калі ўсенькі лік прыймае ўдзел у быцьці, дык кажная частка ліку гэтаксама ўдзельнічае?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, быцьцё распадзелена між суцэльнага безьліччу рэчаў, і нічога няўхільным астаецца бяз розьніцы на тое, будзе яно малым ці вялікім? І запраўды, сам здагад у гэтым кірунку, выдаўся-б нямудрым, бо як-жаж можа ўхіліцца рэч, якая існуе?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ня можа ўхіліцца.

ПАРМЭНІДЭС: Яно распадзелена на найбольшыя і на найменшыя часткі быцьця, у розных ягоных хвормах, у найвышэйшай ступені разьбітыя на часткі. І распа-

дзел у быцьці ня мае межаў.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ты маеш рацыю.

ПАРМЭНІДЭС: З гэтага, яко мае найбольшы лік частак.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, найбольшы лік.

ПАРМЭНІДЭС: Ці ёсьць што-небудзь з гэтага, што зьяўляецца часткаю быцьця і адначасна ня было-б часткаю?

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэта немагчыма.

ПАРМЭНІДЭС: Але, калі яна наагул існуе, і, як доўга яна існуе, яна мусіць быць нечым адным, і ня можа быць нічым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно знаходзіцца ў кажнай паасобнай частцы быцьця, і не адсутнічае ў ніякай частцы ўсяроўна як вялікаю ці малою ці якое хвормы яна можа быць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: А цяперака падумай: - Ці можа адно ў сваей суцэльнасьці аднача́сна быць у шматлікіх мясцох?

АРЫСТОТЭЛЕС: Я думаю і бачу, што гэта немагчымым ёсьць.

ПАРМЭНІДЭС: Калі яно ня можа быць у сваей суцэльнасьці, тады распадзелена; бо-ж яно ня можа быць прысутным усімі часткамі ў быцьці, ня будучы распадзеленым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: І тое, што распадзельваецца, павінна быць у гэтакай колькасьці, колькі ёсьць частак.

АРЫСТОТЭЛЕС: Пэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады мы памыляліся, кажучы перад хвілінаю, што быцьцё было распадзелена на найбольшы лік частак. Яно не распадзелена на часткі болей, чымся само адно, але на часткі колькасна, адказваючыя аднаму, бо ані быцьцё адасобнена ад аднаго, ані адно - ад быцьця, але, будучы дывума, яны астаюцца сумернымі і сураспадзельнымі сабе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэта найболей праўдападобным ёсьць.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, само адно, будучы распадзеленым быцьцём на часткі, выяўляецца як аграмаднае і бязьмежнае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэта праўда.

ПАРМЭНІДЭС: І ня толькі адно, што існуе, ёсьць многае, але адно само ў сабе, распадзеленае быцьцём, гэтаксама павінна быць многім.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЕС: І далей; як далёка часткі зьяўляюцца
ца часткамі цэлага, гэтак адно, як цэлае, павінна
быць абмежаваным; і запраўды, ці-ж часткі не агор-
тваюцца цэлым? I45

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: А тое, што іх агортвае, зьяўляецца мяжою.

АРЫСТОТЭЛЕС: Але.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, якое існуе, зьяўляецца адначасна і адным, і многім, і цэлым, і часткамі, будучы абмежаваным, астаецца бязьмежным у колькасьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Запраўды.

ПАРМЭНІДЭС: Калі яно ёсьць абмежаваным, дык ці-ж ня мае яно ўскраінаў?

АРЫСТОТЭЛЕС: Пэўна, што мае.

ПАРМЭНІДЭС: І будучы цэлым, яно мае пачатак, сярэдзіну і канец. Бо ці-ж можа што-небудзь быць цэлым і ня мець гэтых трох? І, калі што-небудзь ня мае аднаго зь іх, ці-ж можа быць цэлым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ня можа.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, як выглядае, павінна мець пачатак, сярэдзіну і канец.

АРЫСТОТЭЛЕС: Павінна.

ПАРМЭНІДЭС: І зноў-жа, сярэдзіна знаходзіцца на роўнай адлегласьці ад ускраінаў, бо інакш яна ня была-б сярэдзінаю.

АРЫСТОТЭЛЕС: Не, ня была-б.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно возьме ўдзел у хвігуры, якая хвормаю можа быць просталінійная або круглая, або лучнасьць паміж гэтымі дзьвюма.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, возьме ўдзел.

ПАРМЭНІДЭС: І, калі гэта знаходзіць сваё месца, тады яно будзе знаходзцца ў сабе самым і ў іншым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Як?

ПАРМЭНІДЭС: Кажная частка знаходзіцца ў цэлым, і ні водная не знаходзіцца па-за цэлым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: І ўсе часткі агортваюцца цэлым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Але.

ПАРМЭНІДЭС: Але адно - гэта і ёсьць усе ягоныя часткі, усе - ані болей і ані меней як усе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Хай будзе гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: І адно творыць сабою цэлае?

АРЫСТОТЭЛЕС: Натуральна.

ПАРМЭНІДЭС: Але, калі ўсе часткі знаходзяцца ў

цэлым, і калі адно зьмяшчае іх у сабе і творыць цэлае, і ўсе яны агорваюцца цэлым, тады адно будзе агортвацца адным; і гэтым адно будзе ў самым сабе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выглядае.

ПАРМЭНІДЭС: Але тады, зноў, цэлае не знаходзіцца ў частках: ані ўва ўсіх, ані ў якой-небудзь адной. Бо, калі яно знаходзіцца ўва ўсіх частках, гэтым мусіць знаходзіцца і ў вадной; і, не знаходзячыся ў якой-небудзь адной, не магло-б знаходзіцца ўва ўсіх; бо частка, у якой яно пажаданым ёсьць, ёсьць адна з усіх; і калі цэлае не знаходзіцца ў гэтай пажаданай частцы, тады як яно можа знаходзіцца ўва ўсіх?

АРЫСТОТЭЛЕС: Немагчыма.

ПАРМЭНІДЭС: Але цэлае не знаходзіцца і ў некаторых частках; бо, з другое стараны, калі-б цэлае зьмяшчалася толькі ў некаторых частках, дык гэтым выявілася-б, што большае зьмяшчалася-б у меншым, што, як ведама, немагчымым ёсьць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Немагчымым, запраўды.

ПАРМЭНІДЭС: Але, калі цэлае не знаходзіцца ані ў воднай частцы, ані ў болей, чымся адной, ані гэтаксама ўва ўсіх частках, тады яно мусіць знаходзіцца ў нечым іншым, або, зусім нідзе не знаходзіцца?

АРЫСТОТЭЛЕС: Мусіць.

ПАРМЭНІДЭС: Калі-б яно нідзе ня было, тады-б яно было нічога; але, будучы цэлым і, не знаходзячыся ў самым сабе, яно павінна быць у іншым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, павінна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, разуметае як цэлае, знаходзіцца ў нечым і, разуметае як суцэльнасьць усіх частак, знаходзіцца ў самым сабе. Дзеля гэтага, адно мусіць быць самым сабою ў самым сабе і гэтаксама ў іншым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, маючы гэтакія своmасьці, у сілу неабходнасьці, знаходзіцца ў стане супачынку і руху?

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Адно, ведама, супачывае, бо-ж яно
I46 знаходзіцца ў самым сабе; знаходзячыся ў адным і,
ня выходзячы зь яго, яно ёсьць у тым самым - у самым сабе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: І тое, што стала знаходзіцца ў тым самым, мусіць быць заўсёды ў супачынку.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: І далей, тое, што заўсёды знаходзіцца ў іншым, наадварот, ніколі ня будзе ў тым самым; і, калі ніколі ў тым самым, ніколі не знаходзіцца ў супачынку, і, калі не ў супачынку, тады - у руху?

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, знаходзячыся заўсёды ў самым сабе і ў іншым, адно стала мысіць быць у руху, і супачываць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выглядае.

ПАРМЭНІДЭС: І яно мусіць быць тоесным з самым сабою, і адменным ад самога сябе, і гэтаксама тоесным зь іншым і адменным ад яго, калі яно мае ўсабе ўжо ўспомнутыя схільнасьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Кажная рэч,у суадносінах да кажнае іншае рэчы, зьяўляецца або такою самаю, або іншаю; або, калі ані такою самаю, ані іншаю, тады ў суадносінах часткі да цэлага або цэлага да часткі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выдаецца.

ПАРМЭНІДЭС: Ці адно зьяўляецца часткаю самога сябе?

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна, не.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, яно не зьяўляецца часткаю ў адносінах да самога сябе, і яно ня можа ўсуадноўшвацца да самога сябе як цэлае да часткі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, гэта немагчыма.

ПАРМЭНІДЭС: Але ці ня ёсьць адно іншае, чымся адно?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, не.

ПАРМЭНІДЭС: З гэтага, яно ня можа быць адменным ад самога сябе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна, не.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, калі яно ня будзе ані іншым, ані цэлым, ані часткаю ў суадносінах да самога сябе, ці не павінна яно быць тоесным з самым сабою?

АРЫСТОТЭЛЕС: Павінна.

ПАРМЭНІДЭС: І зноў-жа, рэч, якая знаходзіцца ў іншым месцы ў параўнаньні да самое сябе, - калі гэтае "самое сябе" астаецца ў тым самым месцы з самым сабою, - ці не павінна быць іншаю ад "самое сябе", калі ўжо мае быць у іншым месцы?

АРЫСТОТЭЛЕС: Як мне здаецца, павінна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, як выявілася, аднача́сна знаходзіцца ў самым сабе і ў іншым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так выглядае.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтым, тады, як відаць, адно будзе іншым, чымся самое само.

АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.

ПАРМЭНІДЭС: І далей, калі нешта будзе адменным, чымся нешта іншае, дык ці ня будзе яно іншым, чымся тое, што ёсьць іншым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Будзе.

ПАРМЭНІДЭС: І ці ня будуць усе рэчы, якія ня ёсьць адным, іншым, чымся адно, і адно іншым, чымся не-адно?

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жаж інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Згэтуль, адно будзе іншым, чымся іншае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Будзе.

ПАРМЭНІДЭС: Але паўзірайся: – Ці абсалютнае тое самае, і абсалютнае іншае не зьяўляюцца супроцьлежнымі сабе?

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жаж інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Ці тое самае можа быць у іншым, або іншае ў тым самым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ня можа быць.

ПАРМЭНІДЭС: Зноў-жа, калі іншае ніколі ня можа знаходзіцца ў тым самым, тады нічога няма, у чым іншаемагло-б знаходзіцца ў прамежжы якога-небудзь часу; бо ў прамежжы гэтага часу, і ўсяроўна як кароткім яно магло-б быць, іншае магло-б быць у тым самым. Ці ня гэтак рэч маецца?

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: І, калі іншае ніколі ня можа знаходзіцца ў тым самым, тады яно ніколі ня можа быць у чым-небудзь з таго, што існуе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, іншае ніколі ня можа знаходзіцца ані ў не-адным, ані ў адным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Пэўна, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, не пры помачы іншасьці будзе адно розьніцца ад не-аднаго, або не-адно ад аднаго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Не.

ПАРМЭНІДЭС: Ані пры помачы сябе самых будуць яны розьніцца між сабою, калі ня ўдзельнымі астаюцца ў іншым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як яны могуць?

147 ПАРМЭНІДЭС: Але, калі яны не зьяўляюцца іншымі ані пры помачы самых сябе, ані пры помачы іншага, дык ці ня ўхіліцца наагул тады ад іх тое, праз што могуць яны быць іншымі адзін ад другога?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ухіліцца.

ПАРМЭНІДЭС: І зноў-жа, не-адно ня можа браць удзелу ў адным; інакш, яно ня было-б не-адным, але, у пэўным выпадку, адным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама, не-адно ня можа быць лі-

кам; бо маючы лік, тады яно наагул ня было-б не-адным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Дык што-ж? Ці зьяўляецца не-адно часткаю аднаго? Або баржджэй, не-адно прыймала-б удзел у адным?

АРЫСТОТЭЛЕС: Прыймала-б.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, калі з кажнага пункту гледжаньня, адно і не-адно зьяўляюцца рознымі, тады ані частка аднаго або цэлае ня можа быць часткаю не-аднаго, ані частка не-аднаго або цэлае ня мажа быць часткаю цэлага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Але мы сказалі, што рэчы, якія ня маюць суадносінаў між сабою ані часткамі, ані сваімі цэласьцямі, ані розьніцамі, будуць упадобненымі адна да другое.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, гаварылі.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, маем-жа мы сказаць, што адно, будучы ў гэтакіх суадносінах з не-адным, ёсьць тоесным зь ім?

АРЫСТОТЭЛЕС: Маем.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, выходзіць, што адно тоесным зьяўляецца з самым сабою і іншым, і гэтаксама розным ёсьць ад самога сябе і ад іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Магчыма гэта і ёсьць наш выснаў.

ПАРМЭНІДЭС: Ці ня будзе, тады, што адно ёсьць падобным і непадобным да самога сябе і да іншага?

АРЫСТОТЭЛЕС: Магчыма.

ПАРМЭНІДЭС: Калі адно выявілася іншым, чымся нешта іншае, дык гэтае іншае будзе гэтаксама іншым, чымся адно.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?

ПАРМЭНІДЭС: І адно гэтаксама зьяўляецца адменным ад іншага ў той самай ступені, як іншае ад яго – ня болей і ня меней?

АРЫСТОТЭЛЕС: Пэўна.

ПАРМЭНІДЭС: І, калі ня болей і ня меней, дык у той самай ступені?

АРЫСТОТЭЛЕС: Але.

ПАРМЭНІДЭС: У сузгоднасьці з схільнасьцю, дзякуючы якой, адно зьяўляецца адменным ад іншых рэчаў, а гэтыя іншыя ў падобны спосаб адменнымі ад аднаго, тады адно будзе знаходзіцца пад уплывам іншых рэчаў, а іншыя рэчы – пад уплывам аднаго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як ты разумееш гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Для вобразнасьці таго, пра што мы

гаворым, я вазьму прыклад зь імёнамі: Ці не даеш ты імя якой-небудзь рэчы?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: І ты можаш называць гэтае імя болей, чымся адзін раз?

АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.

ПАРМЭНІДЭС: І, калі ты называеш яго, дык ты абазначаеш тое, што́ носіць гэтае імя? Але, калі ты называеш болей, чымся адзін раз, тады абазначаеш нешта іншае ад таго, што́ ты называеш? А мо' няўхільна дзеецца гэта, што, калі ты выклікаеш адно і тое самае імя аднойчы ці некалькікратна, ты заўсёды абазначаеш ім адно і тое самае?

АРЫСТОТЭЛЕС: Натуральна, тое самае.

ПАРМЭНІДЭС: А ці "іншае" не зьяўляецца імем дадзенае рэчы?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, каліколечы ты ўжываеш слова "іншае", будзе гэта адзін раз ці некалькікратна, ты заўсёды называеш тое, чаму яно служыць, і не надаеш гэтае імя ніякай іншай рэчы?

АРЫСТОТЭЛЕС: Бясспрэчна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, калі мы кажам, што нешта іншае ёсьць іншым, чымся адно, і адно - нечым іншым, чымся іншае, дык, паўтараючы слова "іншае", мы гаворым пра натуру, да якое гэтае імя тасуецца, і пра ніякае іншае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Зусім правільна.

148 ПАРМЭНІДЭС: Цяперака, адно розьніцца ад іншага, і гэтае іншае - ад аднаго; і слова "іншае" тасуецца да двох; а што да прысутнае ім свомасьці "розьніцца", дык адно ня будзе мець якую-небудзь іншую адменнасьць, а тую самую, якую мае іншае; а тое, што знаходзіцца ў тым самым стане, зьяўляецца падобным. Ці ня так гэта?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: І вось, у сузгоднасьці са схільнасьцю, дзякуючы якой, адно зьяўляецца адменным ад іншых рэчаў, кажная рэч будзе падобнаю да кажнае рэчы, бо кажная рэч розьніцца ад кажнае рэчы.

АРЫСТОТЭЛЕС: Усё паказвае на гэта.

ПАРМЭНІДЭС: І зноў-жа, падобнае супроцьлежна непадобнаму.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: А іншае супроцьлежна тоесамаму.

АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.

ПАРМЭНІДЭС: І адно, як выявілася, ёсьць тоесным зь іншым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, выявілася.

ПАРМЭНІДЭС: Але быць тоесным зь іншым - гэта супроцьлежнасьць быць адменным ад іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: І ў тым, што было іншым, аказалася падобным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.

ПАРМЭНІДЭС: Але ў прысутнасьці тоеснасьці яно будзе непадобным на падставе схільнасьці, супроцьлежнай схільнасьці ўпадабненьня. Бо гэта схільнасьць іншасьці, што чыніць падобным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Згэтуль, тоеснасьць будзе чыніць яго непадобнам; бо інакш, яно ня будзе супроцьлежнасьцю іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, адно будзе падобна і непадобна да нечага іншага; падобнае - як далёка яно ёсьць іншае, і непадобнае - як далёка яно астаецца тоесным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як відаць і гэтакую арґумэнтацыю можна затасаваць.

ПАРМЭНІДЭС: І яшчэ нешта.

АРЫСТОТЭЛЕС: Што?

ПАРМЭНІДЭС: Як далёка яно мае свомасьць тоеснасьці, яно ўхіляе свомасьць іншасьці, а ня маючы свомасьці іншасьці, яно ня можа быць непадобным, а ня будучы непадобным, яно падобнае; як далёка яно ня мае свомасьці іншасьці, яно іншае, а будучы іншым, яно - непадобнае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ты праўду кажаш.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі адно і тоеснае зь іншым, і адменным ёсьць ад яго, дык, у сузгоднасьці з абедзьвюма свомасьцямі і з кажнаю ў вапрычонасьці, яно будзе і падобным, і непадобным да іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: І гэткім спосабам, выявілася і адменным ад самога сябе і тоесным з самым сабою, дык ці ня выявіцца яно, у сузгоднасьці з абедзьвюма свомасьцямі ці з адною зь іх, падобным і непадобным самому сабе?

АРЫСТОТЭЛЕС: Натуральна.

ПАРМЭНІДЭС: А цяперака паслухай як рэч маецца адносна сутыку аднаго з самым сабою і зь іншым, з аднае стараны, і нясутыку - з другое.

АРЫСТОТЭЛЕС: Я слухаю цябе.

ПАРМЭНІДЭС: Як выявілася, адно знаходзіцца ўсамым сабе, як і ў цэлым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама як і ў іншых рэчах?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: І як далёка яно знаходзіцца ў іншых рэчах, яно сутыкаецца зь іншымі рэчамі, але толькі так далёка, як далёка яно знаходзіцца ў самым сабе, сутычнасьць-жа зь іншымі рэчамі будзе ўхілена, і яно будзе датыкацца вылучна самога сябе, бо знаходзіцца ў самым сабе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так выглядае.

ПАРМЭНІДЭС: Выснаў з гэтага, што яно будзе межавацца з самым сабою і зь іншым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Будзе.

ПАРМЭНІДЭС: І што ты скажаш адносна іншага падходу? Ці тое, што мае прыйсьці да сумежнасьці з чымнебудзь, не павінна знаходзіцца побач таго, да чаго яно мае дакрануцца, займаючы пра гэтым сумежнае зь ім месца, дзе яно знаходзіцца?

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, калі адно мае прыйсьці да сутычнасьці з самым сабою, дык яно мае быць умясцоўлена ў беспасярэдняй блізкасьці да самога сябе, займаючы сумежнае месца з тым, на якім яно само знаходзіцца.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, яно павінна.

ПАРМЭНІДЭС: І гэта вымагала-б, каб адно было дву-
149 ма, і быць на двух мясцох адначасна; але, як доўга
яно адно, даканаць гэтага ніколі ня будзе ў стане.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно можа гэтак сумежыцца з сабою, як можа яно стацца двума.

АРЫСТОТЭЛЕС: Значыцца, ня можа.

ПАРМЭНІДЭС: Яно гэтаксама ня можа сумежыцца і зь нечым іншым.

АРЫСТОТЭЛЕС: І чаму не?

ПАРМЭНІДЭС: Прычына гэтага ёсьць тая, што, як і цьвердзім мы, тое, што мае прыйсьці да сутыку, павінна аставацца апрычоным, знаходзіцца побач таго, з чым яно мае ўсумежыцца, і гэтаксама нічога трэйцяга не павінна быць паміж імі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі сутычнасьць мае стацца рэчаіснасьцю, што найменей два элемэнты зьяўляюцца неабходнымі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: І, калі да двух сумежных элемэнтаў

дадаць трэйці, тады будзе іх тры, а сутыкаў - два.

АРЫСТОТЭЛЕС: Але.

ПАРМЭНІДЭС: І кажны дадатковы элемэнт творыць адну дадатковую сутычнасьць; згэтуль пасьлядоўнасьць, што сутычнасьцяў бывае на адну меней, чымся элемэнтаў; першыя два элемэнты перавышаюць лік сутычнасьцяў на адзін, і агульны лік элемэнтаў перавышае агульны лік сутычнасьцяў гэтаксама на адзін; і на кажны наступны дададзены лік элемэнтаў, адна сутычнасьць болей узьнікае да ліку сутычнасьцяў.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Якаяколечы колькасьць рэчаў у ліку, сутычнасьцяў заўсёды будзе на адну меней.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Але, калі будзе толькі адно, ня будзе двух, тады ня будзе сутычнасьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: А ці-ж ня кажам мы, што нешта іншае, будучы іншым, чымся адно, не зьяўляецца адным і ня мае ўдзелу ў адным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, іншае ня мае ліку, калі яно ня мае адзінкі ў сабе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Тады, гэтае іншае ня мае ані адзінкі, ані два, дый наагул да яго не датарноўваецца ніякае імя якога-небудзь ліку.

АРЫСТОТЭЛЕС: Не.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно ёсьць толькі адно і лік два ня існуе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як выглядае, не.

ПАРМЭНІДЭС: Калі няма двух, дык няма і сутычнасьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Няма.

ПАРМЭНІДЭС: А калі гэтак, дык адно не датыкаецца да іншага і гэтае іншае не датыкаецца да аднаго, бо няма дотыку.

АРЫСТОТЭЛЕС: Пэўна, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, у сузгоднасьці з тым, што сказалі мы, адно датыкаецца і не датыкаецца да іншага як і да самога сябе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: І далей, ці адно ёсьць роўным і няроўным самому сабе і іншаму?

АРЫСТОТЭЛЕС: Як ты разумееш?

ПАРМЭНІДЭС: Калі-б адно было вялікшым або меншым за нешта іншае, або гэтае іншае вялікшым ці

меншым за адно, дык яны, на моцы сваіх існасьцяў, – гэта значыць, быць адным і іншым, – ня будуць вялікшымі або меншымі за кажнага зь іх. Але, калі-б у дадатку да іхных існасьцяў, – гэта значыць, быць тым, чым яны зьяўляюцца, – мелі-б яшчэ і роўнасьць, дык яны былі-б роўнымі сабе; зноў-жа, калі адно будзе мець маласьць, а іншае – вялікасьць, або адно будзе мець вялікасьць, а іншае – маласьць, тады тая з ідэяў, да каторае прысупольніцца вялікасьць, выявіцца вялікшаю, а да якое прысупольніцца маласьць – меншаю. Ці ня так гэта?

АРЫСТОТЭЛЕС: Абавязкава.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, існуюць дзьве гэтыя ідэі – вялікасьць і маласьць. Бо, калі-б яны не існавалі, яны-б не маглі быць супроцьлежнымі сабе і быць прысутнымі ў тым, што існуе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Не, не маглі-б.

150 ПАРМЭНІДЭС: Тады, калі маласьць ёсьць наяўняю ў адным, дык яна будзе прысутнаю або ў цэлым, або ў ягонай частцы.

АРЫСТОТЭЛЕС: Абавязкава.

ПАРМЭНІДЭС: Прымем, што яна ёсьць прысутнаю ў цэлым. Тады яна будзе раўнамерна распасьціраццa на суцэльнасьць аднаго, або агортваць яго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ясна.

ПАРМЭНІДЭС: Але, распасьціраючыся раўнамерна па адным, ці-ж ня будзе тады маласьць роўная яму, а агортваючы яго – большаю, чымся яно?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: Але, ці можа маласьць быць роўнаю чаму-небудзь або большаю за што-небудзь і праяўляцца ў ролі вялікасьці або роўнасьці, а ня ў ролі самое сябе?

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэта немагчыма.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, маласьць ня можа знаходзіцца ў цэласьці аднаго, але, калі ўжо так, дык толькі ў ягонай частцы?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Але зноў-жа, і не ўва ўсей частцы, бо інакш труднасьці цэлага ўзьнікаюць: тады яна будзе роўнаю або большаю за тую частку, у якой будзе знаходзіцца.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, маласьць ня будзе знаходзіцца ані ў якай рэчы, і ўсяроўна – у цэласьці ці ў частцы; і гэтым, ня будзе нічога малога, апрача самое маласьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае, што ня будзе.

ПАРМЭНІДЭС: Ані гэтаксама будзе вялікасьць у адным, бо, калі вялікасьць будзе ў чым-небудзь, тады выявіцца большым нешта іншае, апрача самое вялікасьці, пайменна, тое, у чым будзе зьмяшчацца сама вялікасьць; дый апрача гэтага, пры нястачы маласьці, якую гэтае вялікае мае перавышаць, калі яно запраўды вялікім ёсьць. Але гэтае апошняе немагчымым ёсьць, бо маласьць ні ў чым не знаходзіцца прысутнаю.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: Але абсалютная вялікасьць ёсьць большаю толькі ад абсалютнае маласьці, а маласьць ёсьць толькі меншаю ад абсалютнае вялікасьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, іншае не зьяўляецца ані большым, ані меншым, чымся адно, калі яно ня мае ані вялікасьці, ані маласьці; ані гэтаксама ня мае вялікасьць або маласьць ніякае сілы перавышаць або быць перавышаным у адносінах да аднаго, але толькі ў адносінах да самых сябе; гэтаксама і адно ня можа быць вялікшым або меншым, чымся яны, або іншае, калі яно ня мае ані вялікасьці, ані маласьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі адно не зьяўляецца ані вялікшым, ані меншым ад іншага, тады яно ня можа ані перавышаць яго, ані быць перавышаным ім.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ня можа.

ПАРМЭНІДЭС: І тое, што не перавышае і не перавышаецца іншым, павінна знаходзіцца на роўнасьці, а, будучы на роўнасьці, мусіць быць роўным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жаж інакш?

ПАРМЭНІДЭС: І гэта астаецца правільным у адношаньні аднаго да самога сябе; ня маючы ані вялікасьці, ані маласьці ў самым сабе, яно ані перавысіць сябе, ані будзе перавышана самым сабою, але будзе на роўнасьці, і роўным з самым сабою.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно будзе роўным самому сабе і іншаму.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выглядае.

ПАРМЭНІДЭС: І цяперака, адно, будучы самым сабою ў самым сабе, будзе навонкі агортваць сябе, і,
як агортваючае, будзе вялікшым, чымся яно самое; а 151
як агорнутае - меншым. І гэтым будзе большым і меншым, чымся самое само.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выдаецца.

ПАРМЭНІДЭС: Цяперака, ці ня ёсьць няўхільным, каб нешта не зьмяшчалася ў адным і ў іншым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа не?

ПАРМЭНІДЭС: Але тое, што мусіць быць, недзе-ж знаходзіцца?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Але тое, што знаходзіцца ў нечым, можа знаходзіцца ў ім, як меншае ў большым? Бо няма іншае магчымасьці, каб адно нешта зьмяшчалася ў іншым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што няма.

ПАРМЭНІДЭС: І, калі ўжо няма нічога апрача аднаго і іншага, і яны павінны ў нечым знаходзіцца, ці ня мусяць яны знаходзіцца адно ў другім, адно ў іншым і гэтае іншае ў адным, калі наагул яны маюць быць дзе-небудзь?

АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: І як далёка адно знаходзіцца ў іншым, тады гэтае іншае будзе вялікшым, чымся адно, бо яно зьмяшчае ў сабе адно, якое будзе меншым ад іншага і зьмяшчаецца ў ім. Зноў-жа, як далёка гэтае іншае знаходзіцца ў адным, адно, паводля гэтага самага прынцыпу, будзе большым, чымся гэтае іншае, а іншае меншым ад аднаго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Выходзіць, што так.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно будзе роўным і вялікшым, і меншым, чымся яно само і іншае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выглядае.

ПАРМЭНІДЭС: І далей, калі яно і вялікшае, і меншае, і роўнае, дык у аднясеньні да самога сябе і да іншага яно будзе зьмяшчаць у сабе гэтулькі-ж болей і меней мераў, а, калі мераў, дык і частак.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа можа быць інакш?

ПАРМЭНІДЭС: І, калі зьмяшчае гэтулькі сама і меней мераў і частак, дык яно і лікава будзе болей і меней ад самога сябе і іншага, і гэтаксама ў ліках роўна самому сабе як і іншаму.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Яно будзе зьмяшчаць болей мераў, чымся тыя рэчы, якія яно перавышае, і колькі мераў, гэтулькі і частак; падобна рэч мецімe месца і тады, калі яно роўным зьяўляецца або меншым да чаго-небудзь.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: І, будучы вялікшым і меншым ад самога сябе і роўным самому сабе, будзе, тады, яно зьмяшчаць гэтулькі-ж, болей і меней мерак, чымся зьмяшчаецца ў ім самым; а калі мераў, дык і частак.

АРЫСТОТЭЛЕС: Будзе.

ПАРМЭНІДЭС: Але, зьмяшчаючы ў сабе гэтулькі-ж

частак, колькі іх у ім самым, колькасна яно будзе роўным самому сабе, а зьмяшчаючы іх болей - вялікшым будзе, а меней - меншым, чымся яно самое.

АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: Ці ня будзе адно падобна адносіцца і да іншага? Як далёка яно большым ад яго, яно і лікава будзе большым, чымся яно; і як далёка яно меншым - меншым лікава, і як далёка яно роўным у абыйме іншаму, яно павінна быць роўным і колькасна.

АРЫСТОТЭЛЕС: Павінна.

ПАРМЭНІДЭС: Калі большым, тады, як выглядае, адно будзе лікава і роўным, і вялікшым, і меншым, чымся самое само і ўсе іншыя рэчы.

АРЫСТОТЭЛЕС: Будзе.

ПАРМЭНІДЭС: Ці адно прыймае ўдзел у часе? А, прыймаючы ўдзел у часе, ёсьць яно або стаецца старэйшым і маладзейшым ад самога сябе і ад іншага; і зноў-жа, ані маладзейшым, ані старэйшым ад самога сябе і ад іншага?

АРЫСТОТЭЛЕС: Як ты разумееш гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Калі адно ёсьць, дык яму ў пэўнай ступені свомым зьяўляюцца дачыненьні з часам.

АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.

ПАРМЭНІДЭС: А ці-ж "ёсьць" зьяўляецца толькі
ўдзелам быцьця ў цяперашнім часе, а "было" - гэта I52
ўдзел быцьця ў мінулым часе, а "будзе" - гэта тое, што́ меціме ўдзел у прышлым часе?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі толькі адно бярэ ўдзел у быцьці, дык яно прыймае ўдзел у часе?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: Значыцца ў часе, калі плыве наперад?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно заўсёды стаецца старэйшым за самое сябе, калі яно крочыць наперад з часам.

АРЫСТОТЭЛЕС: Абавязкава.

ПАРМЭНІДЭС: А ці-ж ня памятаеш ты, што старэйшае стаецца старэйшым за тое, што́ стаецца маладзейшым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Па́мятаю.

ПАРМЭНІДЭС: Зноў-жа, калі адно стаецца старэйшым за самое сябе, тады адначасна стаецца яно маладзейшым, чымся яно самое.

АРЫСТОТЭЛЕС: Абавязкава.

ПАРМЭНІДЭС: Выходзіць, тады, што адно стаецца і маладзейшым і старэйшым за сябе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.
ПАРМЭНІДЭС: А ці-ж не старэйшым яно, калі адбываецца момант таго, што мы называем "стаецца": час паміж "было" і "будзе", што выступае як "цяперака"; бо-ж пэўна, пераходзячы з "мінулага" у "прышласьць", яно аніяк ня можа ўхіліцца сучаснасьці.
АРЫСТОТЭЛЕС: Аніяк.
ПАРМЭНІДЭС: І, калі яно ўваходзіць у тое, што называецца "цяперака", яно супыняецца ад "ставацца" старэйшым, і болей ужо не "стаецца", бо ўжо "ёсьць" старэйшым? І зноў-жа, калі адно без перапынку крочыць наперад, яно ніколі ня будзе засьпетым сучасным, бо гэта і ёсьць свомасьць таго, што крочыць наперад і наперад, каб прыйсьці да сутыку з сучаснасьцю і прышласьцю, дазваляючы адыйсьці сучаснасьці і ўхапіцца за будучыню, адбываючы пры гэтым працэс ставацца паміж імі.
АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.
ПАРМЭНІДЭС: Але тое, што стаецца, ня можа ўхіліцца ад сучаснасьці; калі яно асягвае сучаснасьць, яно перастае ставацца, і ў гэтым самым мамэнце ёсьць тое, што яно асягнула ў працэсе ставаньня.
АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выглядае.
ПАРМЭНІДЭС: І гэтак адно, калі ў ставаньні старэйшым асягвае сучаснасьць, перастае ставацца і ёсьць тады старэйшым.
АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.
ПАРМЭНІДЭС: І тады, ці ня ёсьць яно старэйшым ад таго, што ставалася старэйшым? І ці не старэйшым ставалася яно за самое сябе?
АРЫСТОТЭЛЕС: Так.
ПАРМЭНІДЭС: А тое, што ёсьць старэйшым, ці ня ёсьць старэйшым ад таго, што ёсьць маладзейшым?
АРЫСТОТЭЛЕС: Ёсьць.
ПАРМЭНІДЭС: З гэтага, адно ёсьць маладзейшым ад самога сябе; калі яно стаецца старэйшым, яно асягвае сучаснасьць.
АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.
ПАРМЭНІДЭС: Але сучаснасьць заўсёды астаецца сучаснасьцю пры адным на працягу ўсенькага ягонага быцьця; бо, калі яно існуе, яно існуе заўсёды цяперака.
АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?
ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно заўсёды і ёсьць і стаецца старэйшым і маладзейшым за самое сябе.
АРЫСТОТЭЛЕС: Так, запраўды.
ПАРМЭНІДЭС: Але ёсьць яно або стаецца даўжэйшы час, чымся яно само, або роўны час яму самому?

АРЫСТОТЭЛЕС: Роўны час.

ПАРМЭНІДЭС: Але, калі яно стаецца або ёсьць роўны час, тады яно ў тым самым веку з самым сабою.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый чаму-ж не?

ПАРМЭНІДЭС: Але тое, што́ знаходзіцца ў адным і тым самым веку, зьяўляецца ані старэйшым, ані маладзейшым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі адно стаецца і ёсьць у роўным сабе часе, дык яно ёсьць і стаецца ані маладзейшым, ані старэйшым за самое сябе.

АРЫСТОТЭЛЕС: І мне здаецца, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, за іншае?

АРЫСТОТЭЛЕС: Не магу сказаць.

ПАРМЭНІДЭС: Але, што найменей ты можаш сказаць 153
мне, што рэчы іншыя, чымся адно, зьяўляюцца болей
шматлікімі, чымся адно, бо, будучы іншым, яны былі-б адным, але, будучы іншымі, яны шмат болей,
чымся адно і твораць сабою мноства.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, твораць.

ПАРМЭНІДЭС: Але, будучы мноствам, яны зьмяшчаюць у сабе лік большы, чымся лік адзін.

АРЫСТОТЭЛЕС: І чаму не?

ПАРМЭНІДЭС: І далей. Ці можам мы сказаць, што вялікшае лікам ці мо' меншае ўзьнікае і ўзьнікла раней?

АРЫСТОТЭЛЕС: Меншае.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, найменшае ёсьць першым? І яно ёсьць адзінка. Ці ня так?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, з усіх рэчаў, што маюць лік, адно прыйшло першым да быцьця; але ўсе іншыя рэчы гэтаксама маюць лік, як далёка яны іншыя, але ня іншае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Маюць гэтаксама.

ПАРМЭНІДЭС: І з тае прычыны, што адно прыйшло ў быцьцё першым, яно мусіць быць уважанае як папярэджваючае іншыя рэчы ў прыходзе да быцьця, і іншыя рэчы прыйшлі пазьней; і рэчы, якія прыйшлі да быцьця пазьней, зьяўляюцца маладзейшымі ад таго, што́ папярэдзіла іх. І гэткім спосабам, іншыя рэчы будуць маладзейшымі, чымся адно, і адно старэйшым, чымся іншыя рэчы.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: І што ты можаш сказаць адносна наступнага: Ці магло адно прыйсьці да быцьця наўсупе-

рак свае ўласнае натуры, а мо' гэта немагчымым ёсьць?
АРЫСТОТЭЛЕС: Немагчымым.
ПАРМЭНІДЭС: Але, бяз сумліву, адно выявілася, як тое, што мае часткі; а калі часткі, дык і пачатак, і канец, і сярэдзіну.
АРЫСТОТЭЛЕС: Так.
ПАРМЭНІДЭС: І пачатак, гэтак у адным як і ў іншых рэчах, прыходзіць да быцьця першым; і пасьля пачатку сьледуе ўсё іншае, уключна да канца?
АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?
ПАРМЭНІДЭС: Мы згаджаемся, што ўсё гэта іншае - часткі цэлага і аднаго, і, што яно адно разам з канцом сталася адным і цэлым.
АРЫСТОТЭЛЕС: Так, гэта тое, з чым мы згаджаемся.
ПАРМЭНІДЭС: Але канец узьнікае апошні і, у сузгоднасьці са сваею натураю, зь ім прыходзіць да быцьця адно; і калі ўжо адно ня можа прыйсьці да быцьця як толькі ў сузгоднасьці са сваею ўласнаю натураю, дык натура ягоная дамагаецца, што яно мае прыйсьці да быцьця пасьля ўсяго, адначасна з канцом.
АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае гэтак.
ПАРМЭНІДЭС: Тады адно /ἕν/ зьяўляецца маладзейшым, чымся іншае, і гэтае іншае - старэйшым, чымся адно /ἑνός/.
АРЫСТОТЭЛЕС: Зноў-жа, і гэта для мяне ясным ёсьць.
ПАРМЭНІДЭС: І вось яшчэ: ці не павінен пачатак або якая-небудзь іншая частка аднаго /ἑνός/ ці чаго-небудзь іншага, - калі гэта зьяўляецца часткаю, а не часткамі, - будучы часткаю, у сілу неабходнасьці быць адным?
АРЫСТОТЭЛЕС: Павінен.
ПАРМЭНІДЭС: З гэтага, адно прыйдзе ў быцьцё разам з часткаю - адначасна з першаю часткаю, калі яна прыходзіць да быцьця, і адначасна з другою часткаю і ўсімі іншымі, і ня будзе болей жадаць ані якае часткі, якая дададзена да якое-небудзь іншае часткі, аж пакуль яно ня будзе адчуваць недахопу і станецца адным цэлым; і не адчуваціме яно патрэбы ані ў сярэдзіне, ані ў першай [часткі], ані ў вапошняй, ані ў якой-небудзь іншай зь іх, бо працэс ставаньня трывае далей.
АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно зьяўляецца ў тым самым веку з усім іншым, гэтак, што, калі адно не знаходзіцца ў супярэчнасьці са сваею ўласнаю натураю, дык яно ня ўзьнікне ані раней, ані пазьней, за ін-

шае, але адначасна. І паводля гэтага бегу думкі, адно ня будзе ані старэйшым, ані маладзейшым, чымся іншае, і гэтае іншае ня будзе ані старэйшым, ані маладзейшым за адно, але, у сузгоднасьці з папярэдняю нашаю арґумэнтацыяю, адно будзе старэйшым і маладзейшым за іншае, гэтаксама як і іншае - старэйшым і маладзейшым за адно. 

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Вось гэтакім адно зьяўляецца і гэтак яно сталася. Але што можна сказаць адносна таго, як адно стаецца старэйшым і маладзейшым за іншае, а іншае - старэйшым і маладзейшым за адно, і адносна таго, як яно не стаецца ані маладзейшым, ані старэйшым? Ці можам сказаць, што гэтак рэч маецца са станьнем як і з быцьцём, або інакш?

АРЫСТОТЭЛЕС: Я не магу сказаць.

ПАРМЭНІДЭС: Але я, да пэўнае ступені, магу сказаць, што нават калі адна рэч ёсьць старэйшаю за іншую, дык яна можа ставацца старэйшаю толькі на гэтулькі, на колькі яна розьнілася ў першапачатку, гэтаксама маладзейшая ня можа ставацца яшчэ маладзейшаю, бо, калі роўныя вялічыні, дададзеныя да няроўных, - будзе гэта час ці што іншае, - заўсёды пакідаюць тую самую розьніцу паміж імі, якая існавала на пачатку.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Тады, тое, што існуе, ня можа стацца старэйшым або маладзейшым, чымся тое, што існуе, бо розьніца іхнага веку заўсёды астаецца тою самаю; адно ёсьць і сталася старэйшым, іншае ёсьць і сталася маладзейшым; але яны не стаюцца гэтакімі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Дзелягэтага, адно, якое існуе, ніколі не стаецца ані старэйшым, ані маладзейшым за іншае, што існуе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Але паўзірайся, ці не стаюцца яны старэйшымі і маладзейшымі адзін за другога іншым спосабам?

АРЫСТОТЭЛЕС: Якім спосабам?

ПАРМЭНІДЭС: Гэтакім, якім адно выявілася старэйшым за іншае, а іншае старэйшым за адно.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дык што-ж з гэтага?

ПАРМЭНІДЭС: Калі адно зьяўляецца старэйшым за іншае, дык яно, трэба думаць, праіснавала значна даўжэйшы час, чымся гэтае іншае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Але паглядзі зноў-жа: калі мы дада-

мо роўны час да большага або меншага часу, дык ці будзе тады больш час розьніцца ад меншага на роўную ці на меншую частку?

АРЫСТОТЭЛЕС: На меншую.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, розьніца веку паміж адным і іншым ня будзе ўсё-ж гэтак вялікаю як спачатку, але, калі аднолькавы час будзе дадавацца да абодвух іх, тады яны будуць розьніцца меней і меней у параўнаньні да стану першапачаткавага. Ці ня так гэта?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, тое, што разрозьніваецца векам у супроцьстаўленьні да іншага меней, чымся раней, ці не стаецца маладзейшым за тое ранейшае ў адносінах да таго, у параўнаньні з чым раней было старэйшым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, маладзейшым.

ПАРМЭНІДЭС: Калі яно стаецца маладзейшым, дык успомнутае вышэй іншае стаецца з чаргі старэйшым за адно, чымся было раней?

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, тое, што ўзьнікла пазьней, стаецца старэйшым у параўнаньні з тым, што ўзьнікла раней і зьяўляецца ўжо старэйшым. Аднак-жа, яно ніколі ня ёсьць старэйшым, але заўсёды знаходзіцца
155 ў працэсе ставаньня, бо адно, побач маладосьці і побач веку іншага, заўсёды расьце. І гэтакім-жа спосабам старэйшае знаходзіцца ў працэсе ставацца маладзейшым, чымся маладзейшае; і затым, зноў, што яны заўсёды крочаць у супроцьлежныя кірункі, яны стаюцца супроцьлежнымі сабе: маладзейшае стаецца старэйшым за старэйшае, а старэйшае - маладзей за маладзейшае. Але асягнуць стан "сталіся" яны ня могуць; бо, калі-б яны ўжо сталіся, дык ужо не ставаліся-б, а былі-б. Але гэта ня ёсьць магчымым; бо яны заўсёды стаюцца маладзейшымі адзін за другога: адно стаецца маладзейшым, чымся іншае, затым, што выявілася яно старэйшым і ўзьнікшым раней, а іншае сталася старэйшым, чымся адно, затым, што ўзьнікла пазьней. Гэтакім-жа самым спосабам і іншае знаходзіцца ў тых самых суадносінах да аднаго, бо гэтае іншае, як выявілася, старэйшым ёсьць і ўзьнікла ранаей.

АРЫСТОТЭЛЕС: Здаецца, што так.

ПАРМЭНІДЭС: І як далёка ніякая рэч не стаецца старэйшаю або маладзейшаю за іншае, - у тым, калі яны заўсёды розьняцца на роўны лік, - дык і адно ня можа стацца старэйшым або маладзейшым за іншае, а іншае - за адно; але, як далёка тое, што прыйшло

да быцьця раней, і тое, што прыйшло да быцьця пазьней, мусяць без перапынку розьніцца між сабою на розную частку - затым, з гэтага пункту гледжаньня, іншае мусіць стацца старэйшым і маладзейшым, чымся адно, а адно - чымся іншае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: І на падставе ўсяго гэтага разважаньня, адно ёсьць і стаецца старэйшым і маладзейшым за самое сябе і за іншае, і, з другое старацы, - ня ёсьць і не стаецца ані старэйшым, ані маладзейшым за самое сябе і за іншае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Зусім правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Але затым, што адно прыймае ўдзел у часе, і прыймае ўдзел у свомасьці ставацца старэйшым і маладзейшым, дык ці не павінна яно гэтаксама прыймаць удзел у мінулым, сучасным і прышлым?

АРЫСТОТЭЛЕС: Павінна.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, адно было, ёсьць і будзе; яно ставалася, стаецца і ставацімецца.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Затым, было, ёсьць і будзе нешта, што знаходзіцца ў суадносінах да яго і прыналежным яму.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: Дык, значыцца, магчымым ёсьць пазнаньне яго, і мець наш пагляд адносна яго, і пачуцьцёвае ўспрыймо яго, дый нават мы ўжо і цяперака займаемся ўсім гэтым.

АРЫСТОТЭЛЕС:Ты правільна кажаш.

ПАРМЭНІДЭС: І імя ёсьць для яго, і ў нутранае выражэньне, і яно дорыцца назовам, і выказваюцца пра яго; і ўсё ў гэтым родзе, што адносіцца да іншых рэчаў, адносіцца і да аднаго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Бязумоўна, усё гэта правільна.

ПАРМЭНІДЭС: А цяперака, разважма рэч трэйцюю. К а л і а д н о ё с ь ц ь, і адно і многае, як мы і выразіліся, і не зьяўляецца ані адным, ані многім, і ўдзел бярэ ў часе, дык ці не павінна , яно, як далёка яно адным зьяўляецца, браць удзел у быцьці, і, як далёка яно не зьяўляецца адным, часамі ня браць удзелу ў быцьці?

АРЫСТОТЭЛЕС: Павінна.

ПАРМЭНІДЭС: Але ці можа яно, калі прыймае ўдзел у быцьці, ня браць удзелу ў ім, або, калі яно ня прыймае ўдзелу, прыймаць удзел у ім?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ня можа.

ПАРМЭНІДЭС: З гэтага, адно прыймае і ня прыймае ўдзелу ў быцьці ў розным часе; бо гэта адзіная магчымасьць, калі яно можа і ня можа браць удзелу ў быцьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

156 ПАРМЭНІДЭС: І ці ня ёсьць гэта час і той самы момант, калі адно прысупольніваецца да быцьця, і той, калі яно ўхіляецца ад яго? Бо і як гэта магчыма, каб адно мела рэч і ня мела тае́ самае рэчы, хіба што, калі яно атрымлівае і пакідае ў пэўным мамэнце?

АРЫСТОТЭЛЕС: Немагчыма.

ПАРМЭНІДЭС: А прысупольненьне да быцьця ці-ж ты не называеш станьнем?

АРЫСТОТЭЛЕС: Называю.

ПАРМЭНІДЭС: А ўхіленьне ад быцьця ці не называецца шчазаньне?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, як выглядае, прысупольніваецца да быцьця і, ухіляючыся ад яго, стаецца і шчазае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: А будучы адным і многім і ў працэсе ставаньня і шчазаньня, калі стаецца адным, ці тады перастае быць многім, і калі многім - перастае быць адным?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: І калі яно стаецца адным і многім, ці-ж не павінна яно тады няўхільна ўваходзіць у стан разлучэньня і злучэньня?

АРЫСТОТЭЛЕС: Абавязкава.

ПАРМЭНІДЭС: І далей, калі яно стаецца падобным і непадобным, ці не павінна яно ўпадабняцца і ставацца непадобным?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: І калі яно стаецца вялікшым, меншым або роўным, ці павінна яно павялічвацца, памяншвацца або ўроўнівацца?

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: І калі яно знаходзіцца ў руху, супачывае, а будучы ў стане супачынку, пераходзіць у рух, тады яно напэўна не знаходзіцца ў часе?

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як можа яно?

ПАРМЭНІДЭС: Але рэч, знаходзячыся перш у стане супачынку, а пасьля ў руху, або перш у руху а пасьля ў супачынку, не адчуваючы дазнаньня, ёсьць немагчымаю.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: Бо-ж ня існуе гэтакі час, у якім
дадзеная рэч магла-б быць адразу ані ў руху, ані ў
стане супачынку.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Але-ж яна ня можа зьіначыцца, не
паддаючыся зьінačаньню.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, калі́-ж яна зьіначваецца? Бо-ж
яна ня можа зьіначыцца, будучы ў стане супачынку,
або, калі знаходзіцца ў руху, ці не знаходзіцца ў
часе?

АРЫСТОТЭЛЕС: Не, ня можа.

ПАРМЭНІДЭС: Але, ці гэткая дзіўная рэч, у якой
яна знаходзіцца ў часе зьмены, наагул існуе?

АРЫСТОТЭЛЕС: Якая рэч?

ПАРМЭНІДЭС: Момант - ἐξαίφνης. Бо момант,мусіць,
зьмяшчае ў сабе нешта такое, з чаго зьіначаньне бя-
рэ свой пачатак у напрамку аднаго з двух станаў;
бо-ж зьінačаньне не бярэ свой пачатак са стану су-
пакою як гэткага, ані са стану руху як гэткага; а-
ле існуе недзе гэты цікавае натуры першапачатак,
які мы называем эксайфнэс, што ляжыць у васяродзь-
дзі супачынку і руху, і які не знаходзіцца ў ні-
кім часе; і ў кірунку яго і зь яго тое, што́ ёсьць
рухам, зьінačваецца ў супачынак, і тое, што́ ёсьць
у супачынку - зьінačваецца ў рух.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выглядае яно.

ПАРМЭНІДЭС: І калі ўжо адно ёсьць і ў супачынку
і ў руху, дык яно можа зьінačыцца ў вадзін з двух
кірункаў, бо толькі пры гэткай прадумовіне яно мо-
жа знаходзіцца ў двух станах. І, адбываючы зьіна-
чаньне, яно зьінačваецца ў момант; і ў працэсе гэ-
тага зьінačаньня яно не знаходзіцца ў часе, ня ру-
хаецца, ані супачывае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што не.

ПАРМЭНІДЭС: А ці ня гэтак рэч маецца і зь іншы-
мі зьінačаньнямі? Калі нейкая рэч пераходзіць з 157
быцьця ў спыненьне, або зь нябыцьця ў станьне -
працэс гэты адбываецца паміж станамі руху і супа-
чынку, і ў гэтым момаnце яна ані ёсьць, ані ня
ёсьць, ані стаецца, ані шчазае?

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак, выходзіць.

ПАРМЭНІДЭС: Паводля гэтага самага прынцыпу, у
пераходзе аднаго з аднаго ў многае, і з многага ў
адно, адно ня ёсьць ані адно, ані многае, ані рас-
падзельваецца, ані злучаецца; і ў пераходзе з па-
добнага да непадобнага, і з непадобнага да падоб-
нага, яно ёсьць ані падобнае, ані непадобнае, ані

ў стане распадзелу, ані злучэньня; і ў пераходзе з малога да вялікшага і роўнага і зноў наадварот,яно ня будзе ані малое, ані вялікае, ані роўнае і ані ў стане ўзбольшваньня або зьменшваньня, або ўраўноўваньня.

АРЫСТОТЭЛЕС: Выходзіць, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Усё гэта, тады, схільнасьці аднаго, калі яно існуе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Але, к а л і  а д н о  ё с ь ц ь, тады пытаньне да разгляду: - што дазнае іншае?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, разгледзім.

ПАРМЭНІДЭС: Развазжма, тады, - к а л і  а д н о  ё с ь ц ь, што павінна дазнаваць іншае - не адно?

АРЫСТОТЭЛЕС: Развазжма.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі ёсьць рэчы іншыя, чымся адно, дык гэтыя іншыя не зьяўляюцца адным; бо, калі-б яны былі адным, тады-б ня былі іншым, чымся адно.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Аднак, [усё] іншае наагул не зьяўляецца пазбаўленым аднаго, але пэўным спосабам бярэ ўдзел у адным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Якім спосабам?

ПАРМЭНІДЭС: Іншае ёсьць іншым і не адным, бо яно мае часткі; калі-б яно ня мела частак, дык было-б, проста, адным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: А часткі, як мы і ўтрымліваем, маюць шмат супольнага з цэлым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, утрымліваем.

ПАРМЭНІДЭС: Але цэлае мусіць быць адным і ўчыненым з многага; і часткі будуць часткамі аднаго, бо кажная з частак не зьяўляецца часткаю многага, але аднаго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як ты разумееш гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Калі-б што-небудзь было часткаю многага, будучы адною часткаю яго, дык яно, напэўна, было-б часткаю самога сябе, - што зьяўляецца немагчымым, як і кажнага асобнага зь іншага, калі наагул яно зьяўляецца часткаю ўсяго многага. Бо калі ня часткаю нечага, дык яно будзе часткаю ўсяго іншага, але ня гэтага іншага, і гэтым ня будзе часткаю кажнага асобнага; і, калі ня часткаю кажнага, дык яно ня будзе ніякаю часткаю многага. І, ня бу-

дучы часткаю ні аднаго, дык немагчыма быць часткаю і чаго-небудзь наагул - усіх тых асобных рэчаў, ні дляаднае зь якіх яно ня ёсьць нічым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выглядае.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, частка не зьяўляецца часткаю многага, ані ўсіх ягоных элемэнтаў, але нейкае аднае ідэі і нейкага аднаго, якое мы называем суцэлым, і якое схвармавалася з усіх элемэнтаў у дасканалае адно - частка і ёсьць часткаю гэтага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, калі нешта іншае мае часткі, дык яно будзе прыймаць удзел у цэлым і ў адным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, іншае, чымся адно, мусіць быць дасканалым цэлым, якое мае часткі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Мусіць.

ПАРМЭНІДЭС: І гэты самы падход адносіцца і да каж-
нае часткі, бо частка мусіць прыймаць удзел у адным. I58
Бо калі кажная з частак ёсьць часткаю, дык гэта значыць, як я здагадваюся, быць кажным - быць асобным ад рэшты і самаўсуадношаным; у іншым выпадку яно ня ёсьць кажнае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Але, калі гутарка ідзе пра частку, якая ўдзел бярэ ў адным, дык яна мусіць быць выразна іншаю ад аднаго; бо ў іншым выпадку, яна ня толькі ня прыняла-б удзелу, але сама была-б адным; тады як адным можа быць толькі адно.

АРЫСТОТЭЛЕС: Толькі адно.

ПАРМЭНІДЭС: Зноў-жа, цэлае і частка мусяць прыймаць удзел у адным. Бо і запраўды, цэлае будзе тварыць адно цэлае, якога часткі будуць часткамі; а кажная з частак будзе часткаю таго цэлага, часткаю якога яна зьяўляецца.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: А ці ня будзе рэч, якая бярэ ўдзел у адным, іншаю, чымся яно?

АРЫСТОТЭЛЕС: Будзе.

ПАРМЭНІДЭС: І рэч, якая зьяўляецца нечым іншым, чымся адно, будзе многім; бо, калі рэч, якая зьяўляецца іншым, чымся адно, не зьяўляецца ані адным і ані большым, чымся адно, тады яна ня будзе нічым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што ня будзе.

ПАРМЭНІДЭС: Але затым, што рэч, якая прыймае ўдзел у адным як часткі і ў адным як у цэласьці, болей як адна, дык ці не павінны гэтыя якраз усе

рэчы, якія прыймаюць удзел у адным, быць колькасна бязьмежнымі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Падыйдзем да справы зь іншага боку: - Ці не зьяўляецца гэта праўдаю, што, прыймаючы ўдзел у адным, яны не зьяўляюцца адно, і ня прыймаюць удзелу у адным у тым самым часе, калі яны бяруць удзел у ім?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ясна.

ПАРМЭНІДЭС: І чыняць гэта яны як мноствы, у якіх адно не зьяўляецца прысутным?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: А што, калі мы выдзелім у нашым духовым уяўленьні з гэтага мноства маленечкую частку, ці-ж не павінна гэтая маленькая частка, калі яна ня прыймае ўдзелу ў адным, быць мноствам і не адным?

АРЫСТОТЭЛЕС: Павінна.

ПАРМЭНІДЭС: Калі мы і далей разглядаем іншую старану натуры ідэі як гэткае, дык колькі-б мы не засяроджвалі на ёй нашае ўвагі, яна заўсёды выдасца нам колькасна бязьмежнаю?

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: І ўсё-ж, калі кажная іншая частка стаецца часткаю, тады часткі маюць ужо абмежаваньне ў ваднносінах да цэлага і адна да другое, цэлае ў ваднносінах да частак.

АРЫСТОТЭЛЕС: Якраз гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: Тады для іншага, чымся адно, вынік ёсьць гэтакі, што ссупольненьне іх самых і аднаго выяўляецца ў стварэньні новага элементу ў васяродзьдзі іх, які стварае для іх абмежаваньне ў суадносінах адзін да другога, тады, калі іхная ўласная натура астаецца без абмежаваньня.

АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: Тады іншае, чымся адно, як цэлае і як часткі, зьяўляецца бязьмежным, і ўдзел прыймае ў абмежаваньні.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: А ці ня будуць часткі іншага гэтаксама падобнымі і непадобнымі да самых сябе і адна да другое?

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Як далёка яны ў сваёй існасьці астаюцца бязьмежнымі, гэтак яны астаюцца пад уплывам тае самае свомасьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: І як далёка яны прыймаюць удзел у абмежаванасьці, гэтак астаюцца яны пад уплывам тае самае свомасьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Але, як далёка іхны стан зьяўляецца абмежаваным і неабмежаваным, гэтак астаюцца яны супроцьлежнымі сабе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Але супроцьлежнасьці зьяўляюцца най- 159
болей непадобнымі сабе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Вазьмі пад увагу, затым, што ў залежнасьці ад кажнае зь іхных схільнасьцяў, яны астаюцца падобнымі самыя да сябе і адна да другое; а ў залежнасьці ад абедзьвюх разам – найболей супроцьлежнымі і найболей непадобнымі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Магчыма.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, гэтыя іншыя разам будуць падобнымі і непадобнымі да самых сябе і адна да другое.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, часткі іншага зьяўляюцца тоеснымі сабе самым і рознымі адна ад другое, рухаюцца і супачываюць і, як можа быць даведзена, маюць усе супроцьлежныя сабе свомасьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ты правільна кажаш.

ПАРМЭНІДЭС: А цяперака, прымем, што мы пакідаем гэтую справу, як разгледжаную, і вернемся зноў да прадмету: к а л і  а д н о  ё с ь ц ь, ці выявіцца, што ўсё супроцьлежнае гэтаму зьяўляецца ці не зьяўляецца ў гэткім самым палажэньні.

АРЫСТОТЭЛЕС: Абавязкава.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, пачнем зноў і запытайма: К а л і  а д н о  ё с ь ц ь, што мусіць дазнаваць іншае?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, разгледзім гэтае пытаньне.

ПАРМЭНІДЭС: Ці не павінна адно розьніцца ад іншага, і іншае ад аднаго?

АРЫСТОТЭЛЕС: Чаму гэтак?

ПАРМЭНІДЭС: А таму, што побач іх ня існуе нічога, што розьнілася-б ад іх, гэта значыць, ад аднаго і ад іншага, бо выражэньне "адно і іншае" замыкае ў сабе ўсе рэчы.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, усе рэчы.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, мы можам здагадвацца, што ня-

ма нічога, што розьнілася-б ад іх, у чым адно і іншае маглі-б існаваць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Нічога няма.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, адно і іншае ніколі не знаходзяцца ў адным і тым самым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Не.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, яны знаходзяцца асобна адно ад другога?

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: І мы ніколі ня можам сказаць, што адно мае часткі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа?

ПАРМЭНІДЭС: Затым, адно ня будзе ў іншым як у цэлым, ані ягоныя часткі, калі яно аддзеленае ад іншага і ня мае частак.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Тады, няма магчымасьці для іншага браць удзел у адным, калі яно ня прыймае ўдзелу ані ў цэлым, ані ў частцы.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як выглядае, не.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, няма ніякае магчымасьці для іншага быць адным або мець у сабе нешта зьяднаньня.

АРЫСТОТЭЛЕС: Не, няма.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама іншае ня ёсьць многае; бо, калі-б яно было многім, тады кажная частка ягоная была-б часткаю цэлага. Цяпер-жа, калі ў ніякім выпадку, іншае не бярэ ўдзелу ў адным, тады яно не зьяўляецца ані многім, ані цэлым, ані часткаю.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, іншае ані зьяўляецца, ані зьмяшчае ў сабе два або тры, калі яно зусім пазбаўлена аднаго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, іншае не зьяўляецца ані падобным, ані непадобным да аднаго, і не зьмяшчае ў сабе падобнасьці або непадобнасьці; бо, калі-б яно было падобным або непадобным, або зьмяшчала-б у сабе падобнасьць або непадобнасьць, тады-б яно мела дзьве ўзаемна супроцьлежныя ідэі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выглядае.

ПАРМЭНІДЭС: Але, як выявілася, тое, што́ ня прыймае ўдзелу ў нічым, ня можа прыймаць удзелу ў двух.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ня можа.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, іншае не зьяўляецца ані падобнае,
160 ані непадобнае, і ані тое і гэтае разам, бо, калі-б яно было падобным або непадобным, тады-б яно

ўзяло ўдзел у адной з дзьвюх ідэяў, а будучы тым і гэтым разам, узяло-б удзел у дзьвюх супросьлежных ідэях, што, як выявілася, немагчымым ёсьць.
АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, іншае ня ёсьць тоесамнае ані рознае, яно не знаходзіцца ў руху ані супачывае, яно не стаецца і ня нішчыцца, ня ёсьць вялікшым ані меншым, ня ёсьць роўнае і ня мае нічога з падобных свомасьцяў; бо, калі-б яно было здольным дасьведчыць гэтакага роду схільнасьці, дык яно прыймала-б удзел у вадным, і двох, і трох, у няцотным, і цотным, але якраз у гэтым, як і выявілася, яно ня прыймае ўдзелу, спасьцерагаючы, што яно зьяўляецца зусім пазбаўлена аднаго.
АРЫСТОТЭЛЕС: Вельмі праўдзіва.
ПАРМЭНІДЭС: І затым, калі адно ёсьць, дык адно ёсьць усімі рэчамі, і адначасна ў суадносінах да самога сябе і да іншах рэчаў - нічым.
АРЫСТОТЭЛЕС: Зусім правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Добра. Ці не павінны мы далей і гэта разгледзець, якія будуць наступствы, калі адно ня ёсьць?
АРЫСТОТЭЛЕС: Павінны.
ПАРМЭНІДЭС: У чым заключаецца сутнасьць гіпатэзы: К а л і а д н о н я ё с ь ц ь? Ці розьніцца гэта ад дапушчэньня: К а л і н е - а д н о н я ё с ь ц ь ?
АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што розьніцца.
ПАРМЭНІДЭС: Існуе толькі розьніца? ці барждж эй сьцьверджаньні - К а л і н е - а д н о н я ё с ь ц ь і к а л і а д н о н я ё с ь ц ь проста супроцьлежныя сабе?
АРЫСТОТЭЛЕС: Проста супроцьлежныя.
ПАРМЭНІДЭС: Але прымем, што нехта кажа: калі вялікасьць ня ёсьць, калі маласьць ня ёсьць або што-небудзь у гэтым сэнсе, ці ня кажа ён гэтым, што пад тым, што "ня ёсьць" у кажным выпадку ён разумее нешта адменнае ад усяго іншага?
АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.
ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама і цяперака, калі нехта кажа: к а л і а д н о н я ё с ь ц ь, - дык выразна відаць, што тое, што "ня ёсьць", зьяўляецца іншым, чымся ўсё іншае. І ці-ж ня ведаем мы, што ён хоча гэтым сказаць?

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведаем.

ПАРМЭНІДЭС: Калі нехта кажа "адно", дык ён гаворыць пра нешта, што ведамым для нас зьяўляецца; і па-другое: нешта, што зьяўляецца іншым ад усіх іншых рэчаў; гэта ня творыць сабою розьніцы, калі ён утрымлівае пра адно, што яно ёсьць або яно ня ёсьць, бо тое, пра што ён кажа, што яно "ня ёсьць", зьяўляецца ведамым як існуючае тое самае, якое адменным ёсьць ад усіх іншых рэчаў.

АРЫСТОТЭЛЕС: Бязумоўна.

ПАРМЭНІДЭС: Затым з самага пачатку трэба гаварыць гэтак: К а л і а д н о н я ё с ь ц ь, дык якія наступствы згэтуль выплываюць? - На сам перш выяўляецца, што існуе веданьне адносна яго, бо інакш значнае ўдакладненьне словаў к а л і а д н о н я ё с ь ц ь ня было-б ведамым для нас.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: І далей, нешта адменнае ад усяго іншага, бо інакш адно не магло-б быць апісваным як нешта, што розьніцца ад усяго іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, розьніца сюды належыць гэтаксама як і пазнавальнасьць. Бо, калі нехта кажа пра адно, што яно розьніцца ад нечага іншага, дык ён ня кажа пра розьніцу гэтага іншага, але пра розьніцу аднаго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: І яшчэ далей: Адно, якое ня ёсьць, зьяўляецца нечым, што стварае ўдзел суадносінаў да "гэтага" і "тамтога", "гэтых" і, што "належаць" да іх і мае характэрную рысу "гэтага". Бо, калі-б адно ня прыймала ўдзелу ў "гэтым" і іншых успомнутых наяўнасьцях, дык і гутаркі ня было-б пра адно, ані пра рэчы іншыя, чымся адно, і не казалі-б, што яно зьяўляецца нічога, калі яно запраўды ня прыймае ўдзелу ў "нечым" і ня мае суадносінаў да рэчаў толькі што ўспомнутых.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Быцьцё, тады, ня можа быць свомым для аднаго, калі ўжо яно ня ёсьць, але адно, якое
161 ня ёсьць, можа, або барждж эй, мусіць, браць удзел у многіх рэчах, калі яно, і нічога іншага, ня ёсьць. Аднак-жа, калі ані адно, ані адно, што ня ёсьць, мае ня быць, а гутарка ідзе пра нешта іншае, дык мы ня можам нічога цьвердзіць пра яго. Але прымем, што гэтае адно, якое ня ёсьць, і нічога іншага ня ёсьць, тады яно мусіць прыймаць удзел у "гэтым" і ў шматлікіх іншых рэчах.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: І яно будзе мець непадобнасьць адносна іншага, затым, што іншае, будучы адменным ад аднаго, будзе іншага роду.
АРЫСТОТЭЛЕС: Так.
ПАРМЭНІДЭС: А рэчы рознага роду, ці-ж не зьяўляюцца іншага роду?
АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?
ПАРМЭНІДЭС: А рэчы іншага роду - будуць непадобнымі?
АРЫСТОТЭЛЕС: Непадобнымі.
ПАРМЭНІДЭС: І, калі ўжо яны непадобнымі да аднаго, тады, непадобнае будзе непадобным да непадобнага?
АРЫСТОТЭЛЕС: Ясна.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно меціме непадобнасьць і з увагі на гэта, іншае непадобна да яго.
АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае, што рэч гэтак маецца.
ПАРМЭНІДЭС: І цяперака, калі непадобнасьць да іншых рэчаў ёсьць ягонаю свомасьцю, тады яно мусіць мець падобнасьць да самога сябе.
АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?
ПАРМЭНІДЭС: Калі адно мае непадобнасьць адносна аднаго, дык нешта іншае маецца на ўвазе; гэтаксама і нашая гіпатэза ня будзе адносіцца да аднаго, але да нечага іншага, чымся адно.
АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.
ПАРМЭНІДЭС: Але гэта ня можа быць.
АРЫСТОТЭЛЕС: Не.
ПАРМЭНІДЭС: Тады адно мусіць мець падобнасьць да самога сябе.
АРЫСТОТЭЛЕС: Мусіць.

ПАРМЭНІДЭС: Зноў-жа, яно ня роўным ёсьць іншаму; бо, калі-б яно было роўным, дык яно-б ужо існавала і з прычыны роўнасьці было-б падобным да іншага; але, калі адно ня існуе, дык яно ня можа быць ані ня роўным, ані роўным.
АРЫСТОТЭЛЕС: Ня можа.
ПАРМЭНІДЭС: Зноў-жа, калі яно ня роўным іншаму, тады і іншае ня можа быць роўным яму?
АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна, не.
ПАРМЭНІДЭС: А рэчы, што ня роўныя, ці-ж не зьяўляюцца няроўнымі?
АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.

ПАРМЭНІДЭС: А няроўнае ці-ж ня з прычыны нароў-
насьці ёсьць няроўным?

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа можа быць інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно бярэ ўдзел у няроўнасьці,
і з гэтае прычыны, іншае зьяўляецца ня роўным яму?

АРЫСТОТЭЛЕС: Бярэ.

ПАРМЭНІДЭС: Але, няроўнасьць зьмяшчае ў сабе вя-
лікасьць і маласьць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, калі адно мае гэтакія сво-
масьці, дык яно зьмяшчае ў сабе вялікасьць і ма-
ласьць?

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэта выяўляецца як правільнае.

ПАРМЭНІДЭС: Але вялікасьць і маласьць заўсёды
знаходзяцца ў вадлегласьці адна ад аднае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: Значыцца, між імі заўсёды нешта зна-
ходзіцца?

АРЫСТОТЭЛЕС: Знаходзіцца.

ПАРМЭНІДЭС: Ці можаш ты ўявіць сабе што-небудзь
іншае паміж імі, апрача роўнасьці?

АРЫСТОТЭЛЕС: Не, толькі роўнасьць.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, тое, што мае вялікасьць і ма-
ласьць, мае гэтаксама і роўнасьць, якая знаходзіц-
ца між імі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выглядае.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, якое ня ёсьць, як выгля-
дае, прыймае ўдзел і ў роўным, і ў вялікім, і ў ма-
лым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Прыймае.

ПАРМЭНІДЭС: І далей, яно павінна нейкім споса-
бам прыймаць удзел у быцьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Мусіць быць гэтак, бо, калі не, дык
мы не выяўляем праўды, кажучы, што адно ня ёсьць.
Бо, калі гэта праўда, дык, ясна, што мы цьвердзім
пра гэта, як пра нешта, што існуе. А мо' ня гэтак?

АРЫСТОТЭЛЕС: Запраўды гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: І з тае прычыны, што мы прызнаем за-
162 праўднасьць таго, што мы ўтрымліваем, дык мы павін-
ны рашуча і тое цьвердзіць, што мы гаворым пра тое,
што існуе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Абавязкава.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, як з нашага разважаньня выхо-
дзіць, адно, – што-ня-існуе, ёсьць: Бо, калі яно не
няіснуючым ёсьць, але нешта з быцьця пераказвае ня-

быцьцю, дык яно зараз-жа стаецца нечым, што́ існуе.
АРЫСТОТЭЛЕС: Зусім правільна.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, якое ня ёсьць, калі яно мае захаваць само сябе, мусіць мець быцьцё нябыцьця як сувязь нябыцьця, гэтаксама як быцьцё мусіць мець сувязь нябыцьця нябыцьця з мэтаю ўдасканаленьня свайго ўласнага быцьця. Бо найлепшае запэўненьне гэтага быцьця быцьця і гэтага нябыцьця нябыцьця адбываецца тады, калі быцьцё прыймае ўдзел у быцьці быцьця, а ня быцьця нябыцьця - гэта значыць, дасканаласьці быцьця. І, калі нябыцьцё ня прыймае ўдзелу ў нябыцьці нябыцьця, але ў быцьці нябыцьця - тады, гэта і ёсьць дасканаласьць нябыцьця.
АРЫСТОТЭЛЕС: Найболей праўдзіва.
ПАРМЭНІДЭС: І зноў-жа, калі тое, што́ існуе, прыймае ўдзел у нябыцьці, і тое, што́ ня існуе - у быцьці, дык аднаму, калі яно ўжо ня існуе, неабходным стаецца прыймаць удзел у быцьці, каб не існаваць.
АРЫСТОТЭЛЕС: Неабходным.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, калі яно ня існуе, як відаць, злучана з быцьцём.
АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае гэтак.
ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама і зь нябыцьцём, калі яно ня ёсьць.
АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Цяпер-жа, ці можа нейкая рэч, якая знаходзіцца ў пэўным стане, ня быць у гэтым стане, без дазнаньня зьінаваньня?
АРЫСТОТЭЛЕС: Ня можа.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, кажная рэч, якая знаходзіцца і не знаходзіцца ў пэўным стане, зьмяшчае ў сабе зьінаваньне.
АРЫСТОТЭЛЕС: І зьінаваньне ёсьць рухам; а мо' назавем гэта як-небудзь інакш?
АРЫСТОТЭЛЕС: Так, рухам.
ПАРМЭНІДЭС: І адно выявілася як тое, што́ ёсьць і ня ёсьць?
АРЫСТОТЭЛЕС: Так.
ПАРМЭНІДЭС: Дык з гэтага, ёсьць і ня ёсьць-гэта ў гэткім і іншым стане?
АРЫСТОТЭЛЕС: Выходзіць гэтак.
ПАРМЭНІДЭС: Гэтым, адно, якое ня ёсьць, выявілася гэтаксама як тое, што́ знаходзіцца ў руху, бо яно зьінаваецца са стану быцьця ў стан нябыцьця.
АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: А няроўнае ці-ж ня з прычыны нароўнасьці ёсьць няроўным?

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа можа быць інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно бярэ ўдзел у няроўнасьці, і з гэтае прычыны, іншае зьяўляецца ня роўным яму?

АРЫСТОТЭЛЕС: Бярэ.

ПАРМЭНІДЭС: Але, няроўнасьць зьмяшчае ў сабе вялікасьць і маласьць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, калі адно мае гэтакія свомасьці, дык яно зьмяшчае ў сабе вялікасьць і маласьць?

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэта выяўляецца як правільнае.

ПАРМЭНІДЭС: Але вялікасьць і маласьць заўсёды знаходзяцца ў вадлегласьці адна ад аднае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: Значыцца, між імі заўсёды нешта знаходзіцца?

АРЫСТОТЭЛЕС: Знаходзіцца.

ПАРМЭНІДЭС: Ці можаш ты ўявіць сабе што-небудзь іншае паміж імі, апрача роўнасьці?

АРЫСТОТЭЛЕС: Не, толькі роўнасьць.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, тое, што мае вялікасьць і маласьць, мае гэтаксама і роўнасьць, якая знаходзіцца між імі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выглядае.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, якое ня ёсьць, як выглядае, прыймае ўдзел і ў роўным, і ў вялікім, і ў малым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Прыймае.

ПАРМЭНІДЭС: І далей, яно павінна нейкім спосабам прыймаць удзел у быцьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Мусіць быць гэтак, бо, калі не, дык мы не выяўляем праўды, кажучы, што адно ня ёсьць. Бо, калі гэта праўда, дык, ясна, што мы цьвердзім пра гэта, як пра нешта, што існуе. А мо' ня гэтак?

АРЫСТОТЭЛЕС: Запраўды гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: І з тае прычыны, што мы прызнаем за-
162 праўднасьць таго, што мы ўтрымліваем, дык мы павінны рашуча і тое цьвердзіць, што мы гаворым пра тое, што існуе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Абавязкава.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, як з нашага разважаньня выходзіць, адно, - што-ня-існуе, ёсьць: Бо, калі яно не няіснуючым ёсьць, але нешта з быцьця перaказвае ня-

быцьцю, дык яно зараз-жа стаецца нечым, што́ існуе.
АРЫСТОТЭЛЕС: Зусім правільна.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, якое ня ёсьць, калі яно мае захаваць само сябе, мусіць мець быцьцё нябыцьця як сувязь нябыцьця, гэтаксама як быцьцё мусіць мець сувязь нябыцьця нябыцьця з мэтаю ўдасканаленьня свайго ўласнага быцьця. Бо найлепшае запэўненьне гэтага быцьця быцьця і гэтага нябыцьця нябыцьця адбываецца тады, калі быцьцё прыймае ўдзел у быцьці быцьця, а ня быцьця нябыцьця - гэта значыць, дасканаласьці быцьця. І, калі нябыцьцё ня прыймае ўдзелу ў нябыцьці нябыцьця, але ў быцьці нябыцьця - тады, гэта і ёсьць дасканаласьць нябыцьця.
АРЫСТОТЭЛЕС: Найболей праўдзіва.
ПАРМЭНІДЭС: І зноў-жа, калі тое, што́ існуе,прыймае ўдзел у нябыцьці, і тое, што́ ня існуе - у быцьці, дык аднаму, калі яно ўжо ня існуе, неабходным стаецца прыймаць удзел у быцьці, каб не існаваць.
АРЫСТОТЭЛЕС: Неабходным.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, калі яно ня існуе, як відаць, злучана з быцьцём.
АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае гэтак.
ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама і зь нябыцьцём, калі яно ня ёсьць.
АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Цяпер-жа, ці можа нейкая рэч, якая знаходзіцца ў пэўным стане, ня быць у гэтым стане, без дазнаньня зьіначаньня?
АРЫСТОТЭЛЕС: Ня можа.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, кажная рэч, якая знаходзіцца і не знаходзіцца ў пэўным стане, зьмяшчае ў сабе зьіначаньне.
АРЫСТОТЭЛЕС: І зьіначаньне ёсьць рухам; а мо' назавем гэта як-небудзь інакш?
АРЫСТОТЭЛЕС: Так, рухам.
ПАРМЭНІДЭС: І адно выявілася як тое, што́ ёсьць і ня ёсьць?
АРЫСТОТЭЛЕС: Так.
ПАРМЭНІДЭС: Дык з гэтага, ёсьць і ня ёсьць-гэта ў гэткім і іншым стане?
АРЫСТОТЭЛЕС: Выходзіць гэтак.
ПАРМЭНІДЭС: Гэтым, адно, якое ня ёсьць, выявілася гэтаксама як тое, што́ знаходзіцца ў руху, бо яно зьiначваецца са стану быцьця ў стан нябыцьця.
АРЫСТОТЭЛЕС: Выглядае гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: Аднак-жа, калі яно не знаходзіцца нідзе сярод таго, што́ існуе, як і маецца рэч гэтак, і калі яно ня існуе, дык яно ня можа перарухвацца зьнекуль кудысьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-бы магло яно?

ПАРМЭНІДЭС: Тады яно ня можа рухацца дарогаю зьмены месца свайго прабываньня.

АРЫСТОТЭЛЕС: Не.

ПАРМЭНІДЭС: Яно ня можа абяртацца на тым самым месцы, бо яно нідзе ня мае сутыку з тым самым, бо тое самае існуе, а тое, што́ ня існуе, ня можа знаходзіцца ў тым, што́ існуе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што ня можа.

ПАРМЭНІДЭС: З гэтага, адно, калі яно ня ёсьць, ня можа абяртацца ў тым, што́ ня ёсьць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама ня можа адно, і ўсяроўна, - ёсьць яно ці ня ёсьць, - зьінaчвацца ў нешта іншае, чымся яно самое; бо, калі-б яно зьінaчылася і сталася нечым іншым, чымся яно самое, тады не маглі-б мы гаварыць пра адно, але пра іншае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Але, калі адно не зьінaчваецца, ані абяртаецца на тым самым месцы, ані зьменьвае месца, дык ці можа яшчэ і тады яно рухацца?

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як?

ПАРМЭНІДЭС: Цяпер-жа, тое, што́ ня рухаецца, напэўна мусіць знаходзіцца ў стане супачынку, а тое, што́ знаходзіцца ў стане супачынку, мусіць аставацца ў стане супакою.

АРЫСТОТЭЛЕС: Мусіць.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, якое ня існуе, астаецца ў стане супачынку і рухаецца.

АРЫСТОТЭЛЕС: Выходзіць гэтак.

ПАРМЭНІДЭС: Але, калі яно ўжо ў руху, дык яно
паддаецца ўзьдзеяньню зьінaчаньня, бо, калі што-
163 небудзь знаходзіцца ў руху, і як доўга яно знахо-
дзіцца ў гэтым працэсе, яно не знаходзіцца ў тым
самым стане, але ў іншым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, калі яно знаходзіцца ў руху, зьінaчваецца.

АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.

ПАРМЭНІДЭС: І далей, калі яно зусім ня рухаецца, дык яно ніяк і ня зьінaчваецца.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, як далёка адно, якое ня ёсьць, рухаецца, дык яно зьінaчваецца, і як далёка яно ня

рухаецца, яно не паддаецца зьінчаньню.
АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.
ПАРМЭНІДЭС: З гэтага, адно, якое ня існуе, зьінчваецца і ня зьінчваецца.
АРЫСТОТЭЛЕС: Гэтак выглядае.
ПАРМЭНІДЭС: А ці-ж тое, што́ зьінчваецца, ня мусіць ставацца іншым ад таго, якім яно раней было, губі́ць свой папярэдні стан і гінуць; але тое, што ня зьінчваецца, ня можа ані прыйсьці да быцьця, ані быць зьнішчаным?
АРЫСТОТЭЛЕС: Вельмі трапна сказана.
ПАРМЭНІДЭС: Значыцца, адно, якое ня існуе, паддаючы́ся зьінчаньню, стаецца і нішчыцца: а ня зьінчваючыся, ані стаецца, ані нішчыцца; гэтаксама і адно, якое не стаецца і ня нішчыцца, ані стаецца, ані ёсьць зьнішчаным.
АРЫСТОТЭЛЕС: Запраўды, не.

ПАРМЭНІДЭС: А цяперака, вярне́мся яшчэ раз на пачатак і паглядзімо, ці вынік будзе гэтакі самы, ці мо' займеем мы іншыя наступствы.
АРЫСТОТЭЛЕС: Вярнемся, тады.
ПАРМЭНІДЭС: К а л і а д н о н я ё с ь ц ь , пытаемся мы, якія-ж, тады, сьледуюць наступствы.
АРЫСТОТЭЛЕС: Так.
ПАРМЭНІДЭС: Калі мы кажам "ня ёсьць", дык ці-ж не знамянуецца гэтым нешта іншае, чымся адсутнасьць быцьця ў тым, пра што мы кажам, што ня ма́е яго?
АРЫСТОТЭЛЕС: Якраз гэтак.
ПАРМЭНІДЭС: І, калі мы кажам, што дадзеная рэч ня існуе, ці думаем мы, што яна нейкім спосабам ня існуе, і зноў-жа, нейкім - існуе? Або маем мы на ўвазе, што "ня ёсьць" - гэта - ня існуе, яе няма зусім, і, як няіснуючая - у ніякі спосаб ня прыймае ўдзелу ў быцьці?
АРЫСТОТЭЛЕС: Гэта - насамперш.
ПАРМЭНІДЭС: Тады, тое, што́ ня ёсьць, ня можа быць і ніякім спосабам ня можа прыймаць удзелу ў быцьці.
АРЫСТОТЭЛЕС: Ня можа.

ПАРМЭНІДЭС: А ці ставацца і шчазаць, ёсьць гэта нешта іншае, чымся ўсуспольненьне з быцьцём і страта быцьця?
АРЫСТОТЭЛЕС: Нічога іншага.
ПАРМЭНІДЭС: А ці можа тое, што́ ня прыймае ўдзелу ў быцьці, успрыймаць яго або губі́ць яго?

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як магло-б яно?

ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі адно аніяк ня існуе, дык яно ня можа ўспрыняць быцьця, мець яго або згубіць яго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Натуральна.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, адно, якое ня існуе, і калі яно ня прыймае ўдзелу ў быцьці, дык яно ня гіне, ані ўзьнікае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як выглядае, не.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, яно і зьіначаньню не паддаецца; бо, калі-б так, дык яно-б узьнікала і гінула.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, калі яно ня зьіначаваецца, дык яно і ня рухаецца.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна, не.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама ня можам сказаць, што яно стаіць, калі яно нідзе; бо тое, што́ стаіць, заўсёды мусіць быць на адным і тым самым месцы.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як можа быць інакш?

ПАРМЭНІДЭС: Тады, мы мусім гэтаксама прызнаць, што адно, якое ня існуе, ніколі не стаіць, ані кратаецца.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна, не.

ПАРМЭНІДЭС: І яшчэ, яму ня будзе своым нічога з таго, што́ існуе; бо-ж, будучы своым для чаго-небудзь з таго, што́ існуе, дык яно было-б своым і для быцьця.

164 АРЫСТОТЭЛЕС: Ясна.

ПАРМЭНІДЭС: І з гэтае прычыны, ані вялікасьць, ані маласьць як і роўнасьць, ня могуць тарнавацца да яго.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама, што не.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама падобнасьць як і розьніца ня могуць тарнавацца ані да яго, ані да іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як выглядае, не.

ПАРМЭНІДЭС: Дык як? Ці можа што-небудзь іншае адносіцца да яго, калі наагул нічога не адносіцца да яго?

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна, не.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, іншыя рэчы ня могуць быць падобнымі да яго як і непадобнымі, гэтакімі самымі як і рознымі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ня могуць.

ПАРМЭНІДЭС: І як? Ці-ж можа, тады, тасавацца да няіснуючага такое, як: таму, затым, або гэтае, або тое, або нешта іншае, або адносіцца-да, ці тарнавацца-да, або раней, цяперака, пасьля, або веда, уяўленьне, ці думка, слова або імя, або што-не-

будзь іншае з таго, што існуе?

АРЫСТОТЭЛЕС: Не.

ПАРМЭНІДЭС: Гэткім спосабам, адно, якое ня існуе, не замыкае ў сабе ніякіх дазнавальных усуадношваньняў.

АРЫСТОТЭЛЕС: І запраўды, выходзіць, што не дазнае ніякіх усуадношваньняў.

ПАРМЭНІДЭС: А цяперака давайце яшчэ скажам: К а л і а д н о н я ё с ь ц ь, дык што стаецца зь іншым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, над гэтым варта затрымацца.

ПАРМЭНІДЭС: Іншае мусіць-жа недзе быць. Бо, калі-б яно ня было іншым, дык пра яго і развважаць ня было-б магчымым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: Калі мы гаворым пра іншае, тады выступае і рознае. Бо слова "іншае" і "рознае" зьяўляюцца сынанімамі?

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Бо іншае, кажам мы, ёсьць іншым ад нечага іншага; гэтаксама і нешта іншае зьяўляецца нечым іншым ад нечага іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі іншае запраўды мае быць іншым, дык павінна быць нешта, у ваднасінах да чаго, яно зьяўляецца іншым.

АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: І што гэтым можа быць? Бо-ж іншае ня будзе іншым у ваднасінах да аднаго, калі адно ня ёсьць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Не, ня будзе.

ПАРМЭНІДЭС: Яно іншым астаецца і ў аднясеньні да самога сябе, бо гэта яму толькі і астаецца, або астаецца яшчэ адна магчымасьць - быць іншым адносна нічога.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Калі ўзяць вялічэзнасьць, кажны элемэнт яе гэтаксама будзе нечым іншым у ваднясеньні да іншага гэтакага самага элемэнту. А ўзятая адзінка, ня будзе, калі адно ня ёсьць: бо, як выглядае, кажнае сузграмаджаньне бязьмежным ёсьць у сваей колькасьці: калі ўзяць нават тое, што выдаецца самым найменшым, дык і яно, якое толькі што выяўлялася як нешта цэлае, раптам, як у лятуценьні, выдаецца нечым шматлікім і з малюпаценькага абяртаецца ў аграмаднасьць у параўнаньні да тых маленькіх час-

так, зь якіх яно выраспадзельваецца.

АРЫСТОТЭЛЕС: Зусім правільна.

ПАРМЭНІДЭС: І ў сузграмаджаньні гэтакіх частак, іншае будзе іншым, у ваднясеньні да самога сябе, калі іншае існуе, і адно ня ёсьць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: І ці-ж ня будзе вялічэзнае сузграмаджаньне частак, зь якіх кажная выявіцца як адзінка, ня будучы ў запраўднасьці адзінкаю, калі адно ня ёсьць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: І выдасца, што лік выхвармоўваецца зь іх, калі кажная зь іх выявіцца як адзінка, хоць у запраўднасьці іх ёсьць шматлікасьць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: І нешта зь іх выявіцца як цотнае, а іншае - як няцотнае, што не адка́зваціме запраўднасьці, калі адно ня ёсьць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Не адказваціме запраўднасьці.

ПАРМЭНІДЭС: І як ужо аказалася, выявіцца спасярод іх найболей малюпаценькая частка; але нават і яна выгляда́ціме як аграмадная і вялічэзная ўпараўнаньні з шматлікімі малымі часткамі.

I65 АРЫСТОТЭЛЕС: Напэўна.

ПАРМЭНІДЭС: І кажная частка будзе выяўляцца як роўная вялікім сузграмаджаньням і малым; і яна ня выдасца як пераходзячая з большага ў меншае без папярэдняга праяўленьня пераходу ў сярэдняе; гэта бо і будзе тварыць сабою ўражаньне роўнасьці.

АРЫСТОТЭЛЕС: Але́.

ПАРМЭНІДЭС: А ня маючы ані пачатку, ані сярэдзіны ці канца, кажная апрычоная частка выявіцца ўжо як абмежаваная ў дачыненьні да самое сябе як і да іншага.

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Бо, кажны раз, калі хто-небудзь уя́віць сабе ў думцы што-небудзь з успомнутых трох: пачатак, канец або сярэдзіну, дык кажны раз перад пачаткам узьнікае другі пачатак, а за канцом - наступны канец, а ў сярэдзіне выявіцца іншая сярэдзіна - яшчэ болей сярэдняю, меншая за першую, затым, што ані ў пачатку, ані ў канцы, ані ў сярэдзіне немагчыма ўхваціць аднаго, калі адно ня існуе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Зусім праўдзіва.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама і ўсё тое, што існуе - штоколечы мецімем на ўвазе - мусіць распадзяліцца і распа́сьціся на часткі, бо частку магчыма ўявіць сабе толькі як нешта бяз усуцэльненьня.

АРЫСТОТЭЛЕС: Ведама.

ПАРМЭНІДЭС: І гэтакае існаваньне, бачанае слабым узрокам і на адлегласьць, можа выдасца адным; але агляданае зблізка і для зыркага інтэлекту, кажная гэтакая рэч выявіцца як бязьмежная ў сваей кольк асьці, калі ўжо адно, якое ня існуе, адсутнічае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Гэта зусім неабходным ёсьць.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, кажнае іншае мусіць выявіцца як неабмежаванае і як абмежаванае, і як адно і неадно, к а л і а д н о /ἕν/ н я ё с ь ц ь а л е ў ж о і н ш а е /τἆλλα/ я к а д н о /ἑνός/.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так, гэтак мусіць быць.

ПАРМЭНІДЭС: Дык ці ня будзе яно выдавацца падобным і непадобным?

АРЫСТОТЭЛЕС: Як гэта?

ПАРМЭНІДЭС: Гэтак як у вобразе, таму, хто стаіць здалёк, усе абрысаваньні выдаюцца аднолькавымі і падобнымі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Так.

ПАРМЭНІДЭС: Таму-ж, зноў, хто падыходзіць бліжэй, яны выяўляюцца ў многасьці і рознасьці, і ў выніку ўражаньня адрозьненьня, выдаюцца рознымі і непадобнымі.

АРЫСТОТЭЛЕС: Правільна.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама і часткі, мусіць, выдаюцца падобнымі і непадобнымі да самых сябе і да кажнае іншае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Абавязкава.

ПАРМЭНІДЭС: І яны павінны быць тоеснымі сабе як і рознымі адна ад другое, і быць у сувязі між сабою, хоць яны зьяўляюцца выапрычоненымі, і мець кажны від руху як і кажны стан супачынку, узьнікаць і гінуць, быць ані ў тым стане, ані ў іншым, мець усе свомасьці падобныя, якія могуць быць намі пералічаныя, калі адно ня ёсьць, а многае існуе.

АРЫСТОТЭЛЕС: Шчырая праўда.

ПАРМЭНІДЭС: Вярнемся яшчэ раз на пачатак і скажэм: К а л і а д н о н я ё с ь ц ь, а і н ш а е я к а д н о а д н а к ё с ь ц ь, дык якія-ж наступствы будуць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Запытайма сябе.

ПАРМЭНІДЭС: Найперш, іншае ня будзе адным.

АРЫСТОТЭЛЕС: Дый як-жа?

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама і ня многім; бо, калі-б яно было многім, адно зьмяшчалася-б у ім. Але калі нічога зь іншага ня ёсьць адно, дык усё яно ёсьць

нічога, і з гэтае прычыны яно ня можа быць многім.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: Калі адно ня можа зьмяшчацца ў іншым, дык іншае зьяўляецца ані многім, ані адным.

166 АРЫСТОТЭЛЕС: Запраўды, не.

ПАРМЭНІДЭС: І яно не выяўляецца ані ў адным, ані ў многім.

АРЫСТОТЭЛЕС: Чаму не?

ПАРМЭНІДЭС: Затым, што іншае нідзе і ніякім спосабам ня мае ніякае супольнасьці зь нічым з таго, што ня існуе, і тое, што ня існуе, ня мае ніякіх зносінаў з чым-небудзь зь іншага; апрача таго, тое, што ня існуе, ня мае ніякіх частак.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама, іншае ня мае ніякага ўяўленьня адносна таго, што ня існуе, ані паняцьця пра яго, і, зноў-жа, тое, што ня існуе, зусім ня думае пра іншае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Не.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі адно ня ёсьць, дык іншае ня існуе, і нічога зь яго ня можа прыйсьці на думку, ані як адно, ані як многае, бо без аднаго немагчыма думаць многае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Зусім немагчыма.

ПАРМЭНІДЭС: Затым, калі адно ня ёсьць, дык і іншае ня існуе, і яго нельга думаць ані як адно, ані як многае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Запраўды, немагчыма.

ПАРМЭНІДЭС: Калі адно ня ёсьць, дык нельга думаць гэтаксама як падобнае або як непадобнае.

АРЫСТОТЭЛЕС: Нельга.

ПАРМЭНІДЭС: Гэтаксама, як і ня тоеснае або рознае, ані як нешта сутычнае або распадзеленае ці як адасобленае, ані наагул як нешта, што мае прыкметы, на падставе якіх можна ўважаць за існуючае; іншае ані зьяўляецца гэтакім, ані выглядае, каб было нечым гэтакім, калі адно ня ёсьць.

АРЫСТОТЭЛЕС: Праўда.

ПАРМЭНІДЭС: Тады, ці ня можам мы падсумаваць усе нашыя выказваньні і праўдзіва сказаць: калі адно ня ёсьць, дык нічога ня існуе?

АРЫСТОТЭЛЕС: З найбольшаю пэўнасьцю.

ПАРМЭНІДЭС: Няхай, тады, гэтак многа бýдзе сказана дый да гэтага яшчэ і тое, што выдаецца як рэчаіснасьць, што, існуе адно ці ня існуе, адно і іншае адносна самых сябе як і адно да другога, усе яны, у кажным дачыненьні, ёсьць і ня ёсьць, выдаюцца і не выдаюцца.

АРЫСТОТЭЛЕС: Шчырая праўда.

I лют. 1976 г.

У дыялёгу "Мэнон" Плятон займаецца пытаньнем адукацыі і ўзгадаваньня. Пасрэдна зьмест дыялёгу вяжацца з паняцьцем дабра і зла. Тэорыі дабра і зла многія розумы на працягу тысячалецьцяў прысьвяцілі ня мала ўвагі; аднак пытаньне, якое найпраўдападобна ў сьвеце заходнім выток свой знаходзіць у творчасьці Плятона, да гэтае пары ня зыходзіць з парадку дня.

Тэма дыскусыі ў дыялёгу вывязваецца зь першага сказу, калі Мэнон у хворме пытаньня зьвяртаецца да Сакратаса:

– Як ты думаеш, Сакратас, ці цноты можна навучыцца? А мо' яе ня можна навучыцца і яна асягваецца толькі на дарозе практыкі? А мо' не асягваецца ані практыкаваньнем, ані навукаю, але дастаецца людзям з натуры або якім-небудзь іншым спосабам?

У першым выпадку закранаецца справа адукацыі і навукі. На працягу некалькі апошніх стагодзьдзяў, і, у вапрычонасьці нашага стагодзьдзя, паняцьце адукацыі ў беларускім лексыконе займела значэньне блізкае да выпрацоўваньня ў чалавеку ягонага р а ц ы ё /лаць. **ratio, -onis**, зьлічэньне, падлічэньне, ссумаваньне, вырахаваньне; розум/, тады, як паняцьце "ўзгадаваньня" мае блізкі сэнс да разьвіцьця людзкае асабовасьці ў напрамку ейных маральных вартасьцяў, якія цесна вяжуцца з паняцьцем таго, што прынята называць душою, характарам. Два гэтыя паняцьці, хоць і розныя, шырокім сваім засягам заходзяць у поле ўзаемных уплываў. З гэтае прычыны часамі трудна вызначыць разьмежаваньне паміж імі.

Тое, што мы сягоньня называем узгадаваньнем, у сваім апошнім завяршэньні, у вуснах Сакратас, гучэла, як быць простым, бясхітрасным і добрым чалавекам. І гэта ўсё. Але, нават пры наяўнасьці шматлікіх дапаможнікаў, пытаньне ўсё далей і далей аставалася, як стацца гэтым добрым чалавекам.

У дыскусыі бяруцца пад увагу ўсе магчымыя назіраньні. Адно зь іх – калі мужнасьць утоесамліваецца зь ведаю, тады можна яе навучыцца гэтак, як навучаюцца геомэтрыі, напрыклад. З другое стараны, калі цнота зьяўляецца нейкім навыкам, тады можна яе здабыць на шляху практыкаваньняў, падобна, як разьвіваецца фізычная здольнасьць ува ўсіх відах спор-

ту. Але ані навучаньне, ані практыкаваньне, як выглядае, не выясьняюць, як чалавек прыходзіць да стану мужнасьці. Дый ня толькі гэта; дыскусыя вядзе да сьцьверджаньня, што нават там, дзе ўжо існуюць пачаткі мужнасьці, не заўсёды ўдаецца пераказваць яе наступным пакаленьням. І ўсё-ж, Сакратас не зьнеахвочваецца гэтаю рэчаіснасьцю, і ў далейшых пошуках адказу на пытаньне, засяроджваецца на магчымасьцях атрыманьня мужнасьці на дарозе дару з натуры Але тут мы ўжо стаімо на парозе іншае тэмы.

=

У дыялёгу знаходзім канцэпт, званы анамнэзісам, або прыводжаньнем на ўспамін забытага, сутнасьць якога зводзіцца да наступнага:

Чалавек жыве і мае душу. Душа ёсьць несьмяротнаю і, праўдападобна, жыла ўжо жыцьцё або і некалькі жыцьцяў перад гэтым як прыйсьці зноў сюды, і ў папярэднім жыцьці займела веды. Аднак, у працэсе прыходу або ўцелясьненьня ў сучаснае жыцьцё, душа згубіла гэтыя веды. І ўсё-ж, яна можа здабыць свае веды назад. Працэс здабыцьця забытых ведаў або прыпамінаньня ці анамнэзісу ілюструецца Сакратасам на бачынах I25-I32 пры ўдзеле прысутнага хлапца.

24 травеня I976 г. Я. П.

# М Э Н О Н

Асобы дыялёгу

Мэнон, Сакратас, хлапец Мэнона, Анітос

МЭНОН: Як ты думаеш, Сакратас, ці цноты можна на- 70
вучыцца? А мо́ яе ня можна навучыцца і яна асягва-
ецца толькі на дарозе практыкі? А мо́ не асягваец-
ца ані практыкаваньнем, ані навукаю, але дастаецца
людзям з натуры або якім-небудзь іншым спосабам?

САКРАТАС: Быў час, Мэнон, калі тэссалійцы славі-
ліся сярод гэльленаў і выклікáлі захопленьне з пры-
чыны свайго мастацтва коннае язды і багацьця, але
цяперака, калі я не памыляюся, яны зьяўляюцца так-
сама слаўнымі і з прычыны іхнае мудрасьці, і асаб-
ліва ў Лярысе, у родным месьце твайго сябры Арыс-
тыппоса. І прычынаю гэтага зьяўляецца Ґорґіяс: Бо-ж
гэта ён, зьявіўшыся ў вашым месьце, займеў вялікую
колькасьць прыхільнікаў свае мудрасьці - спачатку
сярод Алеўáдаў, сярод якіх і твой захопленьнік А-
рыстыппос, як і сярод іншых тэссалійцаў. І ад яго
між вамі пачатак узяў звычай, што, калі-б хто-не-
будзь паставіў вам пытаньне, адказваць велічна і
пэўна, як і належыцца тым, што ведаюць. Бо-ж і сам
ён дазваляў кажнаму з гэльленаў ставіць яму пытань-
ні і нікога не пакідаў без адказу. Але тут, у Атэнах,
паважаны Мэнон, усё маецца наадварот: што да муд-
расьці, дык прыйшло ахалоджаньне, і выглядае, быц-
цам яна згэтуль перасялілася да вас. Што найменей, 71
калі-б ты запытаў каго-небудзь з тутэйшых жыхароў,
ці цнота здабываецца або прыходзіць з натуры, дык
той-бы засьмяяўся і адказаў: "Чужынец, ты вельмі
добрае думкі пра мяне, калі ты думаеш, што я магу
адказаць на тваё пытаньне. Бо, у грунце рэчы, я ня
ведаю, чым яна зьяўляецца, і ці яе можна навучыцца,
ці здабыць якім-небудзь іншым спосабам".

Дый сам я, Мэнон, жыву тутака і дзялюся ў гэтым
прадмеце беднасьцю зь іншымі суродзічамі; і ў сора-
ме прызнаю́ся сам перад сабою, што, наагул, нічога ня
ведаю адносна цноты; і, калі я пра дадзеную рэч ні-
чога ня ведаю, дык як мне ведаць, як яе здабыць? А-
бо, ці магчыма наагул, ня ведаючы хто такі Мэнон,
ведаць, ці прыгожы ён, багаты, шляхэтны або ўсё зу-

сім наадварот? Як ты думаеш, магчыма гэта?
МЭНОН: Не, запраўды. Але, паважна ты думаеш, Сакратас, калі кажаш, што ня ведаеш, што такое цнота? Ці маю-ж я гэтак пра цябе і дома ў Тэссаліі расказаць?
САКРАТАС: Ня толькі адно гэта, дружа, але гэтаксама і тое, што, як да гэтае пары, ніхто мне ня прытрапіўся, хто ведаў-бы гэта.
МЭНОН: Як гэта? Ніколі ты не спаткаў Ґорґіяса, калі ён тут быў?
САКРАТАС: Спаткаў, ведама.
МЭНОН: І як? Ці-ж бы табе здалося, што і ён ня ведае?
САКРАТАС: Я ня маю добрае памяці, Мэнон, затым я не магу цяперака сказаць, што я думаў пра яго ў тым часе. Аднак, я склонны сказаць, што, магчыма, ён ведае, дый ты ведаеш, што ён тады казаў. Калі ласка, прыпомні мне, затым, што ён казаў. Або, калі ты хочаш, перакажы мне тваімі ўласнымі словамі, бо-ж ты аднолькавае думкі зь ім.
МЭНОН: Гэта праўда.
САКРАТАС: Затым пакінем яго, тым болей, што нямашака яго тут. Дзеля ўсіх багоў, Мэнон, скажы мне, што гэта такое, па-твойму, цнота? Скажы і ня ўтойвай ад мяне, бо-ж я запраўды ўсьцешуся выяўленьнем, што я памыляўся, а ты і Ґорґіяс ведаеце, хоць я і цьвердзіў толькі-што, што ня прытрапіўся мне чалавек, каторы ведаў-бы гэта.
МЭНОН: У гэтым нічога няма труднага, каб сказаць табе, Сакратас. Перш вазьмем, калі ты хочаш, мужнасьць мужчыны - тут лёгка сказаць, што ён павінен ведаць, як кіраваць справамі гаспадарства і, кіруючы гэтым, ён павінен мець на ўвазе дабро сваіх сяброў і шкодзіць сваім ворагам; і ён мусіць быць гэтаксама асьцярожным, каб самому не дазнаць ад каго-небудзь шкоды. А жанчыны мудрасьць, калі ты жадаеш ведаць, гэтаксама можа быць лёгка выражана: абавязкам яе - весьці парадкам дом і даглядаць, каб усё знаходзілася ў спраўнасьці, астаючыся паслухмянай свайму мужу. Іншаю мудрасьць, зноў, зьяўляецца дзіцяці, гэтак
хлапца як і дзяўчыны і чалавека ў сіле веку, сва-
72 боднага, калі ты хочаш, ці нявольніка. Існуе вялі-
кая колькасьць розных цнотаў, затым ня трудна ска-
заць пра цноту, чым яна зьяўляецца. Бо цнота - гэта паняцьце адноснае, у залежнасьці ад справаў, веку кажнага з нас і кажнае рэчы, якую мы чынім. Гэтаксама, Сакратас, рэч маецца і з заганамі.
САКРАТАС: Як шмат шчасьлівым чуюся я, Мэнон; я

шукаў адну толькі цноту, а знайшоў іх цэлы рой, які тут асеў у цябе. Зноў-жа, Мэнон, калі я буду трымацца параўнаньня да рою, і запытаю цябе пра цноту пчалы́ і што гэта такое пчала́, дык ты мне скажаш, што ёсьць многа розных пчолаў; а што-б ты адказаў мне, калі-б я запытаў цябе: "Паводля тваіх словаў, іх вялікая колькасьць і затым яны розныя і не падобныя адна да другое, бо яны пчолы? А мо´ яны розьняцца між сабою чым-небудзь іншым? прыгожасьцю, напрыклад, вялічынёю ці чым-небудзь падобным?" Скажы, што-б ты адказаў на падобнае пытаньне?

МЭНОН: Вось гэта: што яны, як пчолы, ня розьняцца між сабою.

САКРАТАС: І калі-б я далей запытаў: "Скажы мне, Мэнон, што гэта за роўнасьць, паводля твае думкі, з прычыны якое яны ня розьняцца між сабою, і ўсе зьяўляюцца адным і тым самым?" Ці дасі ты сабе ра́ды, каб адказаць на гэткае пытаньне?

МЭНОН: Дам.

САКРАТАС: Падобна рэч маецца і з цнотамі, ня гледзячы на тое, як многа іх ёсьць і як розьняцца яны між сабою, - усе яны маюць адну і свомую для сябе ідэю, якая і чыніць іх цнотамі; а таму, хто шукае адказу на пытаньне "Чым цнота зьяўляецца", выйдзе на карысьць, калі ён зьверне на гэта асаблівую ўвагу. Магчыма ты не разумееш, што́ я маю на ўвазе?

МЭНОН: Я думаю, што разумею, аднак таго, пра што ты пытаеш, я не агарнуў так, як-бы жадаў сабе.

САКРАТАС: Калі ты гаворыш, Мэнон, што існуе адна цнота для мужчыны, а іншая для жанчыны, а яшчэ іншая для дзіцяці і гэтак далей, дык ці гэта адносіцца вылучна да цноты, а мо´ ты думаеш, што гэта самае адносіцца і да здараўя, росту і сілы? Ці ты цьвердзіш, што ў мужчыны адно здароўе, а ў жанчыны - іншае? А мо´ гэтак рэч маецца, што, калі яно - здароўе і нішто іншае, дык ідэя яго ўсюды адна і тая самая, хай сабе здароўе мужчыны, жанчыны ці каго-небудзь іншага?

МЭНОН: Мне здаецца, што здароўе заўсёды ёсьць тым самым - мужчыны ці жанчыны.

САКРАТАС: Ці-ж ня гэтак рэч маецца і з ростам, і з сілаю? Калі сільная жанчына, дык ці-ж ня тая самая ідэя, тая самая сіла чыніць яе сільнаю? Кажучы "тая самая", я разумею сілу, як сілу, у мужчыне ці жанчыне - заўсёды тая самая. Ці выдаецца табе, што існуе розьніца?

МЭНОН: Я думаю, не.

САКРАТАС: Ці будзе цнота, цнота як гэткая, тою 73

САКРАТАС: І калі-б ён далей пытаў цябе: якія гэта хвіґуры? дык ты-ж бы вылічыў іх?
МЭНОН: Вылічыў-бы.
САКРАТАС: І зноў-жа, калі-б ён запытаў цябе: што́ гэта такое колер, і, пачуўшы твой адказ, што колер - гэта белае, зноў запытаў-бы цябе: "Белае - гэта колер наагул ці мо´ адзін з колераў?" - ты-ж бы адказаў, што адзін з колераў, бо існуюць іншыя?
МЭНОН: Гэтак адказаў-бы я.
САКРАТАС: І, калі-б ён сказаў табе вылічыць іншыя колеры, ты-ж бы вылічыў колеры, якія ані крышку не зьяўляюцца меншымі колерамі, чымся белы?
МЭНОН: Так, вылічыў-бы.
САКРАТАС: Прымем цяперака, што ён, падобна, як я, болей унікліва падходзіў да справы, і сказаў-бы табе: "Мы зноў і зноў вяртаемся да шматлікасьці, але гэта ня тое, што́ я хацеў-бы знайсьці; калі ты ўжо называеш іх адным супольным імем, і кажаш, што яны зьяўляюцца хвіґурамі, нават тады, калі яны супроцьставяцца сабе, тады скажы мне, што-ж гэта тое, што́ агартвае сабою круглае, падобна як і тое, што́ ты называеш простае - калі ты адно і другое называеш хвіґурамі, утрымліваючы, што круглае і простае - хвіґуры ў аднолькавай меры?" А мо´ ты інакш думаеш?
МЭНОН: Не, гэтаксама.
САКРАТАС: Калі ты ўжо гэтак кажаш, думаеш ты, што круглае ані крышку ня болей круглае, чымся простае, а простае ані крышку ня болей простае, чымся круглае?
МЭНОН: Напэўна не, Сакратас.
САКРАТАС: Але ты кажаш, што круглае зьяўляецца хвіґураю і ані крышку ня большае, чымся простае, і наадварот, простае ня болей, чымся круглае.
МЭНОН: Ты правільна кажаш.
САКРАТАС: Дык да чаго-ж тады мы тарнуем імя "хвіґура"? Папробуй адказаць. Прымем, што таму, хто пытаецца цябе адносна хвіґуры або колеру, ты адкажаш:
75 "Чалавеча мой, я не разумею, што́ ты хочаш і ня ведаю, што́ ты маеш на ўвазе", - а ён, праўдападобна, паўзіраецца на цябе са зьдзіўленьнем і адкажа: "Як гэта? ты не разумееш, што я шукаю тое, што́ ўва ўсіх гэтых рэчах ёсьць супольным для іх". А мо´, Мэнон, ты і на гэткае простае пытаньне ня мецімеш што́ адказаць, калі цябе хто-небудзь запытае: "І што-ж у круглым, і простым, і ўва ўсіх іншых рэчах, якія ты завеш хвіґурамі, ёсьць супольнае ім?" Папробуй адказаць, і гэтым ты падрыхтуешся да адказу адносна

цноты.
МЭНОН: Не, Сакратас, я тае́ думкі, каб ты сам адказаў.
САКРАТАС: Ці маю я ўзнагародзіць цябе адказам?
МЭНОН: Калі ласка.
САКРАТАС: А пасьля захочаш ты мне адказаць адносна цноты?
МЭНОН: Адкажу.
САКРАТАС: Тады я буду старацца, бо справа вартая натугі.
МЭНОН: Напэўна.
САКРАТАС: Добра, я буду старацца паясьніць табе, чым хвіґура зьяўляецца. Паўзірайся, ці ты згодзішся са мною што да наступнага: хвіґура зьяўляецца адзінаю рэчаю, якая заўсёды саправаджае колер. Хопіць табе гэтага, ці мо́ шукаеш ты чаго-небудзь іншага? Я-б здаволіўся, калі-б ты мне падаў падобную дэфініцыю адносна цноты.
МЭНОН: Але-ж гэта вельмі простым ёсьць, Сакратас.
САКРАТАС: Чаму простым?
МЭНОН: Бо паводля таго, што́ ты сказаў - хвіґура ёсьць тым, што́ заўсёды саправаджае колер. Магчыма. Але калі раптам хто-небудзь скажа табе, што ня ведае, чым хварба зьяўляецца, і гэтаксама астаўся-б у няпэўнасьці адносна хвіґуры - тады чым станецца твой адказ?
САКРАТАС: Ён будзе чыстаю праўдаю. І, калі-б той, што пытае, быў адным з мудрацоў або выкліқваючым дыскусыю ці зацятым спрачальнікам, тады-б я сказаў яму: "Я сваё сказаў, і калі я памыляюся, тады тваею справаю ёсьць узяць слова і запярэчыць мне. Але, калі-б мы былі сябрамі і вялі дыскусыю, гэтак, як мы чынім цяперака, тады мусіў-бы я адказваць болей памяркоўна і з большым вычуцьцём мастацтва ў вядзеньні разважаньня; інакш кажучы, я ня толькі павінен гаварыць праўду, але яшчэ браць пад увагу і тое, што́ дыскутант здольным зьяўляецца агарнуць. І гэта ёсьць той спосаб, зь якім я гэтаксама гатовы спаткаць цябе. І цяперака скажы мне: Існуе нешта гэткае, што́ называеш ты <u>канцом</u>? Праз гэта я маю на ўвазе нешта абмежаванае, канцовае, апошняе - словы, якія я ўжываю тут у тым самым значэньні. Продікос, магчыма, не згадзіўся-б з намі. Але ты, я пэўны, гаворыш пра што-небудзь, як нешта, што́ <u>мае мяжу</u>, <u>канчаецца</u>. І гэта ўсё, што́ я гавару, тут нічога няма труднага.
МЭНОН: О так, называю, і мне здаецца, што я пачынаю разумець, што́ ты маеш на ўвазе.

самаю ў дзіцяці і ў дарослым чалавеку, жанчыне ці мужчыне?

МЭНОН: Я не магу, Сакратас, паўстрымацца ад уражаньня, што тут усё зусім не падобна да таго, пра што мы раней гаварылі.

САКРАТАС: Як гэта? Ці-ж не казаў ты, што цнота мужчыны - добра кіраваць гаспадарствам, а жанчыны - домам?

МЭНОН: Так, казаў.

САКРАТАС: А ці-ж можна добра кіраваць гаспадарствам або домам ці чым-небудзь іншым, ня кіруючы разважна і справядліва?

МЭНОН: Напэўна, не.

САКРАТАС: А ці-ж, калі хто кіруе разважна і справядліва, ня кіруе, дзякуючы разважнасьці і справядлівасьці?

МЭНОН: Напэўна.

САКРАТАС: Затым абое, і мужчына, і жанчына, калі яны маюць быць добрымі, аднолькава мусяць мець справядлівасьць і разважнасьць.

МЭНОН: Напэўна.

САКРАТАС: А малады чалавек і дарослы, калі яны безразважныя і несправядлівыя, могуць быць добрымі?

МЭНОН: Ніколі.

САКРАТАС: Мусяць яны быць разважнымі і справядлівымі?

МЭНОН: Так.

САКРАТАС: Тады, усе людзі зьяўляюцца добрымі паводля свайго спосабу, прыймаючы ўдзел у тых самых цнотах?

МЭНОН: Выглядае гэтак.

САКРАТАС: І напэўна, яны ня былі-б добрымі паводля свайго спосабу, калі-б іхная цнота ня была тою самаю?

МЭНОН: Ведама, што не.

САКРАТАС: Цяпер-жа, калі адзінасьць цноты сьцьверджана, пастарайся прыпомніць - паводля словаў Ґорґіяса і тваіх - чым-жа цнота зьяўляецца?

МЭНОН: Хочаш ты на ўсё мець адну дэфініцыю?

САКРАТАС: Гэта якраз тое, што я шукаю.

МЭНОН: Калі ты ўжо на ўсё хочаш мець адну дэфініцыю, тады толькі адно магу сказаць: цнота - гэта здольнасьць панаваць над людзьмі.

САКРАТАС: І гэтая дэфініцыя цноты агортвае сабою ўсе цноты? Ці зьяўляецца яна гэтаксама цнотаю дзіцяці, Мэнон, і нявольніка? Ці дзіця можа панаваць над сваім бацькам, або нявольнік над сваім гаспадаром? І думаеш ты, што той, хто загадвае, можа быць

нявольнікам?

МЭНОН: Я думаю, што не, Сакратас.

САКРАТАС: Так, гэта было-б сьмешна, мой даражэнькі. Вазьмі пад увагу і гэта яшчэ. Паводля твайго выказваньня, цнота – гэта "здольнасьць панаваць над людзьмі". Але ці-ж не дабавіў ты да гэтага "справядліва, а не несправядліва"?

МЭНОН: Так, Сакратас. Я згодзен з гэтым, бо-ж справядлівасьць і ёсьць цнотаю.

САКРАТАС: Наагул цнота, ці гэтая, дадзеная цнота?

МЭНОН: Што ты маеш на ўвазе?

САКРАТАС: Я маю тое на ўвазе, што́ я магу сказаць адносна кажнае рэчы. Напрыклад, пра круглае я сказаў-бы, што гэта адна з магчымых хвіґураў, а не проста хвіґура. І затым я сказаў-бы гэта, бо існуюць іншыя хвіґуры.

МЭНОН: Гэта правільна. І гэта якраз тое, што́ я кажу пра цноту – што побач справядлівасьці існуюць іншыя цноты.

САКРАТАС: Якія-ж? скажы. Я мог-бы вылічыць табе 74
іншыя хвіґуры, калі-б ты загадаў мне: затым, вылічы ты́ мне іншыя цноты.

МЭНОН: Калі ласка: і мужнасьць – цнота, і разважнасьць, і мудрасьць, і вялікадушша, і шмат іншага.

САКРАТАС: Так, Мэнон; зноў здарылася з намі тое самае: шукалі мы адну цноту, а знайшлі многасьць іх, хоць ня тым самым шляхам, як раней. А вось тае́ адзінае, што знаходзіцца ўва ўсіх іх, гэтак мы і ня можам знайсьці.

МЭНОН: Так, Сакратас, нават цяперака я не зьяўляюся здольным сьледаваць за табою ў натузе знайсьці тую адзіную цноту, гэтак, як асягвалі мы ўдачыненьні да іншых рэчаў.

САКРАТАС: Натуральна. Аднак я ўчыню спробу, калі толькі будзе гэта адказваць маім сілам, наблізіць нас да гэтага. Ты-ж бо разумееш, што рэчы гэтак маюцца з усімі іншымі праявамі. Калі-б цябе хто-небудзь запытаў гэткім-жа спосабам, як я цяперака пытаў: "Што гэта такое хвіґура, Мэнон?" – і, калі-б ты адказаў: "Круглае", – а цябе запыталі-б, падобна, як я: "А круглае – гэта хвіґура наагул, ці мо́ адна з хвіґураў?" – ты-ж бы, напэўна, адказаў, што адна зь іх.

МЭНОН: Напэўна.

САКРАТАС: І ці-ж не затым, што існуюць яшчэ іншыя хвіґуры?

МЭНОН: Але́.

76 САКРАТАС: Гэтаксама існуе нешта, што́ называеш ты вонкаваю паверхняю, як і целам, падобна, як прынята гэта ў ґеомэтрыі?
МЭНОН: Так.
САКРАТАС: З гэтага, магчыма, ты ўжо разумееш, што́ я называю хвіґураю. Згэтуль, ува ўсіх хвіґурах, кажу я, тое, што́ творыць сабою межы цела, і ёсьць хвіґураю. Коратка гэтую думку можна выразіць: хвіґура - гэта мяжа цела.
МЭНОН: І што ты называеш колерам, Сакратас?
САКРАТАС: Ты ўсё-ж гвалтоўным зьяўляешся, Мэнон, калі змушаеш старога чалавека адказваць, а сам нават ня хочаш паклапаціцца, каб успомніць і пераказаць тое, чым зьяўляецца, паводля выказваньня Ґорґіяса, цнота.
МЭНОН: Калі ты перш мне адкажаш, Сакратас, тады і я скажу табе.
САКРАТАС: Чалавеку, нават з завязанымі вачыма, хопіць пачуць цябе, Мэнон, каб даведацца, што ты прыгожы і яшчэ аднаго любоўніка маеш.
МЭНОН: Як гэта?
САКРАТАС: Бо ты заўсёды загадваючым выдаешся ў гутарцы: як усе прыгожыя людзі ў расьцьвеце свае маладосьці, каторыя заўсёды загадваюць, быццам тыраны. І як я здагадваюся, ты, праўдападобна, даведаўся, што і я маю слабасьць да прыгожасьці. Затым нічога іншага не астаецца нам, як падпарадкавацца тваей волі і адказваць.
МЭНОН: Калі ласка, учыні гэта.
САКРАТАС: Ці будзе табе да спадобы, калі я адказваціму ў Ґорґіясавай манеры, зь якою ты абазнаным зьяўляешся?
МЭНОН: Нічога лепшага і не жадаю сабе.
САКРАТАС: Вы-ж бо ў сузгоднасьці з Эмпэдо́клесам гаворыце пра існаваньне пэўных сьцяканьняў?
МЭНОН: Але́.
САКРАТАС: І пра праходы, праз якія цякуць і праз якія прасочваюцца гэтыя сьцячэньні?
МЭНОН: Якраз гэтак.
САКРАТАС: І што некаторыя з гэтых сьцяканьняў датарнаваныя да праходаў, а іншыя або празьмерна вялікія, або малыя для іх?
МЭНОН: Так, запраўды.
САКРАТАС: Ці існуе нешта, што́ ты называеш зрок?
МЭНОН: Так.
САКРАТАС: А цяперака, як кажа Піндарос, "агарні тое, што́ я кажу": колер - гэта сьцяканьне хвормы, адпаведнае зроку і ўспрыймальнае ім.

МЭНОН: Гэта выдаецца мне першарадным адказам, Сакратас.

САКРАТАС: А гэта, мусіць, затым, што ты прывык да падобнага спосабу адказаў. І апрача гэтага, я думаю, ты спасьцярог, што гэтым спосабам можаш лёгка распазнаць, што́ гэта такое гук і пах і іншыя падобныя зьявішчы.

МЭНОН: Ведама.

САКРАТАС: Гэта адзін з урачыстых адказаў, Мэнон, затым бо і спадабаўся ён табе болей, чымся той адносна хвігуры.

МЭНОН: Магчыма.

САКРАТАС: Паводля майго пераканаць ня, сыне Алексідэмоса, ня гэты адказ лепшы, але той. І я пэўны, што ты будзеш тае самае думкі, калі астанешся тут дзеля прыняцьця пасьвячэньня, і ня будзеш змушаным, як учора казаў, ехаць на містэрыі.

МЭНОН: Я ахвотна астануся, Сакратас, калі ты бу- 77
дзеш адказваць мне падобна.

САКРАТАС: З добраю волею хацеў-бы я гутарыць з табою для твайго і майго дабра, адно баюся, што я не магчыму даць табе шмат у гэтым сэнсе. І цяпераka, аддаючы чарговасьць слова табе, папробуй ты датрымаць прырачэньне, і скажы мне, што́ гэта такое цнота наагул; і не пераходзь з паадзіночнага ліку ў множны, як жартаўнікі кажуць пра тых, што разьбіваюць якую-небудзь рэч, але скажы мне, што́ гэта цнота, захоўваючы яе цэлаю і здароваю, і не разьбівай яе на часткі. При́клады для гэтага ты ўжо займеў ад мяне.

МЭНОН: Мне здаецца, Сакратас, што цнота ёсьць, як паэта кажа: "Радавацца з прыгожага і мець над ім уладу". І, калі чалавек імкнецца да прыгожага і астаецца ў магацэ́ асягнуць яго - гэта я называю цнотаю.

САКРАТАС: Думаеш ты, што імкненьне да прыгожага - імкненьне да добрага?

МЭНОН: Так, я думаю.

САКРАТАС: Выглядае, што некаторыя імкнуцца да зла, а іншыя - да дабра? Ці-ж не выдаецца табе, мой паважаны, што ня ўсе імкнуцца да дабра?

МЭНОН: Я думаю, не.

САКРАТАС: Ёсьць такія, што імкнуцца да зла?

МЭНОН: Але́.

САКРАТАС: Ці думаеш ты, што зло, да якога яны імкнуцца, выдаецца ім дабром, а мо́, кіруючыся да зла, яны ведаюць, што яно ёсьць злом?

МЭНОН: Я думаю, і так і гэтак.

САКРАТАС: І ты, фактычна, дапушчаеш думку, Мэнон, што чалавек ведае, што зло астаецца злом, і ўсё-ж імкнецца да яго?

МЭНОН: Ведама.

САКРАТАС: І што ты думаеш, асягвае чалавек тое, да чаго імкнецца?

МЭНОН: Так. Бо ї што-ж яшчэ?

САКРАТАС: Думае чалавек, што асягнутае ім зло выпадзе на карысьць яму, ці мо́ ведае ён, што станецца шкодным для яго?

МЭНОН: Некаторыя думаюць, што зло выйдзе ім на дабро, а іншыя ведаюць, што зло спрычыніць ім шкоду.

САКРАТАС: І як ты думаеш, тыя, што думаюць, што зло вы́падзе ім на карысьць, ведаюць, што яно ёсьць злом?

МЭНОН: Напэўна, не.

САКРАТАС: З гэтага выразна выступае, што тыя,што ня ведаюць чым зло ёсьць, імкнуцца да яго, думаючы, што яно ёсьць дабром. Згэтуль, тыя, што ня ведаюць, чым зло ёсьць, і прыймаюць яго за дабро, імкнуцца, мусіць, да дабра. Ці ня гэтак?

МЭНОН: Гэтак выдаецца.

САКРАТАС: Добра, а тыя, як ты ўтрымліваеш, што імкнуцца да зла, ведаючы адначасна, што зло шкодзіць таму, хто яго ма́е, ці разумеюць яны, што шкодзяць самыя сабе?

МЭНОН: Напэўна.

78 САКРАТАС: Але, ці не павінны яны ўважаць, што тыя, што дазналі шкоду, зьяўляюцца мізэрнымі ў той прапорцыі да дазнанае шкоды, якую яны сьцягнулі на сябе?

МЭНОН: Гэта няўхільным ёсьць.

САКРАТАС: Ці-ж не зьяўляюцца няшчасныя жалюгоднымі?

МЭНОН: Так, запраўды.

САКРАТАС: Ці-ж ёсьць нехта, хто хоча быць няшчасным і годным жалю?

МЭНОН: Я думаю, што не, Сакратас.

САКРАТАС: Калі няма нікога, хто хацеў-бы быць мізэрным і няшчасным, тады, Мэнон, няма нікога, хто жадаў-бы сабе зло. Бо і чым зьяўляецца мізэрнасьць, калі не ахвотаю займець зло?

МЭНОН: Здаецца, што ты маеш рацыю, Сакратас, і я згодны, што ніхто не жадае сабе зла.

САКРАТАС: Ці не казаў ты толькі-што, што цнота - гэта жаданьне і ўлада асягнуць дабро?

МЭНОН: Так, казаў.

САКРАТАС: Калі гэта знойдзе сваё пацьверджаньне, тады жаданьне займець дабро зьяўляецца свомым для ўсіх, і адзін чалавек у гэтым дачыненьні не зьяўляецца лепшым за другога?
МЭНОН: Выглядае гэтак.
САКРАТАС: З гэтага ясна, што, калі адзін чалавек зьяўляецца лепшым за другога, дык ён перавышае яго ўладаю займеньня дабра?
МЭНОН: Якраз гэтак.
САКРАТАС: Тады, паводля твае дэфініцыі, выглядае, што цнота – гэта сіла займеньня дабра?
МЭНОН: Я цалiком згаджаюся, Сакратас, з манераю, пры помачы якой ты прадстаўляеш справу.
САКРАТАС: Давайце, тады, паглядзімо, ці тое, што ты кажаш, зьяўляецца правільным зь іншага пункту гледжаньня; вельмі магчыма, што ты маеш рацыю: – ты ўтрымліваеш, што цнота – гэта ўлада займеньня дабра?
МЭНОН: Так.
САКРАТАС: Гаворачы пра дабро, ці ня маеш ты на ўвазе здароўе, багацьце і яшчэ нешта ў гэтым сэнсе?
МЭНОН: Так; гэтаксама як і назьбіраць золата, серабра, мець добрую пасаду і гонары.
САКРАТАС: Якраз гэта і нічога іншага не ўважаеш за дабро?
МЭНОН: Не, але ўсё падобнае маю на ўвазе.
САКРАТАС: Тады, паводля Мэнона, – спадкаемнага госьця вялікага караля, – цнота – гэта нагрмаджаньне золата і серабра; і не дадасі да гэтага, што ўсё гэта мае быць здабыта справядліва і пабожна; а мо́ здаецца табе, што гэта ня мае ніякага значэньня, нават тады, калі багацьце прыдбана несправялліва і неганарова; і ў роўнай меры ёсьць гэта цнота?
МЭНОН: Ані ў якім выпадку, Сакратас.
САКРАТАС: А што? заганы гэта?
МЭНОН: Пэўна.
САКРАТАС: Як выглядае, з здабываньнем гэтага ўсяго мусіць ісьці ў па́ры справядлівасьць, паўстрыманасьць, разважнасьць, пабожнасьць. Калі ўсяго гэтага няма, тады, толькі награмаджаньне дабра, ня будзе цнотаю.
МЭНОН: І як-жаж бяз гэтага можа быць цнота?
САКРАТАС: Але не здабываць ані золата, ані серабра, ані для сябе, ані для каго іншага, калі гэта несправядліва, – інакш кажучы, адмова ад прыдбаньня і недахоп – ці ня будзе гэта цнотаю?
МЭНОН: Напэўна будзе.
САКРАТАС: Тады прыдбаньне ўспомнутага дабра не зьяўляецца большаю цнотаю, чымся няпрыдбаньне і жа-

даньне яго; аднак, як выглядае, тое толькі будзе
цнотаю, што даконваецца са справядлівасьцю, а тое,
што ў нясузгоднасьці з гэтым - заганнасьцю будзе. 79

МЭНОН: Мне здаецца, што ня можа быць інакш, але толькі так, як ты кажаш.

САКРАТАС: Ці-ж не казалі мы перад хвілінаю, што справядлівасьць і паўстрыманасьць і падобнае, зьяўляюцца часткамі цноты?

МЭНОН: Так, казалі.

САКРАТАС: І што-ж, Мэнон, жартуеш ты зь мяне?

МЭНОН: Як гэта, Сакратас?

САКРАТАС: Як гэта? Я толькі-што прасіў цябе, каб ты не раскладаў цноты на часткі і даў табе прыклады, як трэба адказваць, а ты, не шманаючы пра гэта, кажаш мне, быццам цнота - гэта здольнасьць сузграмаджваць матэрыяльнае дабро з перасьцераганьнем справядлівасьці, а справядлівасьць, паводля тваіх словаў - гэта частка цноты.

МЭНОН: Так, гэта казаў я.

САКРАТАС: Бо-ж выцякае з твайго ўласнага дапушчэньня, што цнота чыніць якраз тое, што чыніш ты пры помачы часткі цноты; а справядлівасьць і ўсе сурадныя ёй складнікі, як ты кажаш, зьяўляюцца часткамі цноты.

МЭНОН: Чаму ты кажаш гэта?

САКРАТАС: Чаму я кажу? Ці-ж я не прасіў цябе, каб ты мне выявіў сутнасьць цноты наагул? А ты ня толькі што ня выявіў мне гэтага, але пачаў цьвердзіць, быццам кажнае дзеяньне мае быць цнотаю, калі даканана з удзелам часткі цноты; быццам ты ўжо высьвіў што гэта такое цнота наагул, а я зразумеў усё, хоць ты і разлажыў яе на часткі. З гэтае прычыны, дарагі Мэнон, трэба зноў паставіць тое самае пытаньне: Што гэта такое цнота? Бо інакш, я магу толькі сказаць, што ўсё, што даконваецца пры ўдзеле часткі цноты, зьяўляецца цнотаю; і якое-ж іншае мае значэньне сказ, што кажная дзейнасьць, даканаая са справядлівасьцю, зьяўляецца цнотаю? А мо' я не павінен ставіць гэтага пытаньня; бо ці можа хтонебудзь, ня ведаючы цноты, ведаць частку цноты?

МЭНОН: Не; я не кажу, што ён можа ведаць.

САКРАТАС: Ці памятаеш ты, калі я адказваў табе адносна хвігуры, мы проста адкінулі кажны адказ што да паняцьцяў, у справе якіх мы не асягнулі сузгоднасьці думкі?+/

МЭНОН: Так, Сакратас; і мы правільна паступілі, чынячы гэта.

+/ Гл. б. II7.

САКРАТАС: Дый ня думай, мой дружа, быццам мы зьяўляемся ў стане вылушчыць каму-небудзь натуру цноты наагул дарогаю пэўных недасьледжаных частак цноты або што-небудзь гэткім шляхам; усяроўна мы мусім зноў ставіць сабе старое пытаньне: Што гэта такое цнота? І як ты думаеш, гавару я да рэчы?

МЭНОН: Мне выдаецца, што ты трапна гаворыш.

САКРАТАС: Тады пачынай зноў адказваць мне: Паводля твайго зразуменьня і твайго прыяцеля Ґорґіяса, якая можа быць дэфініцыя цноты?

МЭНОН: Я, Сакратас, яшчэ да сустрэчы з табою чуў,
быццам ты стала знаходзішся ў сумненьні і іншых зво- 80
дзіш у няпэўнасьць. І цяперака ты загаварыў мяне, і я чую тваю варажбу на сабе і зачараваньне, і мне здаецца, што я нічога тут не магу зразумець. І, калі мне дазволена крыху пажартаваць зь цябе, выдаешся ты мне ў тваім выглядзе як і ў моцы над іншымі падобным да плоскае рыбы - морскае электрычнае торпэды, якая, кажнага, хто зблізыцца і дакранецца да яе, уводзіць у стан здранцьвеньня; вось і цяперака, як мне здаецца, ты ўвёў і мяне ў гэтае здранцьвеньне. Бо мая душа і язык здранцьвелі, і я ня ведаю, як я маю адказваць табе. Я-ж бо нязьлічаную колькасьць разоў пры ўнутраным уздыме на тэмат цноты гаварыў розныя прамовы перад многімі людзьмі, і, як мне здавалася, вельмі добра, а вось цяперака я не магу сказаць, чым цнота зьяўляецца. Магчыма ты разумна робіш, што нікуды не выяжджаеш згэтуль і ня плывеш за мора; бо, калі-б ты праяўляў сябе падобна і ў іншых местах, дык цябе, як чужынца, зараз-жа схвацілі-б, як чараўніка.

САКРАТАС: Хітры ты, Мэнон! Яшчэ-б крыху, і перахітрыў-бы ты мяне.

МЭНОН: Як гэта, Сакратас?

САКРАТАС: Я ведаю, зь якое прычыны ты мяне гэтак вымаляваў.

МЭНОН: Зь якое-ж?

САКРАТАС: Каб я і цябе да чаго-небудзь прыраўнаў. Бо я ведаю, што ўсе прыгожыя маладыя людзі любяць, калі іх параўноўваюць з чым-небудзь прыгожым, бо-ж тое, да чаго іх прыраўноўваюць, павінна быць, як я думаю, прыгожым. Але я ня буду адудзячвацца тым самым. А пра сябе я скажу, што, калі гэтая морская торпэда, выклікаючы ў іншых здранцьвеньне, сама астаецца здранцьвелаю, тады я падобны да яе, а калі не, дык не падобны. Гэта-ж ня тое, што я, зводзячы ў няпэўнасьць іншых, сам ўва ўсім гэтак ясна разьбіраюся, - не; я сам у сумненьні і

іншых вяду да няпэўнасьці. Вось як і цяперака: што гэта такое цнота, я і сам ня ведаю, а ты, вельмі магчыма, ведаў раней, перад тым, як мяне спаткаў, але цяперака ў гэтай справе ты затое стаўся нéвукам. Аднак-жа, я ня маю ніякіх засьцярогаў далучыцца да цябе, каб пазнаць, штó яна такое.

МЭНОН: Як-жаж ты будзеш дасьледваць, Сакратас, тое, чаго ты ня ведаеш? І якую-ж зь няведамых табе рэчаў возьмеш ты, як аб́ект твайго досьледу? Або калі ты нават і знойдзеш тое, штó ты хочаш знайсьці, дык як ты даведаешся, што гэта якраз і ёсьць тая рэч, якое ты ня ведаў?

САКРАТАС: Я разумею, Мэнон, штó ты маеш на ўвазе. Але паўзірайся, які поўны сваркі аб́ект ты ўносіш у наш дыялёг. Той пайменна, што чалавек ня можа аддацца пошукам адносна таго, штó ён ведае, як і адносна таго, чаго ён ня ведае; бо, калі ён ведае, дык ён не патрабуе мазоліцца, а калі ня ведае, гэтаксама няма пашто старацца, бо ён ня ведае, штó якраз ён павінен шукаць.

81 МЭНОН: Ці-ж мой арґумант, Сакратас, ня прыгожа гучыць?

САКРАТАС: Я думаю, што не.

МЭНОН: Можаш ты сказаць чаму?

САКРАТАС: О так! Бачыш, я ўжо чуў ад мужчын і жанчын, каторыя, будучы мудрымі ў боскіх справах, гаварылі,...

МЭНОН: І штó яны гаварылі? І хто былі яны, што гаварылі?

САКРАТАС: Гаварылі праўду, і, як мне здалося, гаварылі прыгожа. Гаварылі-ж гэта тыя з сьвятароў і сьвятарак, каторыя вывучалі справу, каб быць здольнымі падáць прычыну свайго паклíканьня. Пра гэта самае кажуць і паэты, будучы пад натхненьнем, падобна, як і Піндарос, і іншыя пад уплывам боскага ўздыму. І яны гавораць, - зьвярні ўвагу і глядзі, ці тое, штó яны кажуць, праўдаю ёсьць -: яны ўтрымліваюць думку, што душа чалавека ёсьць несьмяротнаю і, што яна аднойчы даходзіць да свайго канца, штó яны паміраньнем называюць, а іншым разам яна родзіцца, але ніколі не зьніштажаецца. І з гэтае прычыны чалавек павінен правесьці сваё жыцьцё ў як найбольшай сьвятасьці:

> І Пэрсэпона, прыняўшы грошай капу
> За выкуп зманлівых гадоў,
> Душы пашле на дзявятым годзе людзей
> Сонцу насустрач ізноў.

Вялікае славы князі выйдуць ізь іх,
І ў моцы выявіцца мудрасьць мужоў,
Праўдзівых герояў імем навек
Людзі абдораць іх.

Калі душа ёсьць несьмяротнаю і, будучы народжанаю неаднакратна і, назіраючы ўсе рэчы ў быцьці, у гэтым сьвеце ці ў сьвеце Нізоў, займела веду пра ўсё. Ня дзіва, затым, што яна зьяўляецца здольнаю прыклікаць на памяць усё, што яна ведае адносна цноты і адносна кажнае рэчы. Калі ўся натура знаходзіцца ў зродненасьці між сабою, а душа пазнала ўсе рэчы, дык яна ня мае труднасьці з прыпамінаньнем, што людзі пазнаньнем называюць - самому знайсьці ўсё іншае, калі толькі чалавек будзе мужным і нястомным у пошуках. Бо шуканьне і пазнаваньне - ёсьць прыпамінаньне. Дзеля гэтага чалавек не павінен слухаць таго доваду, свомага для зацятых спрачальнікаў, бо ён учыніць нас гультаяватымі, ён прыемны для слуху людзей мяккацелых, але гэтая мова ўчыніць нас дзейнымі і ахвочымі да досьледу. Астаючыся ў гэтым перакананьні, я маю ахвоту, разам з табою заняцца пытаньнем сутнасьці цноты.

МЭНОН: Так, Сакратас. Але што ты маеш на ўвазе, кажучы, што мы ня вучымся і, што тое, што мы называем навукаю - ёсьць толькі працэс прыпамінаньня. Ці можаш ты навучыць мяне, як гэтая рэч маецца?

САКРАТАС: Я ўжо казаў табе, Мэнон, што ты свавольнік. Вось хоць-бы цяперака, ты пытаешся мяне, 82
ці магу я навучыць цябе, тады, калі я кажу, што няма гэтакае рэчы, як навучаньне, а толькі прыпамінаньне, і гэтым ты хочаш паставіць мяне ў супярэчнасьць з самым сабою.

МЭНОН: Не, Сакратас, заўпраўды, ня з гэткім замерам я сказаў гэта, а толькі з навыку. Аднак-жа, калі ты якім-небудзь спосабам давядзеш, што тое, што ты гаворыш, праўдаю ёсьць, тады ўчыні гэта.

САКРАТАС: Ня будзе гэта лёгкаю рэчаю, але я папробую ўчыніць усё, што я магу, каб як найболей здаволіць цябе. Пакліч мне аднаго з тваіх тут, катория саправаджаюць цябе, якога-небудзь, якога ты хочаш, каб я на ім мог паказаць табе.

МЭНОН: З ахвотаю. Хадзі сюды, хлопча.

САКРАТАС: Я думаю, што ён грэк і гаворыць пагрэцку?

МЭНОН: Пэўна, ён-жаж радзіўся ў маім доме.

САКРАТАС: А цяперака ўзірайся ўважна на яго, як ён табе выдасца, ці ён стане прыпамінаць, ці мо' ад

мяне навýчыцца.
МЭНОН: Так, я буду.
САКРАТАС: Скажы мне, хлопча, ці ведаеш ты, што гэтакая хвіґура зьяўляецца квадратам?




ХЛАПЕЦ: Ведаю.
САКРАТАС: І ты ведаеш, што квадратная хвіґура мае гэтыя чатыры роўныя лініі?
ХЛАПЕЦ: Так.
САКРАТАС: І гэтыя лініі, каторыя я нарысаваў у сярэдзіне квадрату, гэтаксама зьяўляюцца роўнымі?




ХЛАПЕЦ: Але́.
САКРАТАС: Гэтакая хвіґура можа быць меншая і большая?
ХЛАПЕЦ: Можа быць.
САКРАТАС: Калі адзін бок гэтае хвіґуры будзе мець два футы, і другі бок два футы, дык колькі будзе футаў разам у квадраце? Разваж цяперака: калі-б тут было два футы, а тут толькі адзін, дык ці ня будзе хвіґура мець два футы?
ХЛАПЕЦ: Два.
САКРАТАС: А калі і гэты бок будзе мець два футы, ці не атрымаем мы тады два разы па два футы?
ХЛАПЕЦ: Атрымаем.
САКРАТАС: Значыцца, у гэтым квадраце будзе два разы па два футы?
ХЛАПЕЦ: Ага́.
САКРАТАС: І колькі гэта будзе - два разы па два футы? Палічы і скажы мне.
ХЛАПЕЦ: Чатыры, Сакратас.
САКРАТАС: Ці можа быць хвіґура двойчы большая ад гэтае, і як гэ́тая мець роўныя бакі?
ХЛАПЕЦ: Можа.
САКРАТАС: І колькі-ж у ёй будзе футаў?
ХЛАПЕЦ: Восем футаў.
САКРАТАС: Добра! Цяперака папробуй і скажы мне, якая даўжыня лініі, што творыць бок таго падвойнага квадрату: гэтая мае два футы, а тая, што ў два разы большая?
ХЛАПЕЦ: Ясна, Сакратас, у два разы даўжэйшая.
САКРАТАС: Бачыш, Мэнон, я ня вучу яго, але толькі пытаю. І вось цяперака, ён думае, што ён ведае, як доўгім бок мае быць, зь якога ўзьнікне васьмі-

футовы квадрат. Ці ня гэтак?

МЭНОН: Так.

САКРАТАС: Але ці ён, фактычна, ведае?

МЭНОН: Зусім ня ведае.

САКРАТАС: Ён толькі здагадваецца, што, калі квадрат ёсьць падвойны, дык і лінія ёсьць падвойнаю.

МЭНОН: Але́.

САКРАТАС: Глядзі цяпер, як ён успомніць адно за другім усё, што трэба ўспомніць. [I да хлапца:]

Скажы мне, хлопча, ці думаеш ты, што падвойны квадрат узьнікае зь лініі падвойнае даўжыні? Памя- 83
тай пры гэтым, што я ма́ю на ўвазе ня гэтакую хвіґуру, якая ма́е адзін бок доўгі, а другі кароткі, але такую, якая ма́е ўсе чатыры бакі роўныя, як вось гэтая – але толькі падвойная, васьміфутовая?

ХЛАПЕЦ: Так, думаю.

САКРАТАС: Але ці ня ўзьнікне ў нас бок два разы большы ад гэтага, калі мы дадамо іншую такую лінію?

ХЛАПЕЦ: Узьнікне.

САКРАТАС: Затым, думаеш ты, што, калі гэтых большых бакоў будзе чатыры, дык атрымаецца васьміфутовы квадрат?

ХЛАПЕЦ: Але́...




САКРАТАС: Давай, тады, нарысуем гэтакую хвіґуру. Дык што, гэта і будзе васьміфутовы квадрат?

ХЛАПЕЦ: Будзе.

САКРАТАС: А ці ня будзе ў ім чатыры квадраты, кажны з каторых роўны гэтаму чатырохфутоваму?

ХЛАПЕЦ: Будзе.

САКРАТАС: Дык якое-ж ён вялічыні? Ці-ж не чатыры разы большы ад першага?

ХЛАПЕЦ: Напэўна.

САКРАТАС: Дык што, адначасна ён і ў чатыры, і ў два разы большы ад першага?

ХЛАПЕЦ: Запэўніваю, што не.

САКРАТАС: Тады, у колькі-ж разоў ён большы?

ХЛАПЕЦ: У чатыры разы.

САКРАТАС: Значыцца, падвойная лінія, хлопча, дала плошчу не ў два разы, але ў чатыры разы большую?

ХЛАПЕЦ: Ты праўду кажаш.

САКРАТАС: Тады, чатыры разы чатыры - шаснаццаць, ці ня гэтак?

ХЛАПЕЦ: Гэтак.

САКРАТАС: Якая-ж лінія дасьць табе васьміфутовы квадрат? бо-ж з гэтакіх вось атрымаўся ў чатыры разы большы?

ХЛАПЕЦ: Так.

САКРАТАС: А квадрат у чатыры футы ўзьнікае з палловы гэтае лініі?

ХЛАПЕЦ: Але́.

САКРАТАС: Добра. Ці-ж васьміфутовая плошча не раўняецца двум падвойным маленькім плошчам або палове гэтай вялікай плошчы?

ХЛАПЕЦ: Ведама, раўняецца.

САКРАТАС: Значыцца, бакі, зь якіх яна ўзьнікне, будуць меншыя ад таго большага боку, але адначасна большымі за той малы?

ХЛАПЕЦ: Так; я думаю гэтак.

САКРАТАС: Вельмі добра. Рабі заўсёды гэтак: кажы тое, што́ ты думаеш. А цяперака скажы мне, ці ня ёсьць гэтая лінія два футы даўжыні, а гэтыя чатыры?

ХЛАПЕЦ: Так.

САКРАТАС: Значыцца, лінія, якая творыць сабою бок васьміфутовае хвіґуры, мусіць быць большаю лініяю, чымся гэтая лінія двух футаў і меншаю ад чатырох футаў?

ХЛАПЕЦ: Мусіць.

САКРАТАС: Папробуй і скажы мне, колькі будзе футаў у гэтым баку?

ХЛАПЕЦ: Тры футы.

САКРАТАС: Затым, калі мы дадамо палавіну з гэтага двухфутовага боку, тады атрымаем лінію ў тры футы. Тут ёсьць два і там адзін; з другое стараны, тутака ёсьць два і тут адзін: і гэта творыць сабою хвіґуру, пра якую ты гаворыш, ці ня гэтак?

ХЛАПЕЦ: Так.

САКРАТАС: Калі ў яе адзін бок мае тры футы, і другі гэтаксама тры, дык ці ня будзе ўва ўсей хвіґуры тры разы тры футаў?

ХЛАПЕЦ: Напэўна.

САКРАТАС: Тры разы тры футаў - колькі гэта футаў будзе?

ХЛАПЕЦ: Дзевяць.

САКРАТАС: А наш падвойны квадрат колькі ма́е мець футаў?

ХЛАПЕЦ: Восем.

САКРАТАС: Глядзі, і ня выйшла нам васьміфутовая хвіґура з трохфутовых бакоў?

ХЛАПЕЦ: Ня выйшла.

САКРАТАС: Тады зь якіх-жа выйдзе? – скажы нам дакладна; калі ты ня хочаш, дык пакажы нам лініі.

ХЛАПЕЦ: Не, Сакратас, на Зэуса, я ня ведаю.

САКРАТАС: Ты бачыш, Мэнон, які поступ ён учыніў у сваей сіле прыпамінаньня? Ён ня ведаў спачатку, і ня ведае цяперака як вялікі бок васьміфутовага кваярату, але думае, што ведае, адказваў пэўна, быццам ён ведае, і не праяўляў ніякае труднасьці. Але цяперака ён адчувае труднасьць і, калі ён ня ведае, тады пачынае думаць, што ня ведае.

МЭНОН: Ты праўду кажаш.

САКРАТАС: Ці ня выходзіць яму на дабро ў веданьні таго, чаго ён ня ведае?

МЭНОН: Мне здаецца, што на дабро.

САКРАТАС: Ці ня спрычынілі мы яму якую-небудзь шкоду, запытаўшы яго і ашаламіўшы зьдзіўленьнем, як тыя торпэды? +/

МЭНОН: Я думаю, што не.

САКРАТАС: Як выглядае, у значнай меры, мы памаглі яму разабрацца, як рэч маецца ў запраўднасьці. І цяперака, ведаючы, ён ахвотна пачне шукаць паправы для свайго няведаньня; раней у гутарцы з людзьмі, часта мог ён лёгка думаць, быццам ён кажа правільна пра падвойны квадрат, цьвердзячы, што падвойны квадрат мусіць мець бакі ў два разы даўжэйшыя.

МЭНОН: Выглядае, што так.

САКРАТАС: Думеш ты, што ён пачаў-бы шукаць або вучыцца таго, што ён, ня ведаючы, думаў, што ведае, аж пакуль ён не заблытаўся і, зразумеўшы, што ня ведае, праявіў жаданьне пазнаць?

МЭНОН: Я думаю, што не, Сакратас.

САКРАТАС: Дык што? здранцьвеньне выйшла яму на карысьць?

МЭНОН: Мне гэтак здаецца.

САКРАТАС: Глядзі ўважна, як ён выйдзе з гэтага труднага палажэньня, шукаючы разам са мною адказу; пры гэтым я пачну толькі ставіць пытаньні і нічым ня буду вучыць яго. І ўзірайся пільна, ці не заўважыш ты мяне, што я вучу яго і паясьняю яму што-небудзь, замест таго, каб пазнаць ягоную ўласную думку. [І да хлапца, зьвяртаючыся:] Скажы мне, хлопча, ці ня ёсьць гэта ў нас чатырохфутовы квадрат? Разумееш ты мяне?

ХЛАПЕЦ: Так. Вось гэты.

САКРАТАС: А цяперака мы можам дадаць да яго ін-

---

+/ Гл. б. 123.

шы роўны яму квадрат?

ХЛАПЕЦ: Ага́.

САКРАТАС: І трэйці яшчэ, роўны кажнаму з двух папярэдніх?

ХЛАПЕЦ: Але́.

САКРАТАС: А вось у гэты кут, ці ня можам мы памясьціць гэтаксама квадрат?




ХЛАПЕЦ: Можам.

САКРАТАС: Тады атрымаем чатыры роўныя хвіґуры?

ХЛАПЕЦ: Атрымаем.

САКРАТАС: І як? У колькі-ж разоў усё разам будзе большым ад першага квадрату?

ХЛАПЕЦ: У чатыры разы.

САКРАТАС: Але меўся быць атрыманы квадрат у два разы большы, калі ты па́мятаеш?




ХЛАПЕЦ: Памятаю.

САКРАТАС: Вось лінія,
праведзеная з кута ў кут;
ці ня дзеліць яна кажны
85 квадрат на дзъве палавіны?

ХЛАПЕЦ: Так.

САКРАТАС: Ці ня ёсьць тут чатыры роўныя лініі, якія твораць сабою вось гэты квадрат?

ХЛАПЕЦ: Так, яны ёсьць.

САКРАТАС: А цяперака паўзірайся добра, якое вялічыні гэты квадрат будзе?

ХЛАПЕЦ: Не разумею гэтага.

САКРАТАС: Ці-ж кажны з гэтых чатырох малых квадратаў не разьдзелены ў сярэдзіне гэтакаю-ж лініяю на свае палавіны?

ХЛАПЕЦ: Так.

САКРАТАС: Колькі-ж гэтакіх палавінаў будзе ў квадраце?

ХЛАПЕЦ: Чатыры.

САКРАТАС: А ў гэтым?

ХЛАПЕЦ: Дзъве.

САКРАТАС: Колькі разоў два зьмяшчаецца ў чатырох?

ХЛАПЕЦ: Два разы.

САКРАТАС: А колькі футаў мае гэты квадрат?

ХЛАПЕЦ: Восем футаў.
САКРАТАС: Зь якіх лініяў?
ХЛАПЕЦ: З гэтых.
САКРАТАС: Гэта значыць зь лініі, якая праходзіць у квадраце з кута ў кут?
ХЛАПЕЦ: Так.
САКРАТАС: Вучоныя людзі называюць гэтую лінію дыяґональ. І калі гэта ёсьць адпаведным імем, тады ты, Мэнонавы хлапец, цьвердзіш, што дыяґоналі твораць сабою наш падвойны квадрат?
ХЛАПЕЦ: Напэўна, Сакратас.
САКРАТАС: Ну, як табе здаецца, Мэнон? Ці падáў ён што-небудзь у адказ, штó ня было ягонаю ўласнаю думкаю?
МЭНОН: Не, усе ягоныя ўласныя.
САКРАТАС: І ўсё-ж, ён нічога ня ведаў, як і гаварылі мы пра гэта толькі што?
МЭНОН: Ты праўду кажаш.
САКРАТАС: Але ў ім самым былі гэтыя адказы, ці ня гэтак?
МЭНОН: Так.
САКРАТАС: Тады выходзіць, што той, хто ня ведае, можа ўсё-ж мець праўдзівыя ўяўленьні адносна таго, чаго ён ня ведае?
МЭНОН: Выходзіць, што так.
САКРАТАС: І вось цяперака гэтыя думкі ў ім ажывіліся, быццам у сьне. І, калі-б яго пачалі часта і пры розных нагодах пытаць пра тое самае, ты можаш быць пэўным, што ў выніку гэтага ён ня горай іншых здабыў-бы ў гэтым дачыненьні дакладную веду.
МЭНОН: Вельмі магчыма.
САКРАТАС: Бязь ніякага навучаньня са стараны каго-небудзь ён сам сабою, шляхам толькі стаўленьня яму пытаньняў, адновіць веданьне ў сабе.
МЭНОН: Так.
САКРАТАС: Гэтае само ў сабе адноўленае веданьне ў ім - ці ня ёсьць прыпамінаньне?
МЭНОН: Напэўна.
САКРАТАС: І гэтае веданьне, якое ён цяперака мае, ці-ж ня мусіў ён яго здабыць раней або мець заўсёды?
МЭНОН: Алé.
САКРАТАС: Але, калі ён заўсёды меў гэтае веданьне, тады быў ён заўсёды ведаючым; калі-ж ён яго калі-небудзь здабыў, дык прынамся здабыў ён яго не ў сучасным жыцьці? Або, ці навучыў яго хто-небудзь ґэомэтрыі? Калі-б так, дык навучыў-бы яго ўсяе ґэомэтрыі, дый іншыя навукі. Але ці вучыў яго хто-не-

будзь усё гэта? Ты мусіш ведаць, бо-ж ён радзіўся і ўзгадоўваўся ў тваім доме.

МЭНОН: Я ведаю вельмі добра, што ніхто яго ніколі ня вучыў.

САКРАТАС: А ўсё-ж ён мае гэтыя ўяўленьні, ці ня так?

МЭНОН: Гэтага ніхто ня можа запярэчыць, Сакратас.

САКРАТАС: Цяперака, калі ён здабыў іх ня ў су-
часным жыцьці, дык ці-ж ня выходзіць, што яны пра-
86 віліся ў яго ў нейкім іншым часе, калі ён і пазнаў
усё гэта?

МЭНОН: Здаецца гэтак.

САКРАТАС: Ці ня ў тым часе, калі ён ня быў чалавекам?

МЭНОН: Так.

САКРАТАС: Калі на працягу ўсяго часу, у якім ён ужо чалавек, або калі ён ім яшчэ ня быў, у ім павінны былі існаваць запраўдныя думкі, каторыя, будучы разбуджанымі пытаньнямі, стаюцца ведамі, дык ці-ж ня будзе ягоная душа валадарніцаю гэтых ведаў? Бо ясным ёсьць, што на працягу ўсенькага часу ён або чалавек, або – не.

МЭНОН: Ведама.

САКРАТАС: І, калі праўда адносна ўсіх рэчаў, пакліканых да быцьця, заўсёды існавала ў душы, тады душа несьмяротнаю зьяўляецца. З гэтае прычыны будзь добрае думкі, і імкніся прыпомніць тое, чаго ты ня ведаеш, або барджджэй ня памятаеш.

МЭНОН: Ты выдаешся мне, Сакратас, – і я ня ведаю чаму, – што ты трапна гаворыш.

САКРАТАС: І мне самому гэтак здаецца, Мэнон. Пра некаторыя іншыя рэчы я гаварыў, адносна якіх я не зьяўляюся пэўным. Але за тое, што мы, – аддаемося досьледу ў няведамым для нас, – стаемося лепшымі і болей мужнымі і актыўнымі за тых, што думаюць, быццам няведамае немагчыма знайсьці, затым і шукаць яго няварта, – вось за гэта я гатоў змагацца словам і чынам, наколькі гэта ў межах маіх сілаў.

МЭНОН: Гэта выдаецца мне вельмі трапна сказана, Сакратас.

САКРАТАС: І, калі мы ўжо прыйшлі да сузгоднасьці думкі, што чалавек павінен шукаць тое, чаго ён ня ведае, дык ці ня варта было-б нам супольнымі сіламі пачаць пошукі адносна існасьці цноты?

МЭНОН: Ахвотна, Сакратас. Але я вярнуўся-б барджджэй да майго першапачаткавага пытаньня, дасьледзіць яго і пачуць, ці цноты можна навучыцца, або дастаецца яна з натуры, ці мо' якім-небудзь іншым спосабам.

САКРАТАС: Калі-б меў я загад над табою, Мэнон, і над самым сабою, дык не пачалі-б мы досьледу, ці можна навучыцца цноты, ці не, аж пакуль не знайшлі-б мы адказу на пытаньне, чым цнота зьяўляецца. Але, калі ты ўжо ня імкнешся сам над сабою мець уладу, пайменна, каб астацца свабодным, а нада мною імкнешся пераняць загад і загадваеш, тады я паддамся, бо ня бачу тут ніякага іншага выхаду. Затым я мушу ўчыніць угляд у прадмет, што да якога мы ня ведаем, чым ён зьяўляецца. У кажным выпадку, зрабі мне ласку і, выходзячы з пэўнае гіпатэзы, дазволь мне дасьледзіць пытаньне, ці цнота здабываецца дарогаю навукі, а мо' можна займець яе якім-небудзь іншым спосабам. Калі я кажу "выходзячы з пэўнае гіпатэзы", я паступаю, як ґэомэтры, каторыя, калі каго-небудзь зь іх запытаюцца, ці можа быць памешчаны, для прыкладу, простакутнік дадзенае вялічыні ў кола з дадзенаю плошчаю, дык той адкажа: "Я ня ведаю яшчэ, але магу запрапанаваць гіпатэзу, якая, вельмі праўдападобна, умагчыміць нам дайсьці да высьнаву: Калі дадзеная хвіґура будзе гэтакаю, што магчыма ўзбольшыць дадзеных памераў яе бок, і вылічыць зь яе плошчы плошчу простакутніка, пабудаваную на ўзбольшанай лініі боку, дык атрымаецца адна пасьлядоўнасьць, а, калі гэтага асягнуць немагчыма - тады атрымаецца іншая. Выходзячы з гэтае гіпатэзы, я ахвотна скажу табе, як рэч маецца з умяшчэньнем нашага трохкутніка ў кола, можа быць гэта даканана ці не". Гэтак рэч маецца і з намі, калі ідзе гутарка пра цноту. І, калі мы ня ведаем чым яна зьяўляецца і як яе здабыць, створым тады гіпатэзу і ўздымем пытаньне: можна яе навучыцца ці ня можна, і скажам: Калі цнота зьяўляецца добрым спосабам думаньня, выходзячым з душы, тады, можна яе навучыцца ці ня можна? Першая гіпатэза тут - гэта: ці цнота зьяўляецца ці не зьяўляецца ведаю - у дадзеным выпадку - можна яе навучыцца ці не, або, як мы казалі вось, ці можа быць яна прыведзенаю на ўспамін? Ведама, у дадзеным выпадку можна ўжыць розныя словы, але ня гэта найгалаўнейшае. А што, калі яе ўсё-ж можна навучыцца? А ці-ж ня ясна кажнаму, што навучаючыся, чалавек здабывае толькі веды?

МЭНОН: Я зусім згодны з гэтым.

САКРАТАС: Калі цнота зьяўляецца ведаю, тады ясным ёсьць, што цноты можна навучыцца.

МЭНОН: Ведама.

САКРАТАС: Дык вось, управіліся мы з гэтым пытаньнем: калі цнота мае гэтакую свомасьць, тады

можна яе навучыцца, а калі не – дык не.

МЭНОН: Але́.

САКРАТАС: Наступнае пытаньне – гэта: Ці цнота зьяўляецца ведаю, ці нечым іншым?

МЭНОН: Выглядае, што мы маем вырашыць, якое пытаньне трэба дасьледзіць перш.

САКРАТАС: Ці не сказалі мы ўжо, што цнота зьяўляецца дабром і, ці не паложана будзе ў васнову, што яна – дабро?

МЭНОН: Напэўна.

САКРАТАС: Затым, калі існуе яшчэ якое-небудзь дабро, якое розьніцца ад веды, тады цнота можа быць ім; але, калі веда агортвае сабою кажнае дабро, тады мы знойдземся апраўданымі думаць, што цнота – веда.

МЭНОН: Гэтак ёсьць.

САКРАТАС: Гэта-ж цнота, якая чыніць нас добрымі?

МЭНОН: Так.

САКРАТАС: А калі добрымі, тады і карыснымі, бо-ж усё добрае прыносіць карысьць. Ці-ж ня гэтак?

МЭНОН: Так.

САКРАТАС: Затым цнота зьяўляецца карысналю?

МЭНОН: У пасьлядоўнасьці з тым, што́ мы ўжо сказалі, выходзіць, што так.

САКРАТАС: Паглядзімо цяпер, што́ гэта за рэчы, якія карыснымі для нас зьяўляюцца: здароўе і сіла, прыгожасьць і багацьце – усё гэта і падобнае мы называем карысным, ці ня гэтак?

МЭНОН: Так.

88 САКРАТАС: І ўсё-ж, часамі гэтыя рэчы могуць быць шкоднымі для нас; ці ня думаеш і ты гэтак?

МЭНОН: Але́.

САКРАТАС: Падумай, тады, што́ мусіць кіраваць гэтымі рэчамі, калі яны карыснымі маюць быць для нас, і што́, калі шкоднымі? Ці ня тое, што калі правільна тасуюцца, тады карыснымі зьяўляюцца, а калі няправільна – шкоднымі?

МЭНОН: Напэўна.

САКРАТАС: А цяпер разгледзім тое, што́ адносіцца да нашае душы. Называеш ты гэта разважнасьцю, справядлівасьцю, мужнасьцю, кемлівасьцю спасьцярогі, памятаньнем, шляхэтнасьцю і гэтак далей?

МЭНОН: Так, называю.

САКРАТАС: Паўзірайся, што́ з гэтага ня творыць сабою навукі і ёсьць нечым іншым; яно часамі прыносіць карысьць, а часамі шкоду. Для прыкладу, мужнасьць, калі яна ня мае нічога супольнага з розумам, стаецца звычайнаю адвагаю; калі чалавек бяз

розуму стаецца адважным, ці-ж ня спрычыніць ён шкоду, і адважны з розумам, ня меціме карысьці?

МЭНОН: Так.

САКРАТАС: А ці-ж ня гэтаксама маецца рэч з разважнасьцю і спасьцярогаю? З розумам і ўзгадаваньне, і кажнае прадпрыняцьце чыну нясе з сабою карысьць, а бяз розуму – шкоду?

МЭНОН: Вельмі праўдзіва ты кажаш.

САКРАТАС: І наагул, усё, што душа прадпрыймае і церпіць, канчаецца, – калі мудрасьць кіруе ёю, – шчасьліва, але, калі яна знаходзіцца пад кіраўніцтвам бязмыснасьці – непаводжаньнем.

МЭНОН: Выглядае гэта праўдзіва.

САКРАТАС: Калі, затым, цнота зьяўляецца вартасьцю душы, і да гэтага яшчэ карыснаю, дык яна мусіць быць мудрасьцю або разважнасьцю, бо ўсё, што адносіцца да душы, само ў сабе ані карысным ёсьць, ані шкодным, але яны могуць быць учыненымі карыснымі або шкоднымі, дзякуючы розуму або бязмыснасьці. І з гэтае прычыны, калі цнота мае быць карыснаю, яна мусіць быць мудрасьцю.

МЭНОН: І мне гэтак выдаецца.

САКРАТАС: І іншае дабро, як багацьце і гэтак далей, аб чым мы толькі-што гаварылі, яны часамі зьяўляюцца дабром, а часамі злом; яны стаюцца карыснымі або шкоднымі у залежнасьці ад таго, як душа кіруе імі – правільна ці няправільна. Гэтак і рэчы самое душы зьяўляюцца карыснымі, калі знаходзяцца пад уплывам розуму, і шкоднымі – пад уплывам бязмыснасьці.

МЭНОН: Запраўды, так.

САКРАТАС: Але мудрая душа кіруе ўсім гэтым правільна, а нямудрая – няправільна?

МЭНОН: Але.

САКРАТАС: Ці-ж ня можна сказаць гэтага наагул і
пра чалавека? Усе іншыя рэчы залежаць ад душы, але
тое, што ў душы, залежыць ад розуму, калі толькі 89
яно мае быць дабром; і мудрасьць, як разумеецца тут,
мае быць тым, што карысным ёсьць. Затым мы кажам,
што цнота карыснаю ёсьць?

МЭНОН: Напэўна.

САКРАТАС: І гэтым мы даходзім да выснаву, што цнота, у сваей цэласьці ці часткава, зьяўляецца розумам?

МЭНОН: Я думаю, Сакратас, што ты гаворыш вельмі трапна.

САКРАТАС: Калі гэта ёсьць трапна сказаным, тады добрыя ня ёсьць добрымі, дзякуючы натуры?

МЭНОН: Я думаю, што не.

САКРАТАС: Магло-б і гэтак быць: Калі-б людзі былі добрымі праз натуру, тады-б і ў нас знайшліся гэтакія, каторыя ўмелі-б адрозьніць сярод моладзі добрых з натуры, каторых мы, пасьля распазнаньня выдзельвалі-б і, як золата, перахоўвалі-б іх у замчышчы пад сям'ю пячацьцямі, каб ніхто іх нам не папсаваў, і, як толькі дайшлі-б да сілы веку, сталі-ся-б карыснымі для гаспадарства.

МЭНОН: Так, Сакратас, гэта быў-бы найболей трапны спосаб.

САКРАТАС: Але, калі добрыя людзі не стаюцца добрымі з натуры, тады што? - дарогаю навучаньня?

МЭНОН: Выглядае, што нямашака іншае альтэрнатывы, Сакратас. Гэта яшчэ выцякае і з нашае прадумовы: калі цнота - веданьне, тады можна яе навучыцца.

САКРАТАС: Так, запраўды; а што, калі нашая прадумова памылкаваю зьяўляецца?

МЭНОН: Але-ж яшчэ данядаўна выдавалася нам, што мы развважаем правільна.

САКРАТАС: Так; адно, што тут вымагаецца ня толькі, каб выдавалася нашае разважаньне правільным, але, каб яно і цяперака, і на прышласьць гэтакім асталося, калі выражаная думка мае супачыць на сваіх здаровых асновах.

МЭНОН: І што яшчэ? Што зьяўляецца прычынаю твайго нездаволеньня і сумніву, што цнота - гэта веда?

САКРАТАС: Я зараз скажу табе, Мэнон. Я ня ўхіляюся ад цьверджаньня, што, калі цнота зьяўляецца ведаю, яна можа быць навучанаю; але я баюся, што можа знайсьціся абаснаваньне сумнявацца, ці цнота зьяўляецца ведаю. Вось падумай цяперака: Калі цноты, - дый ня толькі цноты, але кажнае рэчы, - можна навучыцца, дык, як табе здаецца, ці не павінны тады быць вучыцелі і вучні?

МЭНОН: Ведама, павінны.

САКРАТАС: І наадварот, калі мы выходзім з заложаньня, што няма ані вучыцялёў, ані вучняў, дык ці ня будзе тады трапным выснаў, што гэтакае рэчы ня можна навучыцца?

МЭНОН: Так. Але ці думаеш ты, што няма вучыцялёў цноты?

САКРАТАС: Я часта дапытваўся, ці існуюць гэтакія вучыцялі і што ні рабіў, я ніколі ня мог знайсьці. І, ня гледзячы на гэта, я і далей шукаю, з шматлікімі іншымі людзьмі, асабліва з гэтакімі, якія, як мне здаецца, маюць дасьведчаньне ў гэтай справе. Вось хоць-бы цяперака, Мэнон, здарэньне хацела,

што знаходзіцца тут з намі і Анітос, якому мы апраўдана дамо магчымасьць далучыцца да нашых пошукаў, бо-ж і Анітос перад усім зьяўляецца сынам багатага і мудрага бацькі, Антэміёна, чалавека, які здабыў багацьце ня прыпадкава і не на дарозе атрыманьня ад каго-небудзь гасьцінца, падобна, як тэбанец Ісмэніяс, які нядаўна атрымаў багацьці Полікратэса, але дзякуючы ўласнай мудрасьці і старанасці; і да ўсяго гэтага, ён не зьяўляецца фанабэрыстым ці назойлівым, але скромным мужам і добраўзгадованым. І Анітоса ён добра выгадаваў і ўзгадаваў, як уважае большасьць атэнцаў, якія выбіраюць яго на самыя высокія становішчы. З такімі вось людзьмі варта і дасьледзіць, існуюць вучыцялі цноты, ці не, і, калі так - якія яны. Калі ласка, Анітос, памажы мне і твайму прыяцелю, Мэнону - правесьці досьлед і даведацца, якія здараюцца вучыцялі ў гэтым прадмеце. Паглядзі на справу гэтак: Калі-б мы захацелі Мэнона ўчыніць добрым лекарам, да якіх вучыцялёў паслалі-б мы яго? Ці не да лекараў?

АНІТОС: Напэўна, да лекараў.

САКРАТАС: А калі-б мы захацелі выкіраваць яго на добрага шаўца, ці не да шаўцоў, тады?

АНІТОС: Так.

САКРАТАС: Гэтаксама і ў іншых выпадках?

АНІТОС: Але́.

САКРАТАС: Скажы мне вось яшчэ што: калі мы, імкнучыся ўчыніць Мэнона лекарам, вы́правім яго да лекараў, паводля нашых словаў, будзе гэта правільным? А, мяркуючы гэтак, ці-ж мы ня цьвердзім, што пастýпім разумна, пасылаючы яго да людзей, якія займаюцца гэтым мастацтвам, - а не да тых, якія ім не займаюцца, - і да тых, што бяруць за гэта плату, апавяшчаючы сябе вучыцелямі для ўсіх, што жадаюць сабе вучыцца ў іх? І, калі ўсё гэта будзе нашым меркаваньнем, ці ня будзем мы апраўданымі, пасылаючы яго?

АНІТОС: Будзем.

САКРАТАС: І ці ня гэтак рэч маецца з ігрою на флейце і з усімі іншымі мастацтвамі? Бо і запраўды, будзе гэта вялікім незразуменьнем, калі тыя, што жадаюць учыні́ць каго-небудзь флейцістым, не захочуць паслаць яго да таго, што прыракае навучыць яго гэтага мастацтва і бярэ плату, а вышлюць яго вучыцца да людзей, якія не прэтэндуюць на становішча вучыцялёў і нікога не навучылі ў гэтым мастацтве, якое, паводля нашае думкі, пасланы намі ма́е займець у іх. І як табе здаецца, ці ня будзе гэта вялікім незра-

зуменьнем?

АНІТОС: Так, на Зэуса, дый да гэтага яшчэ і нясьведамасьць.

9I САКРАТАС: Добра кажаш, і я знаходжу, што ты зьяўляешся ў стане раіцца са мною адносна вось гэтага нашага прыяцеля Мэнон. Бо ён даўно ўжо гаворыць мне, што імкнецца займець гэтакую мудрасьць і цноту, дзякуючы якой людзі ўпраўляюць домам і местам, апякуюцца сваімі бацькамі і ведаюць як прыняць і правесьці суродзічаў як і чужынцаў так, як належыцца чыніць гэта добра ўзгадаванаму чалавеку. Вось разваж цяперака і скажы, да каго мы маем выслаць яго, каб ён мог навучыцца цноты? Ці нашыя папярэднія меркаваньні не паказваюць ясна, што мы павінны выслаць яго да тых, каторыя апавяшчаюць сябе вучыцелямі і запэўніваюць кажнага з гэльленаў, жадаючага сабе вучыцца ў іх за вызначаную загадзя імі самымі плату?

АНІТОС: Каго ты маеш на ўвазе, Сакратас?

САКРАТАС: Ты-ж напэўна ведаеш, што гэта тыя, каго людзі называюць сафістымі?

АНІТОС: О Гэраклес! І ня прыводзь іх на ўспамін, Сакратас! Я толькі спадзяюся, што ніхто з маіх сваякоў або хатніх ці прыяцеляў, тутэйшых ці з чужынцаў, ня будзе нагэтулькі нямудрым, каб пайсьці да іх і даць сябе зьнішчыць: бо-ж сафістыя - гэта выразная загуба і няшчасьце для тых, што зь імі вядуцца.

САКРАТАС: Што ты кажаш, Анітос? З усіх людзей, каторыя цьвердзяць, быццам ведаюць як учыніць людзям дабро, ты манішся сказаць, што яны зьяўляюцца адзінымі, каторыя ня толькі-што ня чыняць ім дабро, як іншыя, але зусім наадварот і губяць тых, каго ім даверылі? І за гэтую шкоду, якую яны спрычыняюць людзям, яны яшчэ маюць нахабнасьць дамагацца грошай? Я не магу паверыць табе. Бо я ведаю, што адзін толькі Протаґорас, каторы са свае мудрасьці здабыў болей грошай, чымся слаўны Фідзіяс, які стварыў гэтакія шляхэтныя творы і яшчэ дзесяць іншых разьбяроў у дадатак. Як гэта можа быць? Тыя, што падчыняюць старыя курпякі або латаюць вопратку, чынячы гэтыя рэчы горшымі, чымся прынялі да папраўы, не прабудуць нават і трыццаці дзён, ня будучы заўважанамі, і ў неўзабаве памерлі-б з голаду, калі-б гэтак паступалі, як мог паступаць Протаґорас звыш сарака гадоў і неспасьцярожна для ўсяе Гэльляды псаваць тых, што мелі зь ім дачыненьне, адпускаючы іх у горшым стане ад таго, у якім прыняў іх? Бо, калі я не памыляюся, памер ён на сямідзесятым годзе свайго

жыцьця, сорак з каторых былі прысьвечаныя практы-
цы ягонага мастацтва. І на працягу ўсенькага гэта-
га часу цешыўся ён добраю славаю, якая жыве аж да
сягоньняшняга дня; дый ня толькі Протаґораса, але
рагэтаксама многіх іншых - і тых, што радзіліся ра-
ней за яго, як і тых, што жывуць сягоньня. Як-жаж 92
мы можам сказаць, выходзячы з тваіх словаў, што зво-
дзяць яны сьведама ці нясьведама маладых людзей.
Ці-ж ня прызнацімем мы барджэй бязмыснымі тых, ка-
го некаторыя апавяшчаюць наймудрэйшымі зь людзей?

АНІТОС: Зусім не бязмысныя яны! Не, Сакратас. Барджэй маладыя людзі, што даюць ім грошы; яшчэ болей бязмыснымі зьяўляюцца сваякі, якія пад іхную апеку аддаюць гэтую моладзь, і ўжо найболей бязмыснымі: дык гэта будуць месты, што адчыняюць ім свае брамы, а ня вытурваюць кажнага зь іх, каторы займаецца гэтакаю справаю - будзе гэта грамадзянін ці чужынец.

САКРАТАС: Ці ня спрычыніў табе хто-небудзь з сафістых крыўду, калі ты ўжо гэтак гневаешся на іх?

АНІТОС: Запэўніваю цябе, што не; і ані мне, ані каму-небудзь з маіх блізкіх, дый я-б ніколі не дазволіў на гэта.

САКРАТАС: Дык ты-ж зусім ня ведаеш гэтых людзей?

АНІТОС: І не жадаю сабе гэтага.

САКРАТАС: Тады, мой дружа, як ты можаш ведаць усю гэтую справу - добраю яна ёсьць ці дрэннаю, калі ты ў адносінах да яе нясьведамым астаешся?

АНІТОС: Вельмі проста. Я ўжо ведаю што гэта за людзі, сьведамы ці нясьведамы адносна іх.

САКРАТАС: Ты мусіш быць прадказальнікам, Анітос, бо з таго, што ты сказаў, мне ня ясным ёсьць, як ты можаш агарнуць справу, калі ты ня ведаеш яе. Я не хачу даведацца ад цябе пра вучыцялёў, якія сапсуюць Мэнона - хай сабе будуць, калі ты хочаш, - сафістымі; я толькі прашу цябе, каб ты сказаў яму, хто ёсьць у гэтым вялікім месьце, каторы навучыць яго, як стацца слаўным у цноце, якую вось толькі-што апісаў я. Ён бо зьяўляецца прыяцелем тваесям'і і ты-ж не адмовіш яму ў гэтым.

АНІТОС: Чаму-ж ты сам не скажаш яму?

САКРАТАС: Я скажу яму пра тых, якія зьяўляюцца вучыцелямі ў гэтым прадмеце, але з тваіх словаў даведваюся, што я разыходжуся з запраўднасьцю; а ты, магчыма, кажаш да рэчы. Затым я жадаю сабе, каб ты са свае стараны сказаў яму, да каго з пасярод атэнцаў мае ён пайсьці. Калі ласка, якое імя ты назавеш?

АНІТОС: Дзеля чаго ён мае пачуць імя аднаго чалавека? Кагоколечы з годных і добрых атэнцаў ён спаткае, той напэўна ляпей за сафістых дапаможа яму стацца лепшым, калі толькі ён паслухаецца яго.

САКРАТАС: Думаеш ты, што ўсе гэтыя годныя і добрыя самі сабою дайшлі да гэтага стану, ня вучачыся ад нікога, і пры гэтым зьяўляюцца здольнымі ўжо
93 іншых вучыць у прадмеце, які самыя не пазналі?

АНІТОС: Я ўважаю, што яны навучыліся ад людзей папярэдняга пакаленьня, якія жылі раней за іх. Ці-ж ня было раней добрых людзей у гэтым месьце?

САКРАТАС: О так, Анітос; шматлікія добрыя дзяржаўныя мужы, якія разьбіраліся ў грамадзкіх справах, заўсёды тут былі, і цяперака ёсьць іх ня мала. Але пытаньне астаецца, ці былі яны добрымі вучыцялямі свае ўласнае цноты; - справа ня ў тым, ці былі або цяперака ёсьць тут добрыя людзі, але пытаньне дыскутуецца: ці можна навучыцца цноты. Зноў-жа, ці хочам мы сказаць, што добрыя людзі нашага часу і іншага часу ведалі, як пераказаць цноту іншым, якую яны самі мелі; або, ці зьяўляецца цнота рэчаю, якую немагчыма пераказаць адным чалавекам іншаму? Гэта і ёсьць пытаньне, наваксл якога мы з Мэнонам змагаемся. Паглядзі на справу з твайго пункту гледжаньня. Ці ня згодзішся ты з тым, што Тэмістоклес быў добрым чалавекам?

АНІТОС: Напэўна; ня было лепшага за яго.

САКРАТАС: Згэтуль, калі ўжо і быў хто-небудзь добрым вучыцелем свае ўласнае цноты, дык ён перад усім?

АНІТОС: Так, напэўна, - калі ён толькі гэткім хацеў быць.

САКРАТАС: Думаеш ты, што ён не хацеў, каб іншыя сталіся добрымі і годнымі людзьмі, і ў вапрычонасьці - ягоны ўласны сын? А мо́ думаеш ты, што ён зайздросьціў сыну і наўмысьня не параказаў яму тае цноты, з прычыны якое сам цешыўся славаю? Ці-ж ня чуў ты, што Тэмістоклесавы ўласны сын Клеофантос быў слаўным гарцоўнікам на кані. Ён патрапіў проста стаяць на кані ў бегу і, стоячы гэтак, кідаць кап'ё, дый выконваў ці мала іншых цудоўнасьцяў? І ўсё гэта пераказаў яму ягоны бацька і ўдасканаліў яго так, як толькі магчыма для добрага майстры. Дый што? - ня чуў ты пра ўсё гэта ад старшых людзей?

АНІТОС: Чуў.

САКРАТАС: Ніхто, тады, ня можа папракаць натуру ягонага сына, што яна няпрыдатнаю была?

АНІТОС: Магчыма, ня можа.

САКРАТАС: Але ці чуў ты ад каго-небудзь, - хай сабе ад старога ці маладога, - што Клеофантос, сын Тэмістоклеса, быў мудрым і добрым чалавекам, як яго бацька?

АНІТОС: Не, ня чуў.

САКРАТАС: І, калі цноты ня можна навучыцца, тады мы павінны быць тае думкі, што Тэмістоклес хацеў усю веду пераказаць свайму сыну, але ня было ў ягоным замеры, каб у той мудрасьці, - у якой сам ён быў мудрым, - сын пайшоў далей за сваіх суседзяў?

АНІТОС: На Зэуса, я думаю, што ня было.

САКРАТАС: Гэтакім вучыцелем у прадмеце цноты і ёсьць той, адносна каторага ты цьвердзіш, што ён зьяўляецца найлепшым з-пасярод нашых продкаў. Вазьмем іншы прыклад - Арыстэідэс, сын Лісімахоса. Ці 94
ня прызнацімеш, што быў ён добрым чалавекам?

АНІТОС: Прызнаціму.

САКРАТАС: Ці-ж не запэўніў і ён свайму сыну Лісімахосу найлепшую навуку, якую толькі сярод атэнцаў можна было атрымаць пры помачы вучыцялёў? І які-ж вынік быў гэтага? Ці зьяўляецца ён хоць крышку лепшым за якога-небудзь іншага? Ты-ж сам меў зь ім дачыненьне і ведаеш які ён. Або вазьмі хоць гэтага Пэрыклеса, чалавека зусім выдатнага ў мудрасьці; і ён, як табе ведама, узгадаваў двух сыноў - Паралёса і Ксантыппоса.

АНІТОС: Я ведаю.

САКРАТАС: Дык і гэта ты ведаеш, што ён вывучыў іх коннай язьдзе гэтак, што яны не паддадуцца іншым атэнцам; гэтаксама і ў мастацтве му́зыкі, і ў ґімнастыцы, і ўва ўсіх іншых мастацтвах - у гэтым дачыненьні яны былі на ўзроўні найлепшых - і, ці-ж ня меў ён жаданьня ўчыніць іх найлепшымі людзьмі? Не, ён мусіў мець гэтакае жаданьне. Але цноты, як я ўважаю, немагчыма навучыцца. І, каб ты ня думаў, быццам няздольнымі ў гэтым прадмеце знайшліся толькі нешматлікія і самыя найгоршыя з-пасярод атэнцаў, дык прыпомні сабе, што Тукідзідэс гэтаксама ўзгадоўваў двух сыноў - Мэлесіяса і Стэфаноса, якім, апрача адукацыі ў іншых рэчах, запэўніў добрую падрыхтову і да змаганьня, у якім яны перавышалі ўсіх атэнцаў, а гэта затым, што аднаго ён аддаў у навуку да Ксанці́яса, а іншага - да Эўдо́роса, бо ў тым часе тыя ўважаліся за найлепшых змагароў. Па́мятаеш ты іх?

АНІТОС: Так, я чуў пра іх.

САКРАТАС: Ці можа быць цяперака сумліў, што Тукідзідэс навучыў сваіх сыноў усяго таго, што выма-

гала грашовае платы, але вось, як стацца добрымі людзьмі, – а гэта не вымагае грашовых аплатаў, – ён іх і не навучыў, калі наагул гэтага можна навучыцца. Але магчыма Тукідзідэс быў звычайным чалавекам і ня меў шмат прыяцеляў сярод атэнцаў як і саюзьнікаў. Не, ён паходзіў зь вялікага дому і быў чалавекам уплывовым у нашым месьце як і ў цэлай Гэльлядзе, і, калі-б цноты можна было навучыцца, дык ён-бы знайшоў каго-небудзь сярод атэнцаў або чужынцаў, хто-б мог учыніць зь ягоных сыноў добрых людзей, калі з прычыны грамадзкіх абавязкаў ён сам ня мог знайсьці часу. Затым, паважаны Анітос, цноты ня можна навучыцца.

АНІТОС: Сакратас, як мне здаецца, ты сьпяшаешся дрэнна выразіцца пра людзей. І я хацеў-бы параіць табе, калі ты толькі паслухаешся, каб ты быў болей асьцярожным тут. Магчыма няма іншага места, у якім ня было-б лягчэй спрычыніць людзям зло, чымся дабро, а тутака тымболей. Але я думаю, што ты і сам ве-
95 даеш гэта.

САКРАТАС: Мне здаецца, Мэнон, што Анітос злуецца на мяне. А мо́ ён і праўды злуецца, бо, папершае, ён думае, што я псую ўсіх гэтых людзей, а, па-другое, ён думае, што ён сам знаходзіцца ў іх ліку. Цяперака ён яшчэ ня ведае, але, калі аднойчы ён даведаецца, што гэта значыць псаваць людзей, тады ён даруе мне. А тымчасам скажы мне, Мэнон, у вас-жаж ёсьць добрыя і годныя людзі?

МЭНОН: Пэўна, што ёсьць.

САКРАТАС: І зьяўляюцца яны ахвочымі вучыць маладых людзей? і называюць сябе вучыцелямі, і кажуць, што цнота можа быць прадметам навучаньня?

МЭНОН: Не, запраўды не, Сакратас, але часамі ты можаш пачуць ад іх, што цнота можа быць навучанаю, а часам – што не.

САКРАТАС: І маем мы іх прызнаць за вучыцялёў, калі яны нават разыходзяцца ў гэтым між сабою?

МЭНОН: Я думаю, што не, Сакратас.

САКРАТАС: І што ты думаеш адносна сафістых, каторыя адзінымі зьяўляюцца вучыцелямі? Ці выдаюцца яны табе вучыцелямі цноты?

МЭНОН: З гэтае прычыны, Сакратас, я часта дзіўлюся, што Ґорґіяс ніколі не прыракаў навучаць цноты: ён нават сам сьмяецца з тых, што прыракаюць. Ён думае, што людзі павінны вучыцца – як гаварыць.

САКРАТАС: Тады думаеш ты, што сафістыя не зьяўляюцца вучыцелямі?

МЭНОН: Я не магу сказаць табе, Сакратас; я маю

тое самае ўражаньне, як і іншыя людзі, часамі я думаю, што так, часамі – не.

САКРАТАС: Ці ведаеш ты, што ня толькі табе і іншым палітычным дзеячам часамі выдаецца, што цноты можна навучыцца, а чысамі – што ня можна, але і паэта Тэоґніс выказвае вельмі падобную думку?

МЭНОН: У якіх вершах?

САКРАТАС: У элеґіях, там дзе ён кажа:

Хлебам ламіся зь піцьцём пры стале за
сяброўства ізь імі,
Перад магутнымі ў ведзе пахіліш ты голаў сваю.
З добрым – сам добрыя рэчы пазнаеш, а з дрэнным –
Згубіш і той яшчэ розум, які астаўся ў цябе.

Заўваж толькі, што тут ён гаворыць пра цноту, быццам яе можна навучыцца?

МЭНОН: Ведама.

САКРАТАС: Ідучы далей, на іншым месцы ён кажа прыблізна гэтак:

Каб зразуменьне ўдалося ім выкрыць і ў чалавека
ўкласьці,

дык ён уважае:

Выпала-б многа ўзнаньня за гэтакі велічны чын,–

для таго, хто змог-бы гэта даканаць; і далей:

Дрэнных дзяцей ня было-б у добрых бацькоў:
Слова разумных яны-б успрынялі. Аднак-жа, 96
Праз навучаньне адно, ня можа лепшым стацца
чалавек.

Бачыш, як пра тую самую рэч ён тутака гаворыць зусім наадварот?

МЭНОН: Зусім выразна.

САКРАТАС: Ці можаш ты назваць якую-небудзь іншую галіну навучаньня, у якой тых, што выдаюць сябе за вучыцялёў, ня толькі не празнавалі-б за вучыцялёў, але ўважалі-б іх за нясьведамых і неразумеючых таго прадмету, у межах якога апавяшчаюць самых сябе за вучыцялёў? А можа ёсьць там нешта з таго, адносна чаго нават узнаныя за старанных і кемных вучыцялёў, часамі кажуць, што дадзеная рэч можа быць навучанаю, а часамі – не? Ці можаш ты назваць, у поўным сэнсе гэтага слова, вучыцялямі тых, каторых сама думка знаходзіцца ў гэткай няпэўнасьці?

МЭНОН: На Зэуса, ніколі-б я ня ўчыніў гэтага.

САКРАТАС: Але, калі ані сафістыя, ані ўзнаныя за вучыцялёў не зьяўляюцца вучыцялямі, дык ці-ж не

стаецца ясным, што ўсе іншыя гэтаксама імі ня будуць?
МЭНОН: Я думаю, што не.
САКРАТАС: І, калі няма вучыцялёў, дык няма і вучняў?
МЭНОН: Я думаю, што рэч гэтак і маецца, як ты кажаш.
САКРАТАС: І мы згадзіліся, што ня можа быць навучанаю рэч, калі ня існуе для яе ані вучыцялёў, ані вучняў?
МЭНОН: Так, мы згадзіліся.
САКРАТАС: Затым, мы не спатыкаем нідзе вучыцялёў цноты?
МЭНОН: Не, не спатыкаем.
САКРАТАС: І, калі няма вучыцялёў - няма і вучняў?
МЭНОН: Выглядае гэтак.
САКРАТАС: Тады, цноты ня можна навучыцца?
МЭНОН: Не, калі мы правільна вялі наш досьлед. Але я не магу паверыць, Сакратас, каб наагул ня было добрых людзей. Зноў-жа, калі яны існуюць, дык як яны сталіся гэтакімі?
САКРАТАС: Я баюся, Мэнон, што ты і я - мы не зьяўляемся сваеасблівымі людзьмі, і, што Ґорґіяс ня быў адпаведным вучыцелем для цябе, ані Продікос для мяне. Пэўна, мы павінны зірнуць на нас самых, і разглéдзецца навакол, каб знайсьці каго-небудзь, хто-б у пэўным сэнсе мог дапамагчы нам стацца лепшымі. Кажучы гэтак, я маю на ўвазе нашую папярэднюю дыскусыю, у якой ніхто з нас ня выказаў спасьцярогі, што правільнае і добрае дзеяньне магчымым ёсьць для людзей, якія кіруюцца ня толькі здабытымі ведамі. І запраўды, калі гэтага ня ўзяць пад увагу, дык нам бадай-што не давядзецца пазнаць, якім спосабам наагул яны стаюцца добрымі людзьмі.
МЭНОН: Што ты маеш на ўвазе, Сакратас?
САКРАТАС: Я мáю на ўвазе, што добрыя людзі абавязкава павінны быць карыснымі. Былі-ж мы слушнымі
97 ў прызнаньні гэтага, так?
МЭНОН: Алé.
САКРАТАС: І, выходзячы з залажэньня, што яны будуць карыснымі, толькі тады, калі трапна павядуць нашыя справы, - дык наш выснаў правільным быў?
МЭНОН: Так.
САКРАТАС: Але тое, што чалавеку немагчыма правільна весьці, ня маючы зразуменьня, мусіць сьцьвердзілі мы памылкова?
МЭНОН: Што ты маеш на ўвазе, кажучы, "правільна"?
САКРАТАС: Я зараз скажу табе. Прымем, што чалавек ведае дарогу ў Лярысу або ў якое-небудзь іншае места, сам туды пойдзе і іншых павядзе, дык павя-

дзе іх трапна і правільна, ці ня так гэта?

МЭНОН: Напэўна.

САКРАТАС: А як, калі чалавек толькі адно правільнае ўяўленьне мае пра гэтую дарогу, але сам ніколі не хадзіў па ёй і ня ведае яе, дык як табе здаецца, ці-ж ня можа правільна павесьці іншых?

МЭНОН: Ведама, што можа.

САКРАТАС: Як доўга ён толькі правільнае ўяўленьне мае пра што-небудзь, - але ня веданьне, як у таго перашага, - дык ён адно здагадваючыся, але не пазнаўшы праўды розумам, будзе весьці ня горай, чымся той, хто ведае.

МЭНОН: Зусім ня горай.

САКРАТАС: Праўдзівае ўяўленьне вядзе нас да правільных дзеяньняў зусім ня горай, чымся розум. І гэтага вось якраз мы і не ўзялі пад увагу, калі праводзілі разважаньні адносна натуры цноты, калі мы казалі, што веда зьяўляецца адзіным кіраўніком правільнага чыну; да гэтага-ж бо вядзе і правільнае ўяўленьне.

МЭНОН: Выглядае гэтак.

САКРАТАС: Тады правільнае ўяўленьне не зьяўляецца меней карысным, чымся веда?

МЭНОН: Розьніца, Сакратас, знаходзіцца толькі ў тым, што той, хто мáе веданьне, заўсёды асягне мэту, а той, хто кіруецца правільным уяўленьнем, часамі асягвае мэту, а часамі - не.

САКРАТАС: Як ты разумееш гэта? Ці можа той памыляцца, хто мае правільнае ўяўленьне, як доўга ён мае правільнае ўяўленьне?

МЭНОН: Я прызнаю пераконваючую сілу твайго доваду, Сакратас, і затым дзіўлюся чаму вéдзе аддаецца перавага перад уяўленьнем - або, чаму наагул яны розьняцца між сабою.

САКРАТАС: Ты-ж ведаеш. Ці маю я паясьніць табе гэтае зьдзіўленьне?

МЭНОН: Калі ласка, зрабі гэта.

САКРАТАС: Ты-б ня дзівіўся, калі-б ты калі-небудзь меў нагоду бачыць Дайдалёсавыя статуі - дый вельмі магчыма, што ў вашым краю нямашака іх.

МЭНОН: І што супольнага маюць яны з нашым пытаньнем?

САКРАТАС: Бо яны маюць тое да сябе, што - калі яны, статуі, звязаныя - астаюцца на месцы, а разьвязаныя - уцякаюць.

МЭНОН: Ну, дык што?

САКРАТАС: Я маю на думцы, што яны не прадстаўляюць сабою вялікае вартасьці, калі яны астаюцца на

волі: яны разьбягуцца, як разьбягаюцца нявольнікі. А вось мець іх, калі яны зьвязаныя – тады яны шматцэнныя для нас, бо-ж вельмі прыгожымі працамі яны зьяўляюцца. І на што я гавару гэта? Бо гэта зьяўляецца жывою ілюстрацыяю характару праўдзівых уяў-
98 леньняў: як доўга яны астаюцца пры нас, яны зьяўляюцца прыгожымі і карыснымі, адно толькі, што яны ня хочуць доўга аставацца з намі і ўцякаюць з душы чалавека, і з гэтае прычыны іхная вартасьць другарадная пакуль яны ня будуць зьвязанымі абаснаваньнямі прычынаў; і гэтае зьвязаньне, дружа мой Мэнон, якраз і ёсьць прыпамінаньнем, як мы і прышлі да суўзгоднасьці ў гэтай дэфініцыі. Але, калі яны зьвязаныя, – у першую чаргу, – яны атрымліваюць характар веды; па-другое, – яны астаюцца стойкімі. Вось чаму веда зьяўляецца болей цэннаю, чымся правільнае ўяўленьне, бо яна – зьвязаная.

МЭНОН: На Зэуса, Сакратас, тое, што ты кажаш, вельмі падобным выдаецца да праўды.

САКРАТАС: Дый сам я гавару баржджэй у нясьведамасьці, я адно здагадваюся. І ўсё-ж веданьне розьніцца ад правільнага ўяўленьня, ня гледзячы на здагад ува мне. Ня шмат рэчаў існуе, пра якія я магу сказаць, што ведаю, але гэтая напэўна зьяўляецца адною зь іх.

МЭНОН: І правільна ты кажаш, Сакратас.

САКРАТАС: Дый ці-ж ня так гэта ёсьць, што, паймення, калі правільнае ўяўленьне выконвае якую-небудзь справу, яно выконвае яе ня горай, чымся веданьне?

МЭНОН: Тут зноў, Сакратас, ты праўду кажаш.

САКРАТАС: Тады правільнае ўяўленьне ані крышку ня горшае ад веданьня, або меней карысным у дзейнасьці; ані гэтаксама чалавек, які мае правільнае ўяўленьне, горшым зьяўляецца ад таго, хто мае веду?

МЭНОН: Гэтак і ёсьць.

САКРАТАС: І мы згадзіліся з тым, што добры чалавек – карысны чалавек?

МЭНОН: Так.

САКРАТАС: Назіраючы, тады, што добрыя людзі стаюцца добрымі і карыснымі для гаспадарстваў ня толькі затым, што яны маюць веду, але гэтаксама і з прычыны правільнага ўяўленьня, тады ані веда, ані правільнае ўяўленьне не даюцца людзям натураю і не здабываюцца... А мо ты тае думкі, што адно зь іх даецца натураю?

МЭНОН: Я ня думаю гэтак.

САКРАТАС: Калі яны не з натуры, дык і добрыя лю-

дзі стаюцца добрымі не з натуры?

МЭНОН: Напэўна,не.

САКРАТАС: Калі не з натуры, тады мы заняліся пытаньнем, ці ня можна гэтага навучыцца?

МЭНОН: Але́.

САКРАТАС: І думалі мы, што можна, калі цнота - гэта мудрасьць?

МЭНОН: Думалі.

САКРАТАС: І, калі яе можна навучыцца, дык цнота - гэта мудрасьць?

МЭНОН: Напэўна.

САКРАТАС: І, калі-б былі вучыцялі цноты, дык можна было-б навучыцца яе, а калі не - дык не?

МЭНОН: Рэч гэтак маецца.

САКРАТАС: Але мы прыйшлі да сузгоднасьці, што няма вучыцялёў цноты?

МЭНОН: Так.

САКРАТАС: Гэтаксама прыйшлі мы да сузгоднасьці, што яе ня можна навучыцца і, што яна не зьяўляецца мудрасьцю?

МЭНОН: Ага́.

САКРАТАС: Але, што яна ёсьць добраю рэчаю мы згадзіліся?

МЭНОН: Згадзіліся.

САКРАТАС: А ці ёсьць добрым і карысным тое, што́ правільна кіруе намі?

МЭНОН: Напэўна.

САКРАТАС: І трапна кіраваць намі могуць толькі 99
гэтыя дзьве рэчы - запраўднае ўяўленьне і веда; чалавек, які мае адно і другое, кіруецца правільна: бо рэчы, што здараюцца з прычыны здарэньня, не здараюцца з прычыны людзкага кіраўніцтва; але тое, чым правільна чалавек кіруе - гэта запраўднае ўяўленьне і веда.

МЭНОН: І мне гэтак здаецца.

САКРАТАС: Але, калі цноты ня можна навучыцца, тады выходзіць, што яна ня ёсьць ведаю.

МЭНОН: Ясна, што не.

САКРАТАС: Тады зь дзьвюх добрых і карысных рэчаў, адна, якая зьяўляецца ведаю, адпадае і ня можа быць бранаю пад увагу пры выбары кіраўніцтва дзяржаўных справаў.

МЭНОН: І мне здаецца, што не.

САКРАТАС: Затым, не з прычыны якое-небудзь мудрасьці або, што яны мудрацамі былі, Тэмістоклес і тыя іншыя, каторых успомніў Анітос, кіруюць гаспадарствамі. Гэта і было прычынаю, чаму немагчымым для іх было ўчыніць іншых падобнымі да сябе - бо

яны самыя ня сталіся тым, чым яны былі, дзякуючы веданьню.

МЭНОН: Гэта вельмі праўдападобна, Сакратас.

САКРАТАС: Калі не дзякуючы веданьню, дык толькі, дзякуючы трапным ўяўленьням дзяржаўныя мужы вядуць свае месты правільна. Мудрасьцю-ж сваею яны ня розьняцца ад прадказальнікаў і боганатхнёных перакаэчыкаў аракулу; бо яны і прадказальнікі кажуць праўду, але нічога ня ведаюць з таго, што яны гавораць.

МЭНОН: Вельмі магчыма, што так гэта ёсьць.

САКРАТАС: І ці-ж ня будзе на месцы, Мэнон,назваць боскімі тых людзей, каторыя хоць і ня кіруюцца розумам, а ўсё-ж даходзяць да вялікіх асягненьняў у тым, што яны чыняць і гавораць?

МЭНОН: Зусім на месцы.

САКРАТАС: Тады слушна мы называем боскімі тых, пра каго толькі-што мы гаварылі - прадказальнікаў, перакэчыкаў аракулу і ўсіх іншых стваральнікаў. Так, і дзяржаўных мужоў можам назваць боскімі і асьвечанымі, будучы натхнёнымі праз бога, каторыя ў гэтых абставінах прамаўляюць вялічэзнымі словамі, хоць самыя ня ведаюць, што яны гавораць.

МЭНОН: Так.

САКРАТАС: Гэтаксама і жанчыны, Мэнон, - добрых людзей называюць боскімі, і ляконцы, - калі яны хваляць нейкага заслужанага мужа, кажыць: "Муж гэты - боскім ёсьць".

МЭНОН: І я думаю, Сакратас, што яны трапна выражаюцца, хоць, магчыма, наш Анітос злуецца на цябе за тое, што ты гэтак гаворыш.

САКРАТАС: З гэтае прычыны, Мэнон, я найменей турбуюся. Дый што да Анітоса, дык мы яшчэ мецімем нагоду гаварыць зь ім. А цяперака, падсумоўваючы наш досьлед, і, калі мы трапна агарнулі рэч, вынік можа быць такі, што цнота не атрымліваецца з натуры і не здабываецца дарогаю навучаньня, але шляхам атрыманьня ад Бога інстынкту ў напрамку цноты. Інстынкт гэты не саправаджаецца розумам, хіба што знойдзецца між дзяржаўных мужоў гэтакі, які акажацца здольным учыніць дзяржаўным чалавекам іншага. І, калі-б гэтакі знайшоўся, дык пра яго гэтак гаварылася-б паміж жывымі, як Гомэр кажа пра Тэірэзіяса сярод памершых: Бо-ж паэта пра яго кажа, што "адно ён з розумам, а ўсе іншыя бязмыснымі ценямі лунаюць". Гэтакі чалавек зь ягонаю цнотаю быў-бы сярод нас, як рэчаіснасьць сярод ценяў.

МЭНОН: Найпрыгажэй сказана, Сакратас.

САКРАТАС: Тады, Мэнон, у завяршэньні нашага до-

съледу можна сказаць, што цнота зьяўляецца ўдзелам мужных людзей, дзякуючы дару ад Бога. І даведаемся мы пра гэтую праўду тады толькі, калі, перад пытаньнем, як цнота даецца, мы ўчынім угляд у запраўдную існасьць цноты. Я баюся, што мне ўжо час ісьці, а ты - пераканай цяперака свайго прыяцеля Анітоса ў тым, у чым ты сам пераканаўся, каб ён болей памяркоўным стаўся. Бо, калі ты яго пераканаеш, аддасі добрую ўслугу атэнскім людзям.

Ґэйнсвільл, Флярыда

10 верасьня 1975 г.

У ТЫМ-ЖА ПЕРАКЛАДЗЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

ДЫЯЛЁГІ ПЛЯТОНА:

КНІГА ПЕРШАЯ

Абарона Сакратаса
Крытон
Файдон

КНІГА ДРУГАЯ

Сымпозыён
Іён
З дадаткам кароткага Грэцка-беларускага слоўніка

КНІГА ТРЭЙЦЯЯ

Ґорґіяс
З дадаткам Грэцка-беларускага слоўніка

КНІГА ЧАЦЬВЕРТАЯ

Протаґорас
Гіппіяс вялікшы
З дадаткам нарысу др праф. Ґільбэрта Маррэйя
п.т. "Вартасьць Грэцыі для будучыні сьвету"

КНІГА ПЯТАЯ

Пармэнідэс
Мэнон
З аглядам зьместу дыялёгаў

Выпісваць:

**John Piotrowski**
**1716 NE 7th Terrace**
**Gainesville, Florida 32601**
*U.S.A.*

Да дыялёгу ПАРМЭНІДЭС

Бач. 39. ...Кефалёс... - няведамая бліжэй постаць.

...ў Клязомэнах... - Клязомэны - старажытнае места ў заходняй частцы Малое Азыі, бацькаўшчына Анаксаґораса.

...з Адэімантосам і Ґляўконам... Адэіматос і Ґляўкон - два родныя браты Плятона.

...Антыфон... сын Пірылямпэса.

...Пірылямпэс... - бацька Антыфона, другі муж маткі Плятона, Пэрыктыёны; Плятон, Адэімантос і Ґляўкон былі сынамі Арыстона - першага мужа Пэрыктыёны.

...Пітодорос... ведамы нам як прыяцель філёзафа Зэнона і пераказчык тае гутаркі, якая адбылася ў сузґроньні Пармэнідэса, Зэнона, Сакратаса і Арыстотэлеса.

Бач. 40. ...ў Мэліце... Мэліта - назоў аднаго з дэмосаў, на якія дзялілася Аттыка; /беларускі роўнаважнік: павет, ґміна, мястэчка, вёска.../.

...Арыстотэлес... ведамы нам, што быў адным з Трыццаці; яго ня трэба ўтоесамліваць зь ведамым і слаўным філёзафам і навукоўцам Арыстотэлесам - студэнтам Плятонавае Акадэміі.

Да дыялёгу МЭНОН

Бач. III. ...Мэнон... - імя аднаго з грэцкіх гэнэралаў, якім Плятон назваў адзін са сваіх дыялёгаў.

...Арыстыппос... гэтаксама як і Мэнон родам з Лярысы ў Тэссаліі; абодва вучні Ґорґіяса.

...сярод Алеўадаў... - род заможных Алеўадаў.

...Ґорґіяс... Пра Ґорґіяса зь Леантыну гл. дыялёг Плятона п.т. "Ґорґіяс".

Бач. II8. ...з Эмпэдоклесам...Эмпэдоклес, дзяржаўны муж і філёзаф родам з Аґрэґэнты ў Сыцыліі; вучыўся ў Пітаґораса і Пармэнідэса, адзначаўся вучонасьцю і вымоўным стылем. Расьцьвет ягонае дзейнасьці прыпадае прыблізна на год 460 п.н.э. З прычыны ягоных удачаў у лячэньні хворых быў узнаны за чараўніка. /Адна са старых вестак гаворыць, што быў ён узнаны за бога; іншая лягэнда кажа, што ён сам кінуўся ў полыме гары Этны зь меркаваньнем, што гэтакі адыход ягоны са сьвету станецца прычынаю ўзнаньня яго за бога; але далей кажацца, што вулькан

выкінуў адзін зь ягоных сандалаў і гэтым стала ведамым, якою сьмерцяю ён памер/. Ягоныя працы, якія дайшлі да нас у нязначных вынятках, былі пісаныя вершам. Эмпэдоклес быў першы з плюралістых, каторы зьвяртаў увагу на чатыры нязьменныя элемэнты: зямля, паветра, агонь і вада; ён прыняў навуку пітаґорэйцаў аб трансміґрацыі душ і гаварыў пра аднаго Бога, як адзін розум "бліскаючы праз сьвет хуткаю думкаю". Характэрным ёсьць для яго, што ён тады ўжо фармуляваў прымітыўную тэорыю, якая сягоньня ведамаю сталася, як тэорыя эвалюцыі.

Бач. I23. ...падобным да плоскае рыбы - морскае электрычнае торпэды... рыба, якая назоў свой выводзіць з лац. **torpedo** /ад слова **torpere** - быць пругкім, здранцьвелым/ і якая шокам электрычным /згэтул электрычнаю торпэдаю называецца/ чыніць нярухомаю кажную меншую рыбу, якую перамагае./Гл. Арыстотэлеса ў ангельскім перакладзе **History of Animals**, IX, 620, 37; Бел.СЭ, том IO, б. 238/.

Бач. I37 ...Анітос... сын Антэміёна, ведамы гэтаксама і з "Абароны Сакратаса".

Бач. I43. ...Тэоґніс... з Мэґары, старажытны элеґійны паэта. Радзіўся каля 570 і памер пасьля 492 г.п.н.э. Ягоная пісьменьніцкая спадчына складаецца з I389 радкоў, якія твораць сабою 694 элеґійныя строфы, званыя некаторымі дасьледчыкамі афорызмамі; паэтыцкі гэты твор, як некаторыя рэчазнаўцы ўтрымліваюць, у ладнай сваей частцы пісаны звычайнаю прозаю, скіраваны да свайго сябры, Кірноса ў хворме этычнага навучаньня, палітычных радаў і дае добры ўгляд у суадносіны тагачаснага штодзеннага жыцьця старажытнае Грэцыі. Твор ягоны з часам прайшоў г. зв. інтэрполяцыю, з прычыны чаго часта ўзьнікае сумліў што да аўтэнтычнасьці некаторых ягоных частак.

Бач. I45. ...бачыць Дайдалёсавыя статуі... Пра Дайдалёса, якога адны ўважаюць за міталяґічную постаць, а іншыя - за гістарычную, гл. чацьвертую кнігу Выбраных дыялёгаў Плятона ў перакладзе Яна Пятроўскага /"Протаґорас".../, 1975, б. I66.

Бач. I47. ...Тукідзідэс... атэнскі дзяржаўны муж, сын Мэлесіяса, кіраўнік арыстакратычнае партыі з апазыцыяю да Пэрыклеса. У 443 г.п.н.э. паддадзены остракізму. Яго ня трэба ўтоесамліваць з ведамым гісторыкам, Тукідзідэсам.

Бач. I48. ...Гомэр кажа пра Тэірэзіяса... Тэірэзіяс - ведамы старажытны прадказальнік з Тэбаў, пра яго чытаем у "Одыссэі", кн. X, 494.

# І Н Д Э К С

## ЭРРАТА

| бач. | радок зьверху | радок зьнізу | павінна быць | ёсьць |
|---|---|---|---|---|
| I0 | | 9 | мэханічныя | мэханчныя |
| 30 | I6 | | сказаў я, – што | сказаў я, што |
| 39 | I0 | | Клязо- I26 | Клязо- |
| 5I | | 22 | маеш | мае |
| 54 | | 6 | розных | розых |
| 63 | | 7 | абяртаецца | абартаецца |
| 68 | 2 | | агортваюцца | агорваюцца |
| 70 | 20 | | шае магло-б | шаемагло-б |
| 96 | I | | няроў- | нароў- |
| I07 | | I2 | Сакратаса, | Сакратас, |
| II4 | | 24 | справядлі- | справядлі |
| I22 | 3 | | 79 што́ | што́ |
| I22 | 3 | | будзе. | будзе. 79 |
| I33 | I8 | | ня 87 | ня |
| I35 | | 23 | ў | у |
| I37 | 3 | | ба- 90 | ба- |
| I37 | I9 | | да лекараў? | далекараў? |